

**Сабіна Іваноўская з Ячыноўскіх,** *жонка Вацлава Іваноўскага, адна з заснавальнікаў беларускай выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца" ў Санкт-Пецярбурзе ў 1906 г. і першай беларускай школы ў Вільні ў 1915 г.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 ( 72 ) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2015 г.

## *У НУМАРЫ:*



















***Стар. 2. Краязнаўчы “круглы стол” на Лідчыне.***
***Стар. 5. Кроніка Ліды.***
***Стар. 7. 100 гадоў першай беларус-кай школе на Лідчыне***
***Стар. 10. Лідскай “Талацэ” - 20 гадоў.***
***Стар. 12. Лідскія юбіляры 2015 года. Кастусь Тарасаў.***
***Стар. 16. Адкуль паходзіць род Адама Міцкевіча.***
***Стар. 20. Распаўсюд вершаў Ф. Багушэвіча на Лідчыне.***
***Стар. 22. Рэнерты ў Лідзе.***
***Стар. 23. Гісторыя, напісаная ў небе.***
***Стар. 27. Лідскі дэканат на пач. 20-х гг. XX ст.***
***Стар. 32. Пра лёс Слабадской плябані ў Лідзе.***
***Стар. 36. Успаміны пра Валянціна Ляцецкага***
***Стар. 68. Паўвеку. Вайна.***

**На першай старонцы выкладкі памятны знак у гонар герояў-авіятараў у Лідзе.**
*Здымак Станіслава Судніка.*

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// naszaslowa.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**9 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 1435.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.12.2015 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.06.2016 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 11700 руб.**
**індывід. 6 мес. - 23400 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792









**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# Краязнаўчы “круглы стол” на Лідчыне



3 кастрычніка 2015 г. на этнаграфічнай сядзібе “Пескі” пад Лідай прайшоў краязнаўчы “круглы стол”, прысвечаны 425-м угодкам надання г. Лідзе Магдэбургскага права. Сабраліся краязнаўцы з Ліды, Бярозаўкі, Ёдак, Дварышча. З Менска прыехаў малады гісторык Кірыл Сыцько. Арганізоўвала імпрэзу Лідская гарадская і Бярозаўская гарадскаая арганізацыі ТБМ.

Станіслаў Суднік зрабіў даклад пра гісторыю лідскай ратушы і пра найноўшую гісторыю дзейнасці лідскай грамадскасці па яе аднаўленні. Афіцыйна быў прадстаўлены макет лідскай ратушы, выкананы бярозаўскім скульптарам Яўгенам Лукашэвічам. Удзельнікі “круглага стала” даручылі Станіславу Судніку звярнуцца да лідскіх уладаў ад імя краязнаўчай грамады Лідчыны з прапановай аднавіць лідскую ратушу.



Кірыл Сыцько распавёў пра фонды з дакументамі Лідскага магістрата, пра тое, як яны аказаліся ў Менску, што само па сабе вельмі цікава, а таксама прачытаў даклад на тэму “Нефармальная ўлада рымакаталіцкіх святароў у Лідскім павеце”.

Былі прадстаўлены партрэты сяброў рэдакцыі газеты *"Ziemia Lidzka"*, якая выходзіла ў Лідзе ў 1936-39 гадах. Гэта было найлепшае краязнаўчае выданне на Усходніх Крэсах міжваеннай Польшчы. Фатаграфія рэдакцыі захавалася ў старой польскай газеце і мае вельмі нізкую якасць. З ініцыятывы лідскага краязнаўца Леаніда Лаўрэша лідскі мастак і скульптар Вадзім Вераб’ёў на аснове фатаграфіі зрабіў чатыры вялікія партрэты сяброў рэдакцыі. Леанід Лаўрэш прапрацаваў іхнія біяграфіі, якія самі глядзяцца, як ілюстрацыі да лёсу беларускага народа.

Было паднята пытанне пра Зблянскую школу, па ўсёй верагоднасці першую беларускую афіцыйную школу на тэрыторыі сучаснай Беларусі. У 1926 годзе палякі разабралі гэтую школу і перавезлі ў Беліцу. Присутны на “круглым стале” Іван Грос, родам з Дроздава, некалі хадзіў у гэтую Беліцкую школу, добра памятае яе і паабяцаў прыкласці намаганні, каб знайсці фатаграфію гэтай школы.



Напрыканцы Віктар Кудла з Дварышча паказаў фоташэраг з першага “Свята фермераў”, якое нядаўна адбылося ў Дварышчы. Акрамя ўсяго іншага на свяце дэманстраваліся ўзоры даўняй сельгастэхнікі: арфа, ручная малатарня, спрунжыноўка і інш. З гонарам Віктар Кудла распавёў, як удалося знайсці сабраць і давесці да ладу конны манеж. Манежам называлі і

# *Лідскія краязнаўцы ў перыяд міжваеннай Польшчы*





***Уладзіслаў Абрамовіч*** *- лідскі краязнавец, паэт, перакладчык, гісторык культуры, бібліёграф, архівіст. Нарадзіўся 9 траўня 1909 г. у Новым Двары каля Трокаў і лічыў сябе летувісам (у анкетах пісаў бацька - летувіс, маці - беларуска). Ведаў летувіскую мову. У 1933 г. скончыў Віленскую гімназію. Жыў у Лідзе з 1936 па 1939 г., узначальваў карэспандэнцкі пункт "Кур'ера Віленскага" і адначасова, быў галоўным рэдактарам газеты "Лідская зямля" ("Ziemia Lidzka"). У 1938 г. як аўтар выдаў кнігу пра Наваградчыну ("Strony Nowogrodzki. Skirce krajoznawcze". Lida, 1938.). Пасля 1945 г. і да канца жыцця працаваў кіраўніком аддзела рукапісаў Бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР. У 1951 г. атрымаў гістарычную адукацыю ў Віленскім універсітэце. Шмат займаўся перакладамі літоўскіх паэтаў на польскую мову. Выкладаў на кафедры бібліятэказнаўства Віленскага ўніверсітэта, таксама выкладаў польскую мову аспірантам універсітэта. Кіраваў літаратурным гуртком, які склаўся вакол польскамоўнай газеты "Czerwony Sztandar", быў сябрам Саюза пісьменнікаў. Пад імем Уладас Абрамавічус разам з Уладзімірам Дзьякавым выдаў найлепшую ў Савецкім Саюзе кнігу пра Валерыя Урублеўскага (Масква, 1964, 1968). Памёр 16 лістапада 1965 г., пахаваны на Росах у Вільні.*

***Міхал Шымялевіч*** *(18.X.1879 - 11.01.1969). Лепшы лідскі гісторык XX ст. Нарадзіўся з вёсцы Пеляса (цяпер Воранаўскі р-н), лічыў сябе барцяком. Адукацыю пачаў ў Лідскай павятовай вучэльні. У 1901 г. малады Шымялевіч працаваў у Лідскай судова-міравой акрузе, канцылярыі з'езду міравых суддзяў, памочнікам сакратара. Як малады гісторык-аматар атрымаў грант ад гістарычнага таварыства для вучобы ў Кракаве (з 1905 па 1908 г.). Атрымаўшы вышэйшую гістарычную адукацыю ў еўрапейскім універсітэце, даследчык вяртаецца ў Ліду. Верагодна, першай надрукаванай працай Шымялевіча была кніга "Горад Ліда і Лідскі замак" (1905). У 1927 г. Міхал Шымялевіч выбіраецца ў Гарадскую раду ад ТБШ. У 1936-39 гг. Шымялевіч быў сябрам рэдакцыйна-выдавецкага камітэта газеты "Лідская зямля" ("Ziemia Lidzka"), дзе ён апублікаваў каля 30-ці бліскучых краязнаўчых артыкулаў. У 1940 г. Міхал Шымялевіч быў вывезены ў Казахстан, ягоны дом у Лідзе быў канфіскаваны. Найвялікшую каштоўнасць меў велізарны архіў гісторыка, і таму адмыслова дасланыя ў Ліду выкладчыкі БДУ з Менска пачалі займацца апрацоўкай архіва Шымялевіча. Архіў згарэў разам з цэнтрам горада ў 1941 г. Сам М. Шымялевіч цудам выжыў у высылцы. Пасля 1948 г. жыў у Сопаце. Напісаў яшчэ некалькі каштоўных прац.*




*Аляксандр Снежка (1896-1975), нарадзіўся ў Кейданах (зараз - Летува). Лідскі краязнавец, аўтар шэрагу публікацый у газеце "Ziemia Lidzka", у 1937 г. як аўтар выдаў кнігу пра касцёл у Міры (“Kosciol farny w Mirze. Szkic monograficzny, 1587-1937”. Lida, 1937). Да 1939 г. працаваў у Лідзе рэферэнтам па культуры ў Арганізацыі вайсковай падрыхтоўкі паштовых работнікаў (PPW). Пасля Другой Сусветнай вайны жыў у Польшчы, заснавальнік і першы дырэктар Музея пошты і тэлекамунікацый ва Уроцлаве. Гісторык пошты, філатэліст, аўтар 400 публікацый.*




*Антон Грымайла-Прыбытка, сын генерал-маёра рускай арміі Аляксандра Прыбыткі. У 1920-30-х гг. неаднаразова выбіраўся ў Лідскую гарадскую раду, быў лаўнікам Лідскага магістрата і выдатным лідскім краязнаўцам, старшынём Лідскага краязнаўчага таварыства. Аўтар шэрагу артыкулаў і кнігі "Кароткі турыстычны даведнік па Лідскім і Шчучынскім паветах" (1936 г.). Пры канцы 1930-х гг. працаваў над вялікай манаграфіяй аб Лідскім і Шчучынскім паветах. 20 чэрвеня 1941 г. вывезены ў Мінусінскі край. Далейшы лёс невядомы.*

называюць не будынак і не пляцоўку, а конны прывад, з дапамогай якога конная цяга ператвараецца ў энергію вярчэння, каб рухаць сячкарню, малатарню ці іншыя прыстасаванні.



На сустрэчы можна было атрымаць апошні нумар “Лідскага летапісца” і буклет да 425-х угодкаў надання г. Лідзе Магдэбургскага права.

У завяршэнне былі акрэслены кірункі дзейнасці лідскіх краязнаўнаў на будучы час. А работы тут непачаты край. Чаго варты толькі праект “Бабуліна школа”, у выніку якога павінны быць сабраны матэрыялы пра ўсе школы, якія некалі існавалі на тэрыторыі Лідскага раёна, а цяпер закрытыя.

Спланаваны значныя выдавецкія праекты, у тым ліку поўны збор твораў М. Шымялевіча і збор твораў Ежы Путраманта.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Кроніка Ліды



4 верасня 2015 г. у Навасёлках пад Лідай адкрылася новая АЗС




1 кастрычніка 2015 года, у Міжнародны дзень пажылых людзей, настаяцель храма Усіх святых горада Ліды протаіерэй Уладзімір Яроміч асвяціў памятны камень у гонар закладкі “Алеі актыўнага даўгалецця” ў раёне Кургана несмяротнасці.

3 кастрычніка 2015 г. епіскап Лідскі і Смаргонскі Парфірый асвяціў “Ефрасіннеўскі крыж” на ўездзе ў Ліду з боку Дуброўні (па старой Менскай дарозе). Крыж асвечаны да 1000-годдзя скону св. роўнаап. князя Уладзіміра Святаслававіча.





14 кастрычніка 2015 г. у Лідзе насупраць раённага Палаца культуры адкрыты памятны знак у гонар герояў-авіятараў.









У канцы 2015 года Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці выдаў паўнаколерны буклет “Праект трансгранічнага супрацоўніцтва “Дух продкаў жыве ў нашых сэрцах” па выніках праекту трансгранічнага супрацоўніцтва паміж Латвіяй, Літвой і Беларуссю пры міжнароднай тэхнічнай дапамозе Еўрапейскага Саюза. 134 ст. А-4.
Укладальнік - Наталля Вайцюкевіч.

У канцы 2015 года ў Лідзе выйшаў 8-мы выпуск літаратурна-мастацкага альманаха “Ад лідскіх муроў” за 2012-2015 гг. 440 ст. А-5.
Галоўны рэдактар - Станіслаў Суднік.



# 100 гадоў першай беларускай школе на Лідчыне

Пачаткі беларускай школы сягаюць 1906 г., калі пад кіраўніцтвам Якуба Коласа (К. Міцкевіча), слаўнага беларускага паэта і пісьменніка, а таксама Язэпа Лёсіка, вядомага беларускага філолага, абодва па прафесіі настаўнікі, заснаваўся тайны настаўніцкі гурток, дзеля тайнага навучання беларускіх дзяцей у іх роднай беларускай мове[1]. У кастрычніку 1907 г. "Наша Ніва" паведаміла, што ў Вільні хутка адчыніцца пачатковае двухкласнае вучылішча для летувісаў. Рэдакцыя паведамляе, што праз два месяцы павінна пачаць працаваць школа, дзе дзетак будуць вучыць таксама і беларускай мове[2]. Але легальную беларускую школу адкрыць тады было яшчэ немагчыма.

І беларускія школы пачалі з'яўляцца без дазволу ўладаў. У карэспандэнцыі, стылізаванай пад сялянскую гутарку пад загалоўкам "З Лідскага павета" ў газеце "Наша Ніва" на пачатку 1908 г. аўтар пад псеўданімам "Калодка" паказаў, што сяляне ўжо добра зразумелі неабходнасць навукі для дзетак на сваёй мове: *"У вадной вёсцы надумаліся мужыкі наняць настаўніка ... цяпер нам усім дрэнна, а без навукі яшчэ горш будзе. Зямлі, брат, сваёй няшмат, дома сыны век не будуць сядзець, трэба будзе выхіляцца ў свет, а як чалавек невучоны, дык бяда: усюды папіхваюць і за дурня маюць! ... Антось Кумпяк (сказаў):*

*- Трэба нам наняць вучыцяля, ды такога, каб вучыў па нашаму, у такой мове, як самі гаворым; гэта на сам перад, а пасля хай вучыць дзяцей па польску і па расейску. Калі не будзе так, як я кажу, дык, дальбог, і капейкі не дам на якога іншага вучыцяля! Я шчыра раджу наняць вучыцеля Юзіка Кавальчука: ён, браты, усюды па гарадох, усё ведае, на ўсім-усякім чытанні знаецца, а сваёй мовы не цураецца, ад яе не адракаецца! Такі нам і патрэбны ..."* [3].

Той жа аўтар праз некалькі месяцаў пісаў: *"Устаюць па малу беларусы на свае ногі і самі працуюць, каб падняць культуру. Толькі бядуюць, што няма гдзе вучыць дзяцей, школак ў воласці толькі адна - народная, а дзяцей для навукі ў кожнай вёсцы будзе па 30, прыйдзе зіма, і вясковыя дзеці замест навукі будуць сабак ганяць ... Але мужыкі стараюцца і самі наймаюць вучыцялёў на зіму. Школкі такія добра вучаць і па руску, і па польску, і тлумачыць ім вучыцель усё ў роднай беларускай мове. Крыўда толькі дзецям ў тым, што такія школкі называюць "тайнымі" і закрываюць. У 1908 гаду начальства закрыла 4 такія школы ў Ганчарскай воласці, у вёсках Фалькавічах, Мінойтах, Песках і Заборцах, дык яшчэ 2 школкі ў Беліцкай воласці ў в. Нецяч і Чаплічы"* [4]. Як бачым, толькі ў невялікай частцы тагачаснага Лідскага павета, за адзін год улады не запачаткавалі, а закрылі шэсць беларускіх школ!

Сяляне Лідчыны гатовыя былі вучыць сваіх дзяцей за свае кроўныя грошы, але расійская ўлада пераследавала непадкантрольную ёй адукацыю. Газеты таго часу рэгулярна змяшчалі інфармацыю з усёй Беларусі пра закрыццё "тайных" школ і судовы пераслед іх арганізатараў.

У вёсцы Фалькавічы пастаноўка справы народнай адукацыі збольшага задавальняла сялян: *"В. Фалькавічы, Лідскага павета, Ганчарскай воласці. Ёсць ў нас вучылішча Любарскага обчэства. Усе нашы сяляне цешацца і з вучылішча, і з вучыцеля, каторы вельмі добра абходзіцца з дзеткамі. Не саўсім толькі здаволены каталікі тым, што ім прыходзіцца вучыцца па расейску. Хаця ўсе тут беларусы, але цёмныя людзі хочуць вучыцца пацяроў не па беларуску, а па польску, бо думаюць, што як каталік, то ўжо і палякам стаўся"* [5].

Але моўнае пытанне сялянская грамада мела магчымасць вырашыць па сваім разуменні - беларуская мова задавальняла ўсіх: *"У Лідскім павеце гаспадары пачалі кратацца каля прасветы сваіх дзетак. У аднэй вёсцы зрабілі прыгавор аб вучылішчу, але агледзяліся, што у гэтым вучылішчу адразу вучаць па расейску, дык першы год дзеці толькі час трацяць, бо дрэнна разумеюць гэту мову, вось і сяляне надумалі з самых пачаткаў вучыць сваіх дзяцей дома. Нанялі такога вучыцеля, каторы ўмее добра іхнюю беларускую родную мову, і пераканаліся, што гэтак шмат болей карысці для дзяцей, бо ім усё, што вучыцель да іх кажа, зразумела, і пасля ў школкі ляхчэй вучыцца"*[6].

Пра прагу сялян даць адукацыю дзецям пісаў народны карэспандэнт пад псеўданімам "Тутэйшы" з толькі што адбудаванага пасля пажару мястэчка Беняконі: *"У нашым народным вучылішчу было заўсёды ня больш 50-60 вучняў, а ў гэтым годзе ўсе сунуліся да навукі, і ўжо вучанікоў больш 100 і яшчэ просяцца, але не прымаюць. На гвалт патрэбна тут двухкласнае вучылішча, але ніхто аб гэтым не дбаець"* [7].

Ахвочых вучыцца і насамрэч было болей, чым маглі прыняць школы, нейкі "А.С." пісаў з Бутрыманцаў Лідскага павета: *"... асвета сялян тут па вёсках ідзе не праз школы, бо ўрадавая школа ўсяго адна на цэлую воласць - і воласць не малую. Хадзіць у тую школку ня кожнаму спадручна, ды і школка малая: усе месцы заняты, а жадаючых навукі шмат, дзеля гэтага сяляне прымушаны самі вучыць сваіх дзяцей і вучаць: бо ўцямілі патрэбу навукі. Усюды добра граматнаму - ці дзе паехаў, ці пайшоў. Чытаць умеюць ня толькі мужчыны, але і ўсе блізка кабеты, кабеты ж і вучаць чытаць дзяцей, сабраўшы па якіх 2-3, - больш ня можна, бо пацягнуць... Галоўная мэта гэтай навукі чытанне на малітоўніку. На малітоўніку дзеці і чытаць вучацца, ён і астаецца ў іх на заўсёды адзінай*

*літаратурай, якую чытае тутэйшы грамацей. Гэтыя кніжкі, малітоўнікі, друкаваны ў польскай мове, і дзеля гэтага прывык тутэйшы беларус вязаць сваю веру з польшчынай. А праз цемнату сваю ён веру лічыць за нацыянальнасць і дзеля гэтага называе сабе палякамі. І гэта адбіваецца на жыцці"* [8].

На пачатку ХХ ст., неабходнасць адукацыі ўжо была ўспрынятая сялянамі Лідчыны, як адзін з галоўных фактараў жыццёвага поспеху сваіх дзяцей. Так сама пачала ўсведамляцца неабходнасць і мэтазгоднасць вучобы менавіта на роднай мове.

**Пачалася Першая сусветная вайна.**

Немцы занялі Ліду 22 верасня 1915 г.

На акупаваных землях была арганізавана акруга Обер-Ост (Ober-Ost). Лідскі павет для больш надзейнага кантролю за тэрыторыяй быў падзелены на чатыры меншыя: Лідскі, Радуньскі, Васілішскі і Шчучынскі.

Першая беларуская школа ў зоне Обер-Ост была адкрыта 13 лістапада 1915 года ў Вільні на Юр'еўскай вуліцы дзякуючы намаганням нашай зямлячкі А. Пашкевіч (Цёткі) і Б. Пачобкі.

На пачатку сакавіка 1916 года газета "Гоман" паведаміла, што нямецкі галоўнакамандуючы Усходнім фронтам Гіндэнбург выдаў загад пра арганізацыю школ. Сярод іншага ў дакуменце гаворыцца: *"Беларуская мова, як адменная ад расейскай, дапускаецца да ўжытку без ніякіх перашкод. Аб навуцы рэлігіі сказана, што яна павінна выкладацца ў матчынай мове вучняў - значыць, у тэй мове, у якой бацькі гавораць з дзяцямі"* [9].

Найважнейшай праблемай быў недахоп настаўнікаў, большай часткаю мабілізаваных ці эвакуяваных у Расію. Аднак беларусы скарысталіся з загаду Гіндэнбурга, і ў лістападзе 1916 года газета паведаміла, што ў Лідзе *"для тутэйшых настаўнікаў і настаўніц наладжаны педагагічныя курсы. На іх пакуль што вучыцца 26 душ"* [10].

Улады Обер-Оста прынялі рашэнне адкрыць беларускую настаўніцкую семінарыю ў Свіслачы, дзе на месячных курсах павінны былі атрымаць падрыхтоўку новыя кадры. Цяжка аказалася знайсці выкладчыкаў, таму заняткі ў семінарыі пачаліся толькі 15.10.1916 і працягваліся да 15.11.1918. Дырэктарам семінарыі быў анямечаны сілезец Бэндзеха, а выкладчыкамі Б. Пачобка і Квяцінскі, часова - прафесар Рудольф Абіхт з Уроцлаўскага ўніверсітэта. У выніку тут атрымалі падрыхтоўку 144 настаўнікі беларускіх школ.

У Свіслачы вучылася і моладзь з Лідчыны: *"У тутэйшай беларускай вучыцельскай семінарыі навукі ідуць поўным ходам. Работа ідзе ахвоча, бо ўсе курсісты - гэта шчырыя беларусы, сыны беларускай вёскі, з'ехаўшыеся з розных ваколіц: з-пад Васілішак, Плянт, Гродна, Беластока і г. д. Хаця курс навук толькі трохмесячны, аднак пры акуратна наладжанай рабоце яго праходзяць, як мае быць, і ў снежні месяцы вучні пачнуць практыку ў адкрытай пры семінарыі пачатковай беларускай школе. У семінарыі варункі навукі надта выгодныя. Вучні жывуць у самой семінарыі і маюць тут поўнае ўтрыманне. Кормяць добра: на абед ёсць мяса, а на вячэру даюць гарачую страву. І за гэта - разам з платай за вучэнне - бяруць з іх у месяц 41 марку, за ўвесь курс - 123 маркі. Гэткія грошы лёгка можа сабраць кожная вёска ці грамада і за гэта можа выхаваць сабе свайго настаўніка - аднаго паміж сваіх сыноў, абы ён скончыў народную школу. 1 лютага курс навукі будзе закончаны і пачнецца новы курс, на каторы можна запісацца. Хай жа людзі загадзя падумаюць аб тым, каб сваіх дзяцей выправіць на навуку і гэтак зусім невялікім коштам даць ім магчымасць зарабіць сабе на хлеб і служыць свайму народу"* [11].

На пачатку 1917 года паведамлялася пра новы набор у семінарыю: *"Запісвацца на новы трохмесячны курс у Свіслацкай Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі, каторы пачнецца 1 лютага, трэба ў Вільні не пазней за 10 студзеня ў Stadschulrata, Дамініканская 3, пакой 55. Варункі навукі: за навучанне - 5 марак у месяц, за поўнае ўтрыманне - 36 м., разам - 41 м. У месяц і за ўвесь курс - 123 м. Плаціць можна памесячна - наперад. Хто хацеў бы ехаць вучыцца з вёскі, можа заявіць аб гэтым у сваім Крэйсамце (Kreisamt - павет), дзе яму дадуць усе патрэбныя ведамасці"* [12].

Першай беларускай школай на Лідчыне была школа ў вёсцы Збляны. У 1914 годзе ў Зблянах згарэў будынак старой школы, і да пачатку Першай сусветнай вайны сяляне атрымалі страхоўку ды купілі будаўнічыя матэрыялы. Пры канцы 1915 года новы будынак быў пабудаваны, а вяскоўцы, скарыстаўшыся сваім правам, адкрылі беларускую школу. Яна існавала тут да сярэдзіны 1920-х гг.[13].

У 1923 г. дзейнасць старэйшай на Лідчыне беларускай школы ў Зблянах была прыпынена. *"Усе нашыя людзі былі рады, што дзеці неяк шыбка навучаліся і чытаць і арытмэтыкі. Але хутка здарылася няшчасьце: нашага вучыцеля інспэктар Лідскага павету, пан Вайтовіч прымусіў паехаць на польскія курсы ў Кракаў, а другога вучыцеля-беларуса на яго месца не прызначыў, і замёрла наша беларуская школа"* [14].

Вясной 1925 г. жыхары вёскі Збляны падпісалі да павятовага школьнага інспектара дэкларацыю за беларускую школу, а потым, не гледзячы на ціск, дружна патрабавалі свайго[15]. Тады ўлады вырашылі перанесці будынак зблянскай школы ў Беліцу. Сяляне, высілкамі якіх гэта школа будавалася, пісалі пратэсты ў Міністэрства Асветы і да мясцовых уладаў. Аднак адказу не атрымалі. У лютым 1926 г. *"ад староства прыехалі тэхнікі ўжо разьбіраць гэты будынак. На дамаганьне кіраўнікоў разбору, каб сяляне далі рабочых і падводы, усе жыхары в. Збляны катэгарычна адмовіліся і на сходзе вырашылі зрабіць яшчэ адпаведныя крокі, каб уратаваць з такім трудом*

БЕЛАРУСКАЯ НІВА

жа Мілюку на ягоную скаргу аб нападзе Староста Баранавіцкага павету? N.

### Да справы будынку беларускае школы ў в. Збляны.

(Беліцкая валасьць Лідзкага павету).

(гл. „Карэспандэнцыі" у № 16 (29) „Бел. Нівы").

Справа беспадстаўнага пераносу школьнага будынку з вёскі Збляны ў мястэчка Беліцу пачынае набываць значэньне шырэйшых разьмераў. З прычыны часовага перарыву ў паседжаньнях Сойму дэлегацыя ад сялян вёскі Збляны, шукаючы беларускіх дэпутатаў, сьціравалася была ў прошлым тыдні не ў Варшаву, а ў Вільню. Дэпутаты Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады ў гэты час былі на працы ў правінцыі і толькі Сым. Рак-Міхайлоўскі аставаўся ў Вільні, які з прычыны падупаўшага здароўя ўжо ад двух тыдняў, не выяжджаючы з Вільні, лечыцца. Паінфармаваны выбарцамі аб тым, што ўчыняе ўлада на мейсцы з сялянамі асабліва у справе адбіраньня ад в. Збляны школьнага будынку, які зблянаўцы збудавалі ў 1915 г. на мейсцы згарэўшага, дэпутат, ня могучы асабіста выехаць ў Варшаву, выслаў 17. II. да Міністэрства Асьветы з копіяй да Міністэрства Унутраных Спраў у Варшаве тэлеграму гэткага зьместу:

„Назначаны праз Лідзкага Старасту супроць волі гмінны рады войт Беліцкай гміны Вадэйка пад намовамі ксяндза з фальварку Нецеча проці волі ўсяе люднасьці пераносіць з дазволу Старасты школьны будынак, збудаваны мяйсцоваю люднасьцю, з вёскі Збляны да мястэчка Беліца Лідзкага павету. Пратэстуючы проці бясправўя і пагвалчаньня правоў беларускае люднасьці, прашу аб безадкладным затрыманьні разборкі будынку да часу належнага вырашэньня гэтае справы паводле скаргі сялян вёскі Збляны, перасланай Беларускім Соймавым Клюбам да Міністэрства Асьветы ў красавіку леташняга году.

*Рак-Міхайлоўскі — дэпутат*".

Барацьба за будынак гэты і за сваю беларускую школу ў в. Зблянах мае ўжо сваю гісторыю. Права на гэты будынак зблянаўцы маюць бясспрэчнае. Гэта-ж зблянаўцы самі, дабіўшыся ў 1914 г. страхоўкі за згарэўшы стары будынак ранейшай расейскай школы, пабудавалі сабе за 1½ гады новы і вялікі будынак. Гэта-ж яны дабіліся, што ў часы нямецкае акупацыі з'арганізавалі ў сваей весцы ў гэтым будынку беларускую школу. Гэта-ж яны сваей беларускай упартасьцю і адзінствам волі дабіліся таго, што пры „першых палякох" яны моцна і мужна трымалі сваю беларускую школу, трымалі яе і ў часы „Сярэдняе Літвы", трымалі амаль не да выхаду ў сьвет так званых „языковых уставаў". Польская школьная ўлада, чым далей, тым больш насядала на Зблянаўскую беларускую школу, зьмяняючы адных і назначаючы другіх вучыцялёў туды і гэтак ціхім манерам, ступнёва перарабляючы беларускую школу на двуязычную—польска-беларускую, а потым і зусім выганяючы беларускую мову з Зблянаўскай школы. Вясной 1925 г. зблянаўцы, як адзін, склалі дэкларацыі польскаму школьнаму інспэктару ў

*збудаваную іхнімі рукамі для сваіх дзетак школу, для чаго праз дэлегацыю зьвярнуліся да Пасольскага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады аб падтрыманьні іх дамаганьняў"*[16].

Па справе школы дэлегацыя зблянскіх сялян адмыслова сустрэлася ў Вільні з беларускім паслом у Сойм Сымонам Рак-Міхайлоўскім, які як раз у гэты час лячыўся ў Вільні. Рак-Міхайлоўскі, не могучы асабіста выехаць у Варшаву, 17.01.1926 г. даслаў тэлеграмы ў Міністэрствы Асветы і Унутраных спраў гэткага зместу: *"Назначаны праз Лідзскага Старасту супраць волі гміннай рады войт Беліцкай гміны Вадэйка пад намовамі ксяндза з фальварку Няцеча проці волі ўсяе люднасьці пераносіць з дазволу Старасты школьны будынак, збудаваны мяйсцовай люднасьцю з вёскі Збляны да мястэчка Беліца Лідзкага павету. Пратэстуючы проці бяспраўя і пагвалчаньня правоў беларускай люднасьці, прашу аб безадкладным затрыманні разборкі будынку да часу належнага вырашэння гэтае справы паводле скаргі сялян вёскі Збляны, перасланай Беларускім Клюбам да Міністэрства Асьветы ў красавіку леташняга году.*

*Рак-Міхайлоўскі, дэпутат"* [17].

Абараніць сваю школу беларускія сяляне не змаглі.

13 лістапада 1925 г. беларуская грамадскасць па усёй Заходняй Беларусі святкавала 10-я ўгодкі існавання беларускай школы[18]. Сёлета мы можам і павінны годна адсвяткаваць 100-гадовы юбілей першай афіцыйнай беларускай школы на Лідчыне.

***Леанід Лаўрэш.***

**Крыніцы:**


1 Беларуская Крыніца №16, 24 красавіка 1932.
2 Nasza Niwa №31, 12(25) akciabra 1907.
3 Nasza Niwa №1, 4(17) stycznia 1908.
4 Nasza Niwa №15, 18(31) lipnia 1908.
5 Наша Ніва №12, 18(31) сакавіка 1910.
6 Наша Ніва №13, 25(7) сакавіка 1910.
7 Наша Ніва №50, 15(28) лістапада 1911.
8 Наша Ніва №2, 13(26) студзеня 1912.
9 Homan № 8, 10 marca 1916.
10 Homan № 79, 14 listapada 1916.
11 Homan № 85, 5 snieznia 1916.
12 Гоман №2, 5 студзеня 1917 г.
13 Беларуская Ніва. №17(30), 27 лютага 1926 г.
14 Наш Сьцяг №3, 13 чэрвеня 1923.
15 Беларуская Ніва №17(30), 27 лютага 1926.
16 Беларуская Ніва №15(28), 24 лютага 1926.
17 Беларуская Ніва №17(30), 27 лютага 1926.
18 Жыццё Беларуса №18, 7 лістапада 1925.

# Лідскай “Талацэ” - 20 гадоў

Свой дваццацігадовы юбілей адзначыў у 2015 годзе ансамбль песні і танцу "Талака", што дзейнічае на базе Лідскіх электрычных сетак. Яго вядомасць даўно пераступіла межы Ліды і Гарадзенскай вобласці, роўна як і распаўсюдзілася за рамкі сістэмы энергетыкі. З 2004 года ансамбль песні і танцу "Талака" насіў званне "народны", а ў 2012 годзе слова "народны" ў поўнай назве калектыву змяніла слова "заслужаны". У статусе народнага адзначаў ансамбль некалі сваё 10-годдзе. У статусе заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь падышоў ён да свайго 20-годдзя.

Адлік сваёй творчай біяграфіі ансамбль песні і танцу Лідскіх электрычных сетак "Талака" вядзе з 1994 года. Узнік творчы калектыў не на пустым месцы: на прадпрыемстве існаваў свой хор, старэйшыя ўдзельнікі якога і склалі аснову "Талакі". А з таленавітай моладзі была створана танцавальная група. У наступным, 1995, годзе ансамбль упершыню выступіў на сцэне перад гледачамі. Год сцэнічнага дэбюту калектыву і прынята лічыць годам яго стварэння.

Стаяў ля вытокаў ансамбля песні і танцу "Талака", фарміраваў яго першапачатковы рэпертуар таленавіты музыкант і арганізатар Вальдэмар Захаркевіч, які і па сённяшні дзень з'яўляецца нязменным мастацкім кіраўніком калектыву. Танцавальную групу ўзначальвае харэограф Марына Лесагор, чыімі намаганнямі танцавальныя нумары ў выкананні "Талакі" сталі своеасаблівай візітнай карткай гэтага творчага калектыву. З прыходам у ансамбль хормайстра Уладзіміра Гарачова па-новаму, больш магутна, ярка і выразна, загучаў хор. Уладзімір Фёдаравіч таксама робіць апрацоўкі беларускіх народных песень.

- Амаль усе ўдзельнікі калектыву - работнікі Лідскіх электрычных сетак, - расказвае аб складзе "Талакі" яе мастацкі кіраўнік Вальдэмар Захаркевіч. - Інжынерна-тэхнічных работнікаў, спецыялістаў, электраманцёраў, муляроў, кіроўцаў і іншых людзей зусім "несцэнічных" прафесій аб'яднала любоў да беларускай песеннай спадчыны, жаданне ў вольны час спяваць і танчыць. На сённяшні дзень агульная колькасць "талакоўцаў" - каля шасцідзесяці чалавек. Самы малодшы з нас - амаль што равеснік ансамбля, старэйшаму - больш за шэсцьдзясят гадоў. Сённяшняя "Талака" - гэта тры яскравыя творчыя групы: харавая (з якой і пачаў некалі "расці" калектыў), харэаграфічная і аркестравая.

Наш рэпертуар заснаваны на беларускім песенным і танцавальным фальклоры, нацыянальнай культуры і традыцыях, у прыватнасці - культуры і традыцыях прынёманскага краю. Створаныя за дваццаць год існавання калектыву песенныя нумары і вакальна-харэаграфічныя кампазіцыі - яскравы прыклад сцэнічнага адлюстравання побыту і працы беларускага народа, яго гісторыі. Ёсць у рэпертуары ансамбля і рускія, украінскія народныя песні і танцы, творы сучасных аўтараў.

Творчае жыццё ансамбля насычана падзеямі,





калектыў шмат гастралюе і выступае на розных мерапрыемствах, удзельнічае ў конкурсах… Нас не раз запрашалі на канцэрты ў Палац Рэспублікі, на Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур, на Свята беларускага пісьменства і іншыя мерапрыемствы, прыняць удзел у якіх лічыць за гонар любы творчы калектыў. Наш ансамбль - неаднаразовы дыпламант абласных і рэспубліканскіх аглядаў-конкурсаў самадзейнай мастацкай творчасці сярод прадпрыемстваў энергетыкі, энергетычнай і паліўнай прамысловасці. У 2010 годзе калектыў стаў лаўрэатам I ступені Рэспубліканскага конкурсу вакальна-харавых калектываў, прысвечанага 100-годдзю з дня нараджэння народнага артыста СССР Генадзія Цітовіча. Бачылі нашу "Талаку" дэлегаты III Усебеларускага народнага сходу, удзельнікі канферэнцыі краінчальцоў СНД у Менску, лідчане і госці Ліды падчас правядзення ў нашым горадзе рэспубліканскіх “Дажынак-2010”.

У 2014 годзе "Талака" прадстаўляла нашу краіну ў Польшчы на Міжнародным фестывалі "Падляская актава культур" (Беласток). Бягучы, юбілейны, год парадаваў нас перш за ўсё ўдзелам у рэспубліканскім Дні беларускага пісьменства, які праходзіў у Шчучыне, і фінальным гала-канцэрце рэспубліканскай акцыі "Харавое Веча".



Час ідзе... Пайшоў на заслужаны адпачынак былы дырэктар Лідскіх электрычных сетак Пётр Лабан, пры якім "Талака" стваралася, расла і мацнела і які падтрымліваў яе дзейнасць. Новы дырэктар прадпрыемства Віктар Жук зазначыў: ""Талака" была, ёсць і будзе". Творчае жыццё ансамбля працягваецца, і трэцяе дзесяцігоддзе гэтага жыцця, спадзяёмся, таксама будзе напоўнена яркімі выступленнямі, гастролямі, творчымі здабыткамі і перамогамі.

***Алесь Мацулевіч.***

# Лідскія юбіляры 2015 года

## 75 гадоў з дня нараджэння Кастуся Тарасава

**Кастусь ТАРАСАЎ** (10 кастрычніка 1940, Менск - 20 сакавіка 2010, Менск) - беларускі пісьменнік.

З сям'і службоўца. Пасля заканчэння сярэдняй школы (1957) на працягу трох год працаваў слесарам-зборшчыкам на Менскім механічным заводзе, калектарам у Паўночна-Заходняй геолага-разведачнай экспедыцыі, слесарам-мантажнікам у арганізацыі "Спецэлеватармельбуд". Вучыўся на хімічным факультэце Беларускага політэхнічнага інстытута (1960-1965). Пасля заканчэння інстытута працаваў майстрам шкловарэння на шклозаводзе "Нёман" у Бярозаўцы Лідскага раёна, тэхнолагам на віцебскім заводзе "Маналіт". Быў рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі ў выдавецтве "Вышэйшая школа" (1967-1975), журналістам па дагаворы і загадчыкам аддзела прапаганды і агітацыі газеты "Знамя юности" (1975-1977), рэдактарам аддзела мастацтва і крытыкі часопіса "Неман" (1977-1983), спецыяльным карэспандэнтам газеты "Літаратура і мастацтва" (1986-1988). З 1990 адказны сакратар часопіса "Спадчына". Працаваў у газеце "Свабода", "Навіны", "Наша Свабода". Быў выпускаючым рэдактарам газеты "Новы час".

Так атрымалася, што сябры ТБМ увесь час хацелі мець не толькі "Наша слова", як трыбуну арганізацыі, але і выдаваць газету з шырокім беларускім агульнакультурным зместам, газету для нацыянальнай культурнай эліты. Канцэпцыя газеты, яе назва былі падрыхтаваны тагачасным намеснікам старшыні ТБМ Сяргеем Кручковым і Кастусём Тарасавым, які ўжо меў на той час добры досвед у выдавецкіх справах.

Кастусь Тарасаў меў сваё бачанне "Новага часу", ён заўважаў новыя тэндэнцыі ў сусветным кантэксце, праецыраваў іх на нашу рэчаіснасць. Таму рабіў стаўку на матэрыялы не аднамомантныя, а на больш важныя рэчы - публікацыю матэрыялаў, якія будуць запатрабаваныя і ў перспектыве. Так згодна з яго канцэпцыяй газета набыла сваё аблічча, прэтэндуючы на тое, каб стаць выданнем для інтэлектуальнай эліты. Пры гэтым заставалася прынцыповай пазіцыя - ажыццяўляць выданне на беларускай мове.

У 1966 г. пачаў друкавацца як журналіст. З мастацкім творам выступіў упершыню ў 1976 годзе (аповесць "Следственный эксперимент", часопіс "Неман"). Пісаў на рускай і беларускай мовах. Аўтар гістарычных аповесцяў пра мінулае Беларусі. Аўтар кніг аповесцяў "День рассеяния" (1980), "В час Стрельца" (1981), "Странствие в тесном кругу" (1986), "Погоня на Грюнвальд" (1986), зборніка гістарычна-літаратурных эсэ "Память про легенды" (1984, пашыранае



выданне на бел. мове 1990), "Золотая горка" (1998), “Единственный свидетель - Бог” (1991), “Тры жыцці княгіні Рагнеды” (1997), “Беларусь: Гістарычнае падарожжа для дзяцей” (1999), “Апошняе каханне князя Міндоўга” (2000), “Крыж памяці. Кароткі спіс войнаў, паўстанняў, рэпрэсіяў, катастрофаў, якія выпалі на лёс Беларусі за тысячагоддзе” (2001) і іншыя.

Па матывах аповесці К. Тарасава "Чорны шлях" (рас. "Стая ворон над гостинцем") драматург Аляксей Дудараў стварыў п'есу "Ядвіга" (Купалаўскі тэатр, рэж. Валеры Раеўскі).

Супрацоўнічаў з беларускім аддзяленнем Савецкага Фонду культуры на чале з Іванам Чыгрынавым, потым у кастрычніку 1988 года ўвайшоў у Аргкамітэт па заснаванні БНФ і ўдзельнічаў у выбарах у ВС БССР у 1990 годзе.

Прэмія Міністэрства абароны СССР за раман "Погоня на Грюнвальд" (1988).

Прэмія "Залаты апостраф" часопіса "Дзеяслоў" за аповеды "Брыгіткі" і "Нячутныя гукі самоты" (2007).

Прэмія імя Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра. "За актыўную і плённую працу ў галіне гістарычнай прозы і эсэістыкі, што спрыяе фармаванню сучаснай нацыянальнай ідэнтыфікацыі беларусаў" (2010).

Кастусь Тарасаў стаў годным спадкаемцам Уладзіміра Караткевіча, які ў свой час напісаў яму рэкамендацыю для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў БССР. "Беларускі кнігазбор" выдаў том яго выбраных твораў.

## З біяграфіі Кастуся Тарасава

**Кастусь Іванавіч Тарасаў** нарадзіўся 10 кастрычніка 1940 года ў Менску ў сям'і Івана Тарасава і Марыны Матусевіч.

Бацька - Іван Міхайлавіч Тарасаў (1906 - 1973) быў родам з вёскі Горкі Віцебскай вобласці. Гэтаму чалавеку выпаў няпросты лёс. Яго жыццё пачалося з трагічнага здарэння. У пяцігадовым узросце хлопчык пашкодзіў сабе пазваночнік (загуляўшыся з братамі, ён упаў з печы), бацькі не адвезлі сына да доктара, і неўзабаве ў хлопчыка пачаў расці горб. Насуперак нешчаслівым абставінам бацька Кастуся Тарасава знайшоў свой шлях у жыцці. Ён юнаком адправіўся ў Менск, скончыў інстытут... Пазней Іван Тарасаў стаў буйным вучоным-хімікам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР, выкладаў у Беларускім політэхнічным інстытуце. "Іван выбіўся ў людзі", - пэўна, сказалі б яго аднавяскоўцы, давядзіся ім даведацца пра лёс вясковага калекі.

**Бацькава вёска (з успамінаў "Ветах")**

*"У годзе 1950-ым, ніяк не раней, бацька ехаў на машыне ў Віцебск і вырашыў паглядзець на рэшткі роднай вёскі. Ён узяў з сабой мяне - вось так я таксама аднойчы ў жыцці пабачыў айчыну. Мы спыніліся ў бацькоўскага прыяцеля, калгаснага брыгадзіра. Ён узяў двух асядланых коней, і мы паехалі, я ехаў з бацькам. Дзень быў сонечны. Мы ехалі пакінутай дарогай, кіламетраў пяць. Я не ведаў тады, што бацька не быў на родным двары з 1932 года - яго пакрыўдзіла маці. Яшчэ я не ведаў, якім быў мой дзядуля, калі ён памёр, калі памерла мая бабуля, маці бацькі. Я ехаў у незнаёмае месца, дэталі кароткай гутаркі з прыяцелем мяне не цікавілі. Я чуў, што яны паміж сабою гаварылі, і ўсе іх словы праляцелі міма вушэй. Нарэшце паказалася вёска. Толькі коміны - ні платоў, ні пабудоў, ні рэштак паваліўшыхся дахаў. Толькі аблезлыя коміны з выдранымі дзверцамі ды нетоптанай дзікай травой вакол. Бацька і прыяцель параіліся, які з комінаў належаў бацькавай хаце, а я так нічога і не ўбачыў.*

*Цяпер я ўбачыў усё тое жыццё - нямецкія танкі на знявечаных руінах вёскі. Вёска называлася Горкі. Яна пазначана сярод разбураных немцамі дзевяці з паловай тысяч і не адрадзілася пасля танкавага наезду".*



***Бацькі***

Маці пісьменніка (1910 - 2007) Марына Матусевіч была мянчанкай. У пасведчанні аб нараджэнні яна была запісана полькай, але, як казаў сам Кастусь Тарасаў, гэта было ад таго, што сям'я маці была каталіцкай, а на тэрыторыі Беларусі ў тыя часы католікі часта запісваліся палякамі, у той час як праваслаўныя - рускімі. Марына Тарасава скончыла швейны інстытут у Ленінградзе. Падчас вучобы яна выступала ў аматарскім тэатры і на ўсё жыццё захавала любоў да тэатра і акцёрства. Пасля вайны Марына Тарасава заставалася хатняй гаспадыняй. Разам з тым яе дзейны характар патрабаваў выхаду. Яна шмат часу выдаткоўвала на грамадскія справы. Гэта былі як ініцыятывы ў школе, дзе вучыўся сын Кастусь і малодшая дачка Таццяна, так і мерапрыемствы большага размаху. Напрыклад, у першыя гады пасля Айчыннай вайны яна бралася за арганізацыю дабрачынных спектакляў для дзяцей-сірот. Марына Тарасава самастойна дамаўлялася з менскімі тэатрамі пра такія спектаклі і брала на сябе ўсю арганізацыйную частку.



***Бабуля Ядвіга***

Шлюб з Іванам Тарасавым быў другім у яе жыцці. Ад першага шлюбу ў Марыны Тарасавай была дачка Зара (1933 г.н.).

У дзяцінстве Кастусь Тарасаў быў вельмі блізкі з бабуляй Ядвігай Матусевіч. Яна раптоўна памерла, калі хлопчыку было дванаццаць. Пра бацьку і пра бабулю гл. аўтабіяграфічны аповед "Нячутныя гукі самоты" (рас. "Шепот полнолуния").

**Стары двор**

*"Часам, калі выпадае, заходжу на стары двор - тут прайшло маё дзяцінства. Падыходжу да пад'езда, дзе мы жылі на першым паверсе, да вокнаў кухоннага і пакоя, у якім жылі бабуля, я і сястра. Зараз у двары ўсё па-іншаму. Толькі пад'езды тыя ж, адкуль выбягалі сябры. Двор быў забудаваны адрынамі - восемдзесят адрын. На вузенькім тратуары старэйшыя хлопцы і дзяўчаты танцавалі пад патэфон або акардэон. У першым пад'ездзе жылі Фарберавы - усё нізенькія і тоўсценькія, мы кідалі ім у вокны дымавухі і заліваліся рогатам, калі яны выбягалі на вуліцу з крыкамі: "Хулиганы". Была тут радыёмайстэрня, якую мы абакралі, прарабіўшы ў даху дзірку, а затым алюмініевымі стужкамі з кандэнсатараў былі ўпрыгожаны ўсе дрэвы на Маскоўскай вуліцы, як на карнавале. На самым краі даху над пятым пад'ездам*

*некалі сядзеў Манах - і кідаў уніз котку з падвязаным да задніх ног хвастом. А яшчэ ў доме былі склепы - у першым была радыёмайстэрня, у другім жыла вялікая сям'я, у якой сын Вова загінуў на нашай вуліцы пад трамваем. У трэцім класе я закахаўся ў дзяўчынку з першага пад'езда і распавёў сваім сябрам. Назаўтра на асфальце каля кожнага пад'езда было мелам вялікімі літарамі напісана: "К + Т = Л". Я заціраў гэтую здраду. З сёмага пад'езда, дзе мы жылі, вынеслі хаваць бабулю. Яе пранеслі міма ўсіх пад'ездаў, нібы развітваючыся з імі, у край двара, там стаяў аўтобус. А ў хляве заставалася яе каза, якую я даіў".*


**Кім Хадзееў**

У шаснаццаць гадоў Кастусь Тарасаў пазнаёміўся з Кімам Хадзеевым (1929 - 2001), менскім філосафам і дысідэнтам, які к моманту іх сустрэчы адседзеў некалькі гадоў у турме ў Ленінградзе. Дом Кіма быў своеасаблівым клубам для вальнадумных і творча настроеных маладых людзей. Нягледзячы на тое, што Кастусь Тарасаў і яго сябры, якія наведвалі Кіма, былі гадоў на 10 маладзейшыя за гаспадара, ён ставіўся да іх з павагай, а ў нейкім сэнсе, і па-бацькоўску. Сам Кім вёў асацыяльны лад жыцця. На працягу многіх дзесяцігоддзяў ягоны дом заставаўся цэнтрам менскага андэграўнду. Кім зарабляў пісаннем чужых дысертацый, дыпломаў, навуковых прац. Лічылася, што ён ведае ўсё, альбо амаль усё. Кім быў неардынарнай асобай, і знаёмства з ім, безумоўна, аказала ўплыў на маладога Кастуся Тарасава.


**Віктар Генкін**

Пасля заканчэння школы Кастусь Тарасаў на працягу трох гадоў працаваў слесарам, ездзіў у геолага-выведвальную экспедыцыю, падарожнічаў з сябрам Віктарам Генкіным па СССР...

У 1960 годзе Кастусь Тарасаў паступіў на хіміка-тэхналагічны факультэт Беларускага палітэхнічнага Інстытута і скончыў яго ў 1965 годзе.

### Зніклы горад

*"У юнацтве ў мяне быў прыяцель, з якім мы перажылі разам некалькі прыгод. Аднойчы ў міліцэйскім аддзяленні горада Ялта, ноччу, калі памежнікі затрымалі нас за начлег пад кустом у гарадскім парку і, абвясціўшы валацугамі, здалі міліцыі, мы, падпісаўшы абяцанне пакінуць горад у 24 гадзіны, памарылі пра будучыню і вырашылі, што ўспомнім гэтую прыгоду ў 2000 годзе на Новы год. Тады да яго заставаўся 41 год.*

*Вось ужо да 2000 года засталося рукой падаць, прыяцель мой даўно памёр, і другі прыяцель, з якім мы перажылі іншыя прыгоды, таксама памёр, і ўспамінаць тыя даўнія нашы прыгоды магу я адзін. А гэта зусім не тое, што ўспамінаць удваіх. Гэта сумны ўспамін - у адзіноце гартаць мінулыя дні. Ды і многіх іншых людзей няма, з кім было б што ўспомніць з лепшых гадоў, самых яркіх дзён жыцця - з юнацтва, калі жыццё абяцае поспех, ты вясёлы і шчаслівы, і ўсе бядоты невядомыя за паваротамі часу "...*

Пасля інстытута К. Тарасаў нядоўгі час прцаваў майстрам шклаварэння на заводзе "Нёман" у Бярозаўцы Лідскага раёна, затым тэхнолагам на віцебскім заводзе "Маналіт". У гэты час у К.І. Тарасава выйшла першая газетная нататка, і неўзабаве супрацоўніцтва з газетамі ў якасці пазаштатніка стала рэгулярным. А ў студзені 1967 года Кастусь Тарасаў перайшоў у менскае выдавецтва "Вышэйшая школа", дзе пачаў працаваць рэдактарам.


**Сабачка ў доме К. Тарасава, памяць з Бярозаўкі**

Для самога Кастуся Тарасава пераход да літаратурнай працы быў натуральным і адзіна жаданым. Мара стаць пісьменнікам узнікла ў яго яшчэ ў ранняй маладосці, і ў сярэдзіне 1960-х ён ужо шмат пісаў і шукаў свой стыль, хоць мала каму паказваў свае спробы.

Пісьменніцкі дэбют адбыўся ў 1976 годзе, калі ў менскім літаратурным часопісе "Неман" выйшла дэтэктыўная аповесць Кастуся Тарасава "Следственный эксперимент".

Далейшая творчая кар'ера складвалася даволі ўдала. У 1980 годзе выйшла ў свет першая кніга Тарасава "День рассеяния" - гістарычная аповесць пра Грунвальдскую бітву. Пазней гэтая аповесць вырасла ў раман "Погоня на Грюнвальд" (1986, прэмія Мінабароны СССР у 1988). У 1984 годзе зборнік літаратурна-гістарычных эсэ "Память о легендах" прынёс 44-гадоваму пісьменніку вядомасць у Беларусі. Кніга займальна апавядала пра малавядомыя старонкі беларускай гісторыі.

Поспехам карысталіся аповесці "Отставка штабс-капитана", "Тры жыцці княгіні Рагнеды", "Залатая горка", "Апошняе каханне князя Міндоўга" і інш.

**Прататып**

*"У мяне ёсць аповесць" Тры жыцці княгіні Рагнеды". Яна атрымалася таму, што там ёсць прататып Рагнеды - Лора. Калі прыгледзецца - там усе Лорыны рысы. Усе мае галоўныя аповесці ўтрымліваюць яе вобраз. Яе твар, натура, дзеянні заўсёды*



***Ларыса Чарнышова, жонка К. Тарасава***

*былі перада мной , калі я пісаў. ...Рагнеда складае толькі малую частку Лоры, але для мяне гэта Лора".*

Гістарычныя творы Кастуся Тарасава часцей за ўсё звязаны з мінулым Беларусі. У аснове сюжэтаў ляжаць драматычныя факты беларускай гісторыі. Роднай мовай Тарасава была руская, але ён вывучыў беларускую мову, якую стаў выкарыстоўваць не толькі на размоўным узроўні, але і змог пачаць пісаць на ёй. Многія аповесці, напісаныя па-руску, ён пазней пераклаў на беларускую мову, а з пачатку 1980-х пісаў і на беларускай і на рускай.

У сярэдзіне 1980-х гадоў у Беларусі пачалася хваля нацыянальнага адраджэння, барацьба за вяртанне роднай культуры і мовы. Беларуская мова да таго моманту амаль не выкарыстоўвалася ні на афіцыйным узроўні, ні як сродак зносін у гарадах, і захоўвалася ў асноўным дзякуючы вясковым жыхарам.



***На мітынгу***

Кастусь Тарасаў прымаў жывы ўдзел у руху беларускага адраджэння.

**Мінулае і будучае**

*"Усё жыццё мяне цягнула мінулае, але цяпер мне стала цікава будучыня, гадоў гэтак праз дзвесце. Як людзі будуць жыць у ёй? І ці могуць у ёй захавацца беларусы, якія ў большасці сваёй не ведаюць сваёй мовы, гісторыі сваёй краіны, і якіх суседзі - рускія і палякі - заўсёды расцягвалі ў свае дзяржавы?"*




***Да юбілею Кастуся Тарасава ТБМ выпусціла чарговую паштоўку з выявай партрэта пісьменніка на фоне касцёла Святога Роха на Залатой Горцы. Менавіта гэтым мясцінам беларускай сталіцы быў прысвечаны адзін з твораў пісьменніка***

Акрамя пісьменніцкай справы Кастусь Тарасаў працягваў працаваць рэдактарам і журналістам. З 1977 па 1983 Тарасаў - літаратурны супрацоўнік аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі часопіса "Неман", 1984 - 1985 - член сцэнарнай-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі "Беларусьфільм", 1986-1987 - уласны карэспандэнт газеты "Літаратура і мастацтва", 1989-1995 - нам. галоўнага рэдактара часопіса "Спадчына", 1995-1996 - галоўны рэдактар выдавецтва "Оракул".

У тым жа годзе Кастусь Тарасаў стварыў сваё выдавецтва "Лекцыя", якім кіраваў да 2002 года.

З канца 1990-х ён таксама супрацоўнічаў як аўтар з апазіцыйнымі беларускімі газетамі "Свабода", "Навіны". Быў намеснікам галоўнага рэдактара, выпускаючым рэдактарам газеты "Новы час".

У красавіку 2006 года ў Кастуся Тарасава здарыўся інсульт. Сям'я перавезла яго ў Маскву, паступова здароўе стала аднаўляцца. У красавіку 2009 ён вярнуўся ў Менск.

Раптоўна памёр 20 сакавіка 2010 года ў Менску.

***Tarasau.com.***

***Міхал Шымялевіч***

# Адкуль паходзіць род Адама Міцкевіча[1]

Вось перад намі ***"Акт вываднога дэкрэта, з дэпутацыі губерні Літоўска-Гарадзенскай выданай, і генеалогіі, праз гэтую дэпутацыю канатаванай пп. Міцкевічам, прыдомка Рынвід. 1808 г., траўня 1 дня"***. Знайшоў гэты акт п. Тэадор Вяржбоўскі ў кнігах гродскіх Наваградскага павета за 1808 г., якія калісьці захоўваліся ў архіве акруговага суда ў Менску, і два разы надрукаваў: у "Тыгодніку Ілюставаным"[2], а другі раз ў кніжцы "Вывучэнне Міцкевіча і яго твораў"[3]. Гэты дэкрэт, для надання яму значэння акта дзяржаўнай улады, мусіў быў зацверджаны з арыгінальнымі доказамі шляхецтва і легалізаваны Гярольдыяй ці Дэпартаментам Гярольдыі Сенату. Дарэчы, ніякіх слядоў гэтай легалізацыі няма.

Пададзены радавод не сягае далёка ў глыбокую даўніну, а толькі згодна з "Жалаванай граматай дваранству", абмяжоўваецца сцвярджэннем шляхецтва трох пакаленняў роду Міцкевічаў, узяўшы за продка гэтага роду Крыштафа Рынвіда (?) сына Валянціна "прадзеда гэтых вывадных", які як быццам паходзіў з Радунскай парафіі Лідскага павета. Гэткае паходжанне стала вядомым, бо Міцкевічы-навагрnative "накіраваўшыся да свайго гнязда ў Лідскі павет, адкуль іх папярэднік Крыштаф, як вышэй сказана, выйшаў, знайшлі сведчанне ад Міцкевічаў, якія там жывуць і іншых тамтэйшых жыхароў, што іх папярэднік Крыштаф пасля таго, як страціў частку сваёй дзедзіцкай маёмасці ў Радунскай парафіі, з'ехаў у Наваградскі павет і тут пакінуў свайго сына Яна"*. Гэта сведчанне *"радавітасці нашчадкаў Крыштафа і Яна Міцкевічаў"* ад 1789 г., жніўня 10 дня, у тым жа годзе 10 лістапада было акціравана ў земскіх кнігах Лідскага павета.



*Адам Міцкевіч*

Род Міцкевіча - гэта дзіўная расліна, якая толькі раз на людской памяці заквітнела цудоўнай кветкай. Варта страціць трохі часу, каб вывучыць гэтую расліну і той грунт, на якім яна ад пачатку пачала расці.

Вывадны дэкрэт дадае Міцкевічам прыдомак *Рынвід*, і таму пашукаем у Лідскай зямлі найперш *Рынвідаў. Рынвід - Рымвід* - ліцвінскае прозвішча, раней спатыкалася і сярод сялян, і сярод баяраў. У актах маршалкоўскага суда каля 1514 г. знаходзім такі запіс: *"Жаловали передъ нами люди господарьскии Въшпольци* (гэта значыць падданыя воласці Ушполь ў ранейшым Вількамірскім павеце) *на имя Рымовидъ Ядевич а Юхно а Роман Рымовидовичы"*, а каля 1510 г. - *"Жаловалъ нам бояринъ господарьский Талко Рымовидовичъ"* [4]. Шляхецкі род Рымавідаў вядомы

[1] Szymielewicz Michal. Skad pochodzi rod Adama Mickiewicza // Ziemia Lidzka №9-1938. S. 113-116.
[2] Tygodnik Ilustrowany. 1902, №33
[3] Teodor Wierzbowski. Z badan nad Mickiewiczem i utworami jego. Warszawa, 1916.
[4] Рос. Истор. Библ. XX, 34. 165.

ўжо на пачатку XV ст. Ян Рымавідавіч быў адаптаваны да герба Грымайла. У часы Казіміра Ягелончыка вядомы пан Рымавід (чалец рады пры вялікім князі, сенатар): у кнізе данацыі гэтага караля ёсць запіс (праўдападобна ад 1479 г.) пра наданне кн. Юрыю Пронскаму сяла Каманосці, якое раней трымаў пан Рымавід. У адным з лістоў кар. Казіміра каля 1445 г. прысутнічае сведка Алехна Рымавідавіч, верагодна, сын папярэдняга. Алехне кароль даў зямлю Сцяпанава на ракой Пціч, а ў тым жа часе Юшку Рымавідавічу кароль даў *"стаи и болота в Олянехъ"*. У 1489 г. Андрушка Алехнавіч Рымавідавіч быў каралеўскім дваранінам, а перад 1493 г. атрымаў маёмасць у Крывічах, Жосьне на Курэнцы і Алянах[5].

Нарбут прыводзіць прывілей караля Казіміра каля 1483 г. дадзены "шляхціцу Рынвіду" на землі ў павеце Троцкім, над ракой Мераччу. Гэтыя землі кароль даў Рынвіду як узнагароду за *"усмирение розруху кмеци влосьци Мерецкей"* якія дабіваліся вольнасцяў, звыш тых, якія ім права забяспечвала, а таксама за злоў верхавода бунтаўшчыкоў па імені Лейчыс, які не гледзячы на годнасць і павагу да каралеўскай улады, смеў ката падносіць каралю, кажучы, што гэта знак паганскай вольнасці Літвы[6]. Можна дапусціць, што гэта быў узгаданы вышэй Андрэй Алехнавіч. З пазнейшых геральдыкаў даведваемся, што пан Рымвід пакінуў двух сыноў - Алехну і Юрыя, і што ад першага з іх пайшоў род Алехнавічаў, Кухмістравічаў, Дарагастайскіх і Іржыкавічаў, а з другога - род Забеconverted разінскіх[7]. У попісу войска літоўскага 1567 г.[8] у харунжастве Васілішскім знаходзім двух Рымвідаў з Глыбокага - Яна і Войцаха Станіслававічаў, якія ставілі ў войска кожны асабіста па адным кані. Гэта маглі б быць сыны Станіслава, унука Мікалая Кухмістравіча, мечніка літоўскага 1539 г., паказанага ў генеалагічнай табліцы Банецкага на старонцы 218-219. У спісе актаў Метрыкі Літоўскай якія датычаць Лідскага павета, зробленым Янам Гінетам, крайчым і ротмістрам лідскім, які быў устаўлены ў кнігі земскія таго ж павета 10 жніўня 1784 г.[9] знаходзім занатаваны прывілей Юзафу Рымвіду на 3 валокі ў Васілішскай воласці ў 1567 г., там жа ўспамін пра дварэц у Лаўкенішках Рымавідаўскіх Палецкага. Няма ўпэўненасці, што нейкі нвашчадак з тых радоў перажыў XVI ст. Згодна з Нясецкім, усе гэтыя роды паходзілі ад Маніўіда (можа дзеда Рымвіда?) і мелі герб Ляліва.

Невядома, ці былі Рынвіды ці Рымвіды ў нейкім сваяцтве з Рымвідамі, якія згодна з Нясецкім квітнелі ў княстве Жмудскімі ва Упітскім павеце і якіх Нясецкі залічыў да герба Ліс. Ён выводзіў Міцкевічага Рымвіда з падстарасты жмудскага ці ягоных сыноў Паўла і Станіслава і лічыў, што звалі іх Міцкевічамі ад маёнтка Міцкевіч. Нясецкі піша пра Эліяша і Станіслава Рымвідаў, якіх узгадвае жмудскі попіс 1621 г. і Яна, пісара гродскага ўпіцкага ў 1674 г. Пра аднаго з гэтых Рымвідаў, найбольш выбітным, Нясецкі паведаў наступнае: *"Эліяш Міхал, найперш падстараста гродскі лідскі, потым падкаморы, стараста наваградскі* (памылка, насамрэч *навадворскі*) *і лаздзейскі* (Лаздзіяй - *Л.Л.*), *быў паслом на розныя соймы, куды яго шматкроць Айчына кідала, таксама дэпутатам на трыбунал скарбовы літоўскі, але ўжо камісарам, Constit. 1678 fol. 15, калі місія для нашых* (гэта значыць езуітаў) *пры касцёле дэмбраўскім, ад яго і ад ягонай жонкі функцыянавала, быў потым маршалкам лідскім"*. Ён быў жанаты з Крысцінай Гружэўскай, падкамаранкай жмудскай. Ян - падкаморыч лідскі 1685 г.[10]. Гэтую інфармацыю пра Эліяша Міхала Рымвіда можам дапоўніць з іншых крыніц. Ян Гружэўскі, падкаморы жмудскі меў двух сыноў і ажно дванаццаць дачок: з іх Крыстына, як падаецца вышэй, была жонкай Эліяша-Міхала Рымвіда, Яна-Паўла Стрыеўскага, войскага гарадзенскага, чашніка саноцкага. Эліяш-Міхал Рымвід разам з жонкай валодаў у былым Лідскім павеце Дэмбравам, і меў пляц у Лідзе *"ідучы з Рынку па вуліцы Камёнка, па правай руцэ, праву шляхецкаму падлеглы"*, раней належаў Крыштафу Багдзевічу, потым ягонаму сыну Мальхеру. Сыны гэтага апошняга, Людвік і Казімір Багдзевічы прадалі гэты пляц Эліяшу-Міхалу Рымвіду, падстарасту лідскаму за 80 коп грошаў, а Ян Васілевіч, генерал Яго Каралеўскай Мосці Лідскага павета 4 лютага 1678 г. зацвердзіў гэтае набыццё. Пасля смерці Эліяша-Міхала Рымвіда яго сын Ян Рымвід, маршалковіч лідскі і старосціч навадворскі і лаздзейскі 22 снежня 1702 г. спадкаваў пасля бацькі *"двор у горадзе Лідзе на вуліцы, якая з Рынку на Каменку ідзе, з агароднікамі там жа жывучымі"* і прадаў яго Францішку Мазевічу, маршалку лідскаму. Пасля гэтага ўсе звесткі пра гэтую сям'ю знікаюць. Маёмасць Дэмбраў пры канцы XVIII ст. належыць Стрыенскім - Багуславу і Яну-Каралю, шэфу літоўскай гвардыі.

Нясецкі падае два роды Міцкевічаў: з гербам Парай, які згодна з Стрыйкоўскім ідзе ад князёў Гейдройцяў і з гербом Наленч, *"пра які ні Папроцкі, ні Акольскі не пісалі"*. Гэтыя другія ў часы Нясецкага былі на Жмудзі, у Менскім і Упітскім паветах. Прыдомак іх Даволга:

Станіслаў Міцкевіч, сын якога Ян у 1648 г. жыў у Менскім павеце.

Адам у 1632 г. - у Віцебскім.

Давід у 1740 г. - лоўчы менскі.

Н. Міцкевічоўна была за Войцэхам Даўгялам.

Міцкевіч Рынвід, Міхал і Ежы 1700 (NB.

---

[5] Ibid. XXVII, 11, 24, 44, 85, 312.

[6] Dzieje. I. 54.

[7] A. Boniecki. Poczet Rodow. 46, 98, 218-219.

[8] Рос. Истор. Библ. XXXIII, 774, 775.

[9] AAD у Вільні, стары нумар №5634.

[10] Niesiecki. Herbarz, VIII. 210.

[11] Niesiecki. Herbarz. VI. 389.

Падпісалі маніфест літоўскай шляхты пад Алькенікамі)[11].

Як вядома тутэйшыя людзі ў мове галосныя ***т*** і ***п*** часта замяняюць, і таму *Рымвід* і *Рынвід* гучыць аднолькава. Частка гэтага роду пад канец XVIII ст. жыла ў Ваўкавыскім павеце. Гэта былі Юзаф Міцкевіч Рынвід, бацька Францішка, Станіслава, Канстанціна. З іх Францішак быў жанаты з Ганнай з Булгарынаў, у 1834 г. ён быў начальнікам скарбовай касы ў Ваўкавыску і меў сыноў Базыля і Яна. Станіслаў быў начальнікам скарбовай касы ў Лідзе і адначасова арандаваў былую біскупскую маёмасць Дуброўня, якая ў той час належала нашчадкам гр. Мініха. Гэты род быў прызнаны шляхецкім вывадной дэпутацыяй у Гародні 5 кастрычніка 1817 г. і зацверджаны ў шляхце ўказам Гярольдыі ад 27 верасня 1833 г.

У Лідскім павеце з вельмі старых часоў жыло некалькі шляхецкіх радоў з прозвішчам Міцкевіч (без прыдомка). Пад час разбору шляхты гэтыя роды згрупавалі ў пяць партый - родаў, і кожны род асабіста складаў довады свайго шляхецтва для вывадной дэпутацыі.

**Гэта наступныя роды:**

**Міцкевічы**, якія мелі маёмасць у ваколіцы Пажыжма, над ракой Жыжмай. Прызнаны шляхтай Літоўска-Віленскай дэпутацыяй 8 красавіка 1798 г. Указу Гярольдыі, які павінен быў зацвердзіць іх шляхецкі стан, не маю на руках.

**Міцкевічы**, якія мелі маёмасць у фальварках Жалобішкі, Ганскевічы і Павары з сялянскімі душамі, а таксама на Паёдупю (Pojodupiu), Хомічах, Гарманах і Аляхновічах, і якія набывалі ў 1832 г. зямлю ў Даўгялах. Літоўска-Віленскай дэпутацыяй 26 траўня 1800 г. яны былі выкраслены з шляхты і пераведзены ў аднадворцы. У выніку шматгадовых старанняў справа іх шляхецтва разглядалася ў найвышэйшай інстанцыях - Дзяржаўным савеце, які сем асоб з усіх скасаваных прызнаў за шляхту, і цар 15 сакавіка 1862 г. зацвердзіў іх шляхецкі стан, аб чым Сенату паведаміў Дэпартамент Гярольдыі ўказам ад 18 красавіка 1862 г.

**Міцкевічы**, якія валодалі маёмасцю ў Юргішках, Гесмантах, Ракуцёнішках і Таўгінішках былі прызнаны шляхтай Гарадзенскай дэпутацыяй 16 лютага 1818 г. і зацверджаны ў шляхецкім стане ўказам "Временного Присутвия" Гярольдыі 21 верасня 1845 г.

**Міцкевічы**, якія на пачатку XIX ст. валодалі фальваркам Вайдагі з 8 сялянскімі душамі, Белапятры з 13 душамі, Петрашунцы з 1 дымам і жылі на ўласнай зямлі ў ваколіцы Крупавічы. Гарадзенская дэпутацыя прызнала іх шляхтай 20 чэрвеня 1819 г. Зацверджаны ўказам "Временного Присутвия" Гярольдыі 3 лютага 1847 г.

**Міцкевічы**, якія мелі маёмасць у ваколіцы Яцавічы, прызнала шляхтай Віленская дэпутацыя 17 ліпеня 1820 г., а ў 1845 г. яны былі выкраслены з шляхты і пераведзены ў аднадворцы. Указам Гярольдыі 31 кастрычніка 1852 г. частка гэтага рода была зноў далучана да шляхты. Шляхецтва астатняй часткі гэта роду прызнана Дзяржаўным саветам і зацверджана царом 22 студзеня 1857 г., пра што Гярольдыя паведаміла сваім указам ад 24 лютага 1857 г.

Акрамя гэтых пяці родаў Міцкевічаў былі сямейства з такім жа прозвішчам, але не шляхецкага стану. Напрыклад, сямейства, якое мела маёмасць у Кербздзях, Ёдках і іншыя. Яны з-за браку грошай і доказаў не былі прызнаныя шляхтай і першапачаткова запісаны ў аднадворцы, а пасля скасавання ў 1866 г. гэтага стану прыпісаны да мяшчан горада Ліды.

Афіцыйныя радаводы кожнага з гэтых родаў не сягалі далей за канец XVII ст. Спробы злучыць іх радаводы з радаводамі Рымвідаў, Рынвідаў ці Рымвідаў-Міцкевічаў і Рынвідаў-Міцкевічаў былі безвыніковая. Што не кажа пра тое, што такой лучнасці няма, справа ў тым, што няма патрэбных дакументаў.

У XVIII ст. лічылася, што адзін з радоў лідскіх Міцкевічаў разам з Вільбікамі і Запаснікамі паходзіў ад аднаго продка Крупаса, якому шляхецтва надаў вялікі князь Вітаўт за выправу пад Грунвальд у 1410 г. Такое меркаванне мела пэўныя гістарычныя падставы і абапіралася на шэраг актаў XV-XVI ст., якія часткова былі потым апублікаваны ў "Актах Паўднёвай і Заходняй Расіі", том 1, і ў "Актах Віленскай Археаграфічнай камісіі", том 25. Адзін з гэтых актаў, а менавіта датаваны 23 жніўнем 1560 г. у Эйшышках - дэкрэт камісараў, пасланых сюды каралём Жыгімонтам Аўгустам для высвятлення шляхецтва баяраў радунскіх, пералічвае наступныя шляхецкія сямейства, якія пайшлі ад Крупаса: Круповічы, Фяткевічы, Пашкевічы, Янушкевічы, Пацэвічы, Бартасевічы, Сянкевічы і інш., а сярод іх і Міцкевічы, пра якіх запісана: *"з Міцька, пятага сына Крупасава выйшаў Якуб і Пецька, з Якуба - Марцін, з Марціна - Ленарт, з Пецька - Ян і Стась, гэта - Міцкевічы ад пятага сына Крупаса"*. Гэтыя ўсе сямейства былі прызнаны камісарамі за шляхту. Але ў Радунскім павеце тады жылі не толькі Міцкевічы, якія паходзілі ад Крупаса, але і іншыя. У тым жа камісарскім дэкрэце пералічаны сведкі, якія сведчылі шляхецтва вышэй пералічаных асобаў, гэтыя сведкі мелі прозвішчы: Шымка Валадковіч, радунскі харунжы і баяры-шляхта Радунскага павета - Ленарт Контрым, з дому Кібартавага Ян Міцковіч і Шчэпан Мікалаевіч. Таксама тут маглі б жыць і нашчадкі кагосьці з Рымвідаў, як жылі тут і нашчадкі Крупаса ці Кібарта.

Вышэй пералічаныя мясцовасці, у якіх мелі сваю маёмасць лідскія Міцкевічы, пры канцы XVIII ст. уваходзілі ў склад рыма-каталіцкіх парафій: Пажыжма і Таўзгіняны - у Воранаўскую, Жалабішкі, Ганцкевічы, Павары, Поёдупе, Хомічы, Горманы, Гесманты, Белапятры і Яцавічы - у Эйшышскую, Юргінішкі - у Алькеніцкую, Войдагі і Рукуценішкі - у Нацкую, Крупавічы і Кербедзі - у Жырмунскую, Ёдкі

- у Лідскую, Петрашунцы і Аляхновічы - у Радунскую. У Радунскай парафіі пры канцы XVIII ст. Міцкевічы жылі ў ваколіцах Петрушанцы і Аляхновічы. Праўдападобны, Міцкевічы якія аселі ў Аляхновічах выводзілі свой род ад Крупаса, таму можна лічыць, што і Міцкевічы з Петрушанцаў маглі быць сваякамі Міцкевічам наваградскім.

Прозвішча Міцкевіч значыць - сын Міцькі ці Міці, памяншальнае імя ад Дзмітрыя. Гэта імя дастаткова пашырана сярод беларускага і ліцвінскага насельніцтва. З такім прозвішчам было шмат сялян і месцічаў вызнання як рыма-каталіцкага, так і ўніяцкага (потым праваслаўнага). У старажытных Ашмянскім і Лідскім павеце такое прозвішча мела вялікая колькасць дробнай шляхты, якая паходзіла з даўніх гаспадарскіх баяраў. Прозвішча, ці дакладней, імя па бацьку "Міткові" і "Міцковіч" каля 20 разоў паўтараецца ў указальніку да XX тома РИБ, дзе надрукованы акты Літоўскай метрыкі з XV ст. Ва ўхвале Віленскага сойма 1528 г. названыя наступныя баяры-шляхта Наваградскага замка з прозвішчам, якое паходзіць ад *Міцька*: *Миткова, Иван Митковичъ* (3 разы), *Степан Митковичъ, Петрашка Митковичъ, Белицки Митковичъ, Миколай Митковичъ*, таксама баяры, якія зямлі не мелі і ехалі на службу асабіста: *Масько Мицкевичъ, Богуш Миткевичъ*. Паміж гэтымі прозвішчамі спатыкаем: *Ярашъ Букревичъ, Ленько Сопличыцъ, Федько Горбатовичъ, Митько Комаровичъ* і *Митько Котлубаевичъ*. У попісу літоўскага войска 1567 г. у Наваградскім павеце пералічаны: *Мицьковичъ* і *Роман Мицьковичъ, Федоръ Степановичъ Миткевичъ, Михайло Петрашкевичъ с Митькевичъ, Жданъ Вашкевичъ с села Митьковичи, Андрэй Мицкевичъ с Дарава, Васько Миськевичъ с Горбатовичъ, Кмита Митковичъ с Скробова, Иван Миткевич* і г.д.

Калі пашукаць месцазнаходжанне пералічаных вышэй населеных пунктаў, дык Гарбатовічы і Скробава знаходзяцца ў ваколіцах мястэчка Гарадзішча, у Баранавіцкім павеце (раней Наваградскім). У гэтай жа мясцовасці знаходзім і назвы населеных пунктаў, якія ўзгадваюцца ў радаводзе 1808 г.: Валеўка над рэчкай Сэрвеч, Завоссе і зноў тыя ж Гарбатавічы. У гэтым жа раёне раскіданы і іншыя мясцовасці назвы якіх знаёмы з твораў вялікага паэта: Цырын, Варонча, Плужыны, Тэраевічы, Туганавічы, Грэчыхі і Свіцязь! Відочна, там жа трэба шукаць і тое старое, з XVI ст. сяло Міцкевічаў, дзе раней жылі і самі Міцкевічы.

Попіс войска 1567 г., у якім афіцыйна запісаны прозвішчы Міцкевічаў, Міткевічаў і Мітковічаў заканчваецца падсумаваннем: *"Сумою шляхты повету Новогрудского вышей описаных коней 465, межы тыми - шляхты пешой чоловеков 16, а драбовъ 54"*. Усе Міцкевічы былі шляхтай і як шляхта выконвалі гаспадарскую земскую службу, гэта значыць хадзілі на вайну конна і збройна. Знаходжанне ў попісе беднага шляхціца, які не мае каня і толькі з рагацінай у руках "на пеша" павінен ісці на вайну, ніякім чынам не прыніжала ягонага шляхецтва і годнасці.

Прайшло больш за 200 гадоў, змянілася 6 - 7 пакаленняў, род Міцкевічаў, як і тысячы іншых сямей шляхты, разросся і збяднеў, а краёвыя катаклізмы знішчылі ўсе дакументы, якія пацвярджалі іхняе шляхецтва. Не мала такой збяднелай шляхты сядзела па вёсках "на пустках", гэта значыць на валоках, не заселеных сялянамі і з часам зраўнялася і параднілася з сялянамі. І была хцівымі дзедзічамі ўпісана ў інвентары як простыя сяляне. Тады такі шляхціц, пазбаўлены сваіх праў сваволяй дзедзіча, прабуджаўся і пачынаў працэс па вяртанні свайго шляхецтва. І калі меў грошы, падтрымку суседзяў і мог знайсці нейкія паперы, дык выігрываў справу.

Пэўна, ані ў XVII, ані ў XVIII ст. не было такога, каб хтосьці паставіў пад пытанне шляхецтва беднай засценкавай шляхты, нейкіх там Міцкевічаў з-пад Гарадзішча, і ніхто з іх не меў патрэбу вышукваць доказаў свайго паходжання. Датуль, калі аднаму з іх, а менавіта сыну Якуба, пану Мікалаю Міцкевічу пашчасціла ў жыцці - ён здабыў пасаду каморніка і адваката (мерніка і судовага абаронцы) і таму пачаў вышукваць доказы свайго шляхецтва. На радзімай старане - у трохкутніку Наваградак - Нясвіж - Баранавічы можа і жыў хто з Міцкевічаў шляхціцаў, але з-за браку доказаў немагчыма было паказаць генеалагічную супольнасць радоў, і таму належала шукаць іншых Міцкевічаў.

Даўнія Ашмянскі і Лідскі паветы былі сапраўднымі батанічнымі садамі шляхты і - якой яшчэ шляхты! Сядзелі тут ад паганскіх часоў, ад Міндоўга Юндзілы, Раўбы, Вісманты. Ад Гедзіміна - Догілі, Цырыны, Эйгірды, ад Ягайлы і Вітаўта - Круповічы, Запаснікі, Міцкевічы, Качаны, Даўгірды, Ёдкі і інш. У самім Лідскім павеце пад канец XVIII ст. квітнела каля 600 шляхецкіх прозвішчаў, і сярод іх больш дзесятка сямействаў Міцкевічаў! Таму належала толькі прыехаць да першага лепшага шляхецкага гнязда, якім была, напрыклад, Радунская парафія, ператтрэсці стосы старанна прыхаваных у скрынках, на бэльках пад столлю дакументаў - нярэдка кавалкаў пергаменту з XV ст., а таксама значнай лічбы пазнейшых папер і зрабіць на аснове ўзгадваных у іх радоў сваю "лінію". Гэткая "лінія роду" Міцкевічаў наваградскіх, потым апублікаваная разам з вывадным дэкрэтам Тэадорам Вяржбоўскім, і была акціравана ў Галоўным Літоўскім судзе ў 1789 г. Для ўратавання найкаштоўнейшага ў жыцці ўпрыгожвання, якім было шляхецтва, да якога былі прывязаны ўсялякія правы чалавека і грамадзяніна, не шкада было патраціць ані грошы, ані час і ўжыць любыя сродкі. Атрыманне пасведчання аб прыналежнасці да шляхецкага роду было адным з такім сродкаў.

Ці паходзіў род Адама Міцкевіча ад нейкага ліцвінскага Рымвіда, Крупаса ці Кібарта з Лідскага павета, ці ад невядомага беларускага Змітра - Міцькі з Наваградскага павета - у любым выпадку гэты быў род шляхецкі, тутэйшы, моцна ўрослы каранямі ў родную зямлю, з сокаў якой паўстала паэзія цудоўнай прыгажосці.

*Пераклад Леаніда Лаўрэша.*

*Леанід Лаўрэш*

# Распаўсюд вершаў Багушэвіча на Лідчыне пры канцы XIX-га ст.

Займаючыся біяграфіяй найцікавейшага і знакавага для Лідчыны чалавека, гісторыка, этнографа, сябра Таварыства беларускай школы і Лідскага раднага ад ТБШ у 1920-х гадах Міхала Шымялевіча (18.X.1879 - 11.01.1969), я знайшоў вельмі цікавае сведчанне папулярнасці вершаў Францішка Багушэвіча яшчэ да выдання зборнікаў ягоных твораў.

Мне прыдзецца даць некалькі фрагментаў з артыкула Шымялевіча "З таго свету", надрукаванага папольску ў № 11 часопіса "Лідская зямля" за 1937 г. Усё жыццё Міхал Шымялевіч збіраў дакументы па лідскай гісторыі і запісваў расказы старых людзей. Пра вывучэнне папераў, якія захоўваліся ў простай хаце, і працяглыя размовы з адным з лідскіх старажылаў - Казімірам Вісмантам даследчык напісаў: *"50 гадоў таму* (успаміны надрукаваныя ў 1937 г. - *Л.Л.*) *быў гэты чалавек у росквіце сіл, трохі сіваваты, трохі лысаваты, але шыракаплечы, румяны і да жанчын цікаўны. Яго белая хатка пад саламяным дахам, на Вісмантах пад Лідай, пры абсажаным бярозамі Наваградскім гасцінцы* (цяпер праспект Перамогі - *Л.Л.*) . ... *У старога ў хатцы пад столлю стаяла скрынка поўная старых пажоўклых папер, пісаных і па-славянску, і па-польску, памятаўшых часы караля Аляксандра Ягелончыка ... . Стары Вісмант ведаў на памяць свой вялікі шматаркушовы радавод з усімі датамі і ведаў шмат цікавых гісторый"* [1]. Вось такі быў цікавы час, калі ў скрынях шарачковай шляхты ляжалі дакументы XV-XVI ст.

Пан Казімір меў сына, якога ён вучыў на арганіста, і ажно чатыры дачкі: *"... да пана Казіміра вечарамі хадзіла на пасядзелкі і размовы лідская прыгарадная моладзь, вядома: у доме тры дарослыя дачкі, і чацвёртая, Броня, ужо "ўбіваецца ў пёры"*. Моладзь гуляла ў гульні, часамі распавядала ўсялякія цікавыя гісторыі, анекдоты, байкі, жахі, альбо пра чары і незвычайныя з'явы. *"Часам дэкламавалі "Kiwona, meczenika bozego"* [2], *"Uchwale gromady zydowskiej o oddaniu syna Chaski w soldaty"* за тое, што не хадзіў у лазню ..., *альбо такія вершы, як "Панскае ігрышча" ці "Адказ на панскае ігрышча" і іншыя, якія праз нейкі час былі надрукаваны ў Кракаве ў кніжачках Мацея Бурачка"* [3].

З гэтых некалькіх радкоў выцякае, што вершы Францішка Багушэвіча мелі папулярнасць яшчэ да выдання ягоных кніжак, перапісваліся і чыталіся падчас вячорак.



Вядома, што беларускі паэт быў знаёмы з польскай пісьменніцай Элізай Ажэшкай і наведваў яе ў Гародні. Ажэшка пісала ў пісьме да Яна Карловіча з Гародні 02.11.1887 г.: *"Тры тыдні таму назад быў у мяне добры Ваш знаёмы з Вільні п. Багушэвіч. Вельмі прыемна правяла я з ім некалькі гадзін. Ён мне чытаў свае беларускія паэзіі дый нават даў мне адпісы з іх з асобным вершыкам, гэтак сама па-беларуску ... . Ці ж не праўда, што гэтыя рэчы вельмі харошыя, маюць нейкае асаблівае характаво, і мяне вельмі цікавіць, ці здолеюць іх зразумець дый засмакаваць у іх нашыя сяляне? Будучым летам папрабую чытаць іх маім міневіцкім знаёмым"* [4].

Як бачым пры канцы 1887 г. вершы Багушэвіча яшчэ невядомы на радзіме, і Эліза Ажэшка яшчэ толькі плануе іх "пусціць у народ" - перадаць сялянам свайго маёнтка ў Мінявічах. А першая кніга паэта, "Дудка беларуская", выходзіць у Кракаве ў 1891 г.

Таму падзеі, якія апісвае Міхал Шымялевіч можна датаваць - паміж 1888 і 1891 г. Важна адзначыць,

---

[1] Szymielewicz Michal. Z tamtego swiata // Ziemia Lidzka №11-1937. S.125.

[2] Легенда пра Ківона, божага пакутніка, Гл.: Kiwon: Pociech, zywot i smierc Kiwona bozego, meczennika zydowskiego. Bracia Worzallowie, 1913.

[3] Szymielewicz Michal. Z tamtego swiata // Ziemia Lidzka №11-1937. S.126.

[4] Талочка Улад. Фр. Багушэвіч і Э. Арэшчыха // Запісы Беларускага навуковага таварыства. Вільня, 1938. Сш. 1. С. 35.

відавочны "выбуховы" распаўсюд вершаў Багушэвіча, фактычна за некалькі гадоў вершы набываюць папулярнасць і пачынаюць жыць у беларускім народзе сваім жыццём.

Цікава, што ў распаўсюдзе і папулярызацыі кніг Багушэвіча чынны ўдзел прымаў Юзаф Пілсудскі. Антон Луцкевіч у сваім базавым артыкуле пра Багушэвіча "Жыццё і творчасьць Фр. Багушэвіча ў успамінах ягоных сучасьнікаў" звяртаецца да запісаных ім успамінаў вядомага сімпатыка беларусаў і беларускай культуры Зыгмунта Нагродскага (памёр у 1937 г. у Вільні). Нагродскі пазнаёміўся з Багушэвічам у Вільні ў 1893 ці 1894 годзе. Жыў тады Нагродскі на Бяльмонце. Непадалёк ад Бяльмонта, на ўзбярэжжы Вялейкі, было месца канспірацыйных спатканняў Нагродскага з рэвалюцыйнымі дзеячамі, у тым ліку - з Юзафам (Зюкам) Пілсудскім. Раз падчас такога спаткання Пілсудскі сказаў Нагродскаму, які здаўна цікавіўся беларушчынай, што мае для яго навінку, і дастаў з кішэні толькі што прывезеную з-за мяжы "Дудку беларускую". Нагродскі з вялікім зацікаўленнем кінуўся на беларускія вершы і папытаўся ў Пілсудскага, хто іх аўтар? - "Ot, taki sobie adwokacik, nazywa sie Bohuszewicz" [5], - адказаў Зюк. - Нагродскі папрасіў Пілсудскага, каб ён пазнаёміў яго з Багушэвічам, і Зюк абяцаў яму зрабіць гэта[6]. Трэба заўважыць, што ў выбары знаёмстваў Багушэвіч быў вельмі пераборлівы. Паводле слоў Нагродскага, Багушэвіч, займаючыся ў Вільні адвакацкай практыкай, не меў блізкіх сувязяў ані са светам адвакатуры, ані наогул з сучасным яму грамадствам. Акрамя Нагродскага, адваката Адама Карповіча і свайго крэўнага Радзевіча блізкіх стасункаў ні з кім не падтрымліваў. Выступаючы ў судзе, бараніў выключна правы сялян, будучы цесна звязаным з беларускім народам.

Таксама Нагродскі паінфармаваў Луцкевіча аб гісторыі друку і пашырэння "Дудкі беларускай " і іншых твораў. Калі Пілсудскі прывозіў "Дудку беларускую" з-за мяжы, належыць думаць, што і друкаванне яе за мяжой было арганізавана такім самым чынам. Але 3 000 надрукаваных у першым выданні асобнікаў "Дудкі беларускай" вельмі хутка разышліся. Працуючы ў кааператыве (у Вільні, на Татарскай вуліцы) Нагродскі вельмі дзейна пашыраў гэтую кнігу - да яго часта прыходзілі людзі з вёскі, каторых ён надзяляў Багушэвічавымі творамі. Апрача "Дудкі" і "Смыка" была яшчэ трэцяя кніжачка: зборнічак вершаў (паводле Нагродскага - слабейшых) "Тралялёначка". Калі "Дудка" вычарпалася, Нагродскі надумаў перавыдаць яе ў Кракаве за 100 рублёў сваім коштам, што і было зроблена. Але яе было цяжка ўвезці ў Беларусь праз мяжу. Спачатку - з дамогай Юзафа Пілсудскага - прывезлі 200 экз. "Дудкі". Далейшыя транспарты меліся ісці кантрабандай - з аплатай па 40 руб. за пуд. Але ўвесь наклад чамусьці на доўгі час застаўся ў Кракаве. Толькі шмат пазней Іван Луцкевіч, калі быў у Кракаве, адшукаў гэты наклад і часткамі даслаў кніжкі ў Беларусь, дзе яны вельмі хутка разышліся. Пасля "Дудку" перадрукавала суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца" ў Пецярбурзе, закупіўшы ад Багушэвічавай сям'і правы на выданне ўсіх твораў паэта[7].




Дае Нагродскі і адказ на пытанне, як выспела ў Багушэвіча яго беларуская ідэалогія. Для таго былі дзве падставы.

Першая: Багушэвіч належаў да таго ж тыпу людзей, што і Каліноўскі, і пад час паўстання 1863 г. адносіў сябе да "чырвоных". Але ці ў час паўстання сутыкаўся ён непасрэдна з Каліноўскім - не вядома.

Другая падстава, на якой фармавалася беларуская ідэалогія Багушэвіча, былі ўкраінскія ўплывы. Багушэвіч - як гаварыў Нагродскі - пачаў пісаць вершы падчас свайго побыту на Украіне і пісаў тады па-ўкраінску. Калі ж вярнуўся на радзіму, яму заставаўся толькі адзін крок да беларускага самаўсведамлення. І Багушэвіч гэты крок зрабіў. Тут, на радзіме, пачаў пісаць беларускія, а свае даўнія ўкраінскія вершы спаліў, лічачы іх за малавартасныя. Тут, на радзіме - сцвярджаў з усёй дасведчанасцю Нагродскі - у гэтай працы Багушэвіч "знайшоў сябе" і "нацыяналізаваўся".

[5] От, такі сабе адвакацік, называецца Багушэвіч.

[6] Луцкевіч Антон. Жыццё і творчасьць Фр. Багушэвіча ў успамінах ягоных сучасьнікаў // Запісы Беларускага Навуковага таварыства. Вільня, 1938. Сшытак 1. С. 19-20.

[7] Луцкевіч Антон. Жыццё і творчасьць Фр. Багушэвіча ў успамінах ягоных сучасьнікаў // Запісы Беларускага Навуковага таварыства. Вільня, 1938. Сшытак 1. С. 29.

# Рэнерты ў Лідзе

Нядаўна да мяне звярнулася нявестка ўнука Роберта Рэнерта - Данута Рэнерт з просьбай даць хоць якую інфармацыю пра двух братоў, лідскіх Рэнертаў, і сама паведаміла тое, што ведала пра іх. Вынікі свайго пошуку прапаноўваю ў гэтым артыкуле.

З 12 лютага 1891 г. гарадскі лекарам быў доктар медыцыны, надворныдарадца (у 1898 г.) Эдмунд Фёдаравіч Рэнерт (04.07.1862 - 05.07.1934). У 1879 г. скончыў Віленскую шасцікласную прагімназію, а ў 1881 г. - 1-ю Віленскую гімназію са срэбным медалём. Выпускнік Юр'еўскага ўніверсітэта (зараз - Тартускі), лютаранскага веравызнання. Працаваў у клінічнай лабараторыі прафесара Ф.І. Пастэрнацкага ў Санкт-Пецярбурзе. Абараніў дысертацыю "Аб параўнальным уплыве газаванага і простага малака на кішачныя закісанні здаровага чалавека (пры чыста малочнай дыеце)" [1]. Быў адзіным лекарам лідскіх гарадскога і яўрэйскага шпіталёў[2] да 1915 г.

З 24 ліпеня 1898 г. лідскім павятовым ветэрынарам стаў "без чыну" Роберт Вільгельм Робертавіч Рэнерт, які таксама закончыў Юр'еўскі ўніверсітэт і быў таксама лютэранскага веравызнання[3].

Абодва Рэнерты - родныя браты, але чамусьці імя па бацьку старэйшага з іх пісалася на рускі манер а малодшага - аўтэнтычна, як і належыць этнічнаму немцу.

Пра Эдмунда Фёдаравіч Рэнерта вядома не шмат. Жыў ён у доме па адрасе: Віленская (Сувальская), 83. Пахаваны на праваслаўных могілках, магіла і помнік захаваліся да нашага часу.



*Магіла Эдмунда Рэнерта*

Доктар Роберт Рэнерт жыў па адрасе: Сувальская, 57 (інфармацыя Дануты Рэнерт), дом месціўся на гарадскім рынку. У 1928 г. ён працаваў дырэктарам гарадской рэзні, якая ў той час месцілася тут жа, на рынку, таксама быў зарэгістраваны як прыватны лекар-ветэрынар[4]. Быў жанаты з Альмай Хэленай Рэнерт (1877-1969) з дому Шэнбергаў. Рэнерты мелі двух сыноў: старэйшага Эдмунда Караля (1899-1984), які быў бацькам Ежы - мужа Дануты Рэнерт, і малодшага Роберта (1903-1990), які меў тры дачкі.



Ś. P.
EDMUND RENNERT
Doktór Medyćyny
ur. dn. 30 czerwca 1862 r. po ciężkich cierpieniach zasnął w Panu 4 lipca 1934 r.
Ekspotacja zwłok nastąpi we czwartek dnia 5 lipca b. r. o godz. 6 po poł z domu żałoby przy ul. Suwalskiej 83 w Lidzie, wprost na miejsce wiecznego spoczynku.
Na ten smutny obrzęd, wszystkich krewnych, przyjaciół i znajomych Zmarłego oraz pobożną publiczność, zaprasza pogrążona w ciężkim bólu
RODZINA

Ś. P.
EDMUND RENNERT
Doktór Medycyny
ur. dn. 30 czerwca 1862 r. po ciężkich cierpieniach zasnął w Panu 4 lipca 1934 r
Eksportacja zwłok z domu żałoby na cmentarz prawosławny nastąpi we czwartek dnia 5 lipca r. b o godz. 18-ej.
O powyższem zawiadamiają:
Lidzkie Towarzystwo Lekarskie,
Oddział Lidzkiego Związku Lekarzy Państwa Polskiego.

*Некралог у "Кур'еры Віленска-Наваградскім"*



*Роберт Вільгельм Рэнерт*

Пасля 1945 г. Роберт Рэнерт з сям'ёй выехаў у Польшчу, у горад Яленя-Гура і далейшы лёс яго невядомы.

Трэба дадаць, што версія, распаўсюджаная адным з лідскіх краязнаўцаў, пра тое, што дом, які захаваўся да нашага часу па адрасе: Савецкая, 23 (Віленская, Сувальская, 73) належаў Рэнертам, і менавіта ў ім знаходзіўся штаб чырвонай дывізіі ў 1919 г., памылковая. Штаб Заходняй савецкай дывізіі на пачатку 1919 г., які ўзначальваў былы палкоўнік Длускі, размясцілі ў доме доктара Рэнерта, які знаходзіўся пры галоўнай вуліцы, якая тады называлася Віленскай (цяпер Савецкая)[5], каля ўваходу на рынак.

***Леанід Лаўрэш.***

---

[1] Реннерт Э. Ф. О сравнительном влиянии газированного и простого молока на кишечные брожения здорового человека (при чисто молочной диете): Дис. на степ. д-ра мед. Э.Ф. Реннерта / Из Клин. лаб. проф. Ф.И. Пастернацкого. Санкт-Петербург: т-во Печатня С.П. Яковлева, 1895.

[2] Памятная книжка Виленской губернии на 1899 г. Вильна, 1898. С. 246.

[3] Там жа.

[4] Ksiega Adresowa Handlowa. Warszawa - Bydgoszcz. 1929. S. 1031.

[5] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 53.

*Валеры Сліўкін*

# Гісторыя, напісаная ў небе

## Да 100-годдзя Лідскага аэрадрома

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**ЛІДСКІ АЭРАДРОМ. 1915-1918 гг.**

20 верасня 1915 г. кайзераўскія войскі ўвайшлі ў Ліду.




***Нямецкія войскі ў Лідзе***




***Прыезд кайзера Вільгельма ў Ліду.***
***Побач з кайзерам - генерал Макс фон Фабек (1854-1916)***

29 верасня ў Лідзе размясціўся штаб 12-й нямецкай арміі. Арміяй камандаваў генерал пяхоты Макс фон Фабек. 12-я армія знаходзілася ў рэзерве і аказвала дапамогу суседнім 10-й і 9-й арміям. 31 траўня 1916 г. Ліду наведаў кайзер Вільгельм і яго віталі на вакзале вышыхтаваныя ў 10 шарэнгаў салдаты 49 рэзервовай дывізіі генерала і літаратара Фрыдрыха фон Бернгардзі.

Кайзераўскія войскі прабылі ў Лідзе 3 гады і 3 месяцы, да 3 студзеня 1919 г. Аднавілі вакзал, масты, у замку ўладкоўвалі на летні перыяд лазарэт, на правым беразе Нёмана пабудавалі доты. Правялі пашпартызацыю насельніцтва, перапіс жывёлы, стварылі адміністрацыю. Пакінулі незлічонае мноства фатаграфій, паштовак і малюнкаў. Паводзілі сябе больш, чым годна. Лес, праўда, высякалі бязлітасна. Сыходзячы, пратакольна, па вопісе здалі Лідскай гарадской Радзе электрастанцыю і бойню, а камісару аховы лесу - па акце планы павятовых лясоў.

Як выкарыстоўвалі немцы Лідскі аэрадром, мне не вядома. Якіх-небудзь успамінаў пра знаходжанне нямецкіх лётчыкаў у горадзе і нямецкіх самалётаў на аэрадроме не захавалася.

З іншага боку няма ніякіх сумневаў у тым, што аэрадром пустым не заставаўся. Чатыры намёты каля спаленага элінга - гэта намёты, якія хаваюць 4 самалёты. Штаб арміі павінен быў ахоўвацца з паветра, а прыезд кайзера - гэта, наогул, адмысловы вы-



***Нямецкія лётчыкі авіяаддзела № 43 на адпачынку пад Лідай***



***Прыстань***

падак.

Адзінае, што ўдалося знайсці - інфармацыя пра знаходжанне ў чэрвені 1916 г. на адпачынку пад Лідай авіяцыйнага аддзела № 43 (Fliegerabteilung 43). Камандаваў гэтым падраздзяленнем обер-лейтэнант Вілі Доневерт (Donnevert) 1886 г.н.

Выстаўляю для агляду мясцовасць і дом, дзе нямецкія лётчыкі адпачывалі, магчыма, у каго-небудзь паўстануць думкі пра месцазнаходжанне гэтай хаты і гэтай воднай прасторы. Калі гэта бераг Нёмана, то ў якім месцы? Ці Вялічкаўскае возера? Крэслы і фатэль з багатай сядзібы, чарачкі таксама.



***Дом з шэзлонгамі і кветнікам***



***Парк з дарожкамі***

Акрамя таго, выявіў матэрыял пра падрыхтоўку ў 1916 г. каля Беліцы лётнага поля для лётнага аддзела артылерыі AFA 230. Аддзел базаваўся на гэтым лётным полі ўвесь чэрвень 1916 г. Камандаваў аддзелам капітан Курт Фрыдрых Карл фон дэр Гольц (Goltz) (1887-1972).




***Афіцэры 230-га лётнага аддзела***



***Капітан Курт Фрыдрых Карл фон дэр Гольц (Goltz) (1887-1972)***



***Обер-лейтэнант Курт Віганд фон Зеглер і Кліпхаўзен (1888-1918)***.



***Лейтэнант Вернер Ланге, 1890 г.н.***



***Лейтэнант Ганс Георг Норман***

Першая Сусветная вайна скончылася 11 лістапада 1918 г. Нямецкая дэлегацыя ў гэты дзень у Камп'енскім лесе падпісала перамір'е. 28 лістапада кайзер Вільгельм афіцыйна адрокся ад імператарскай кароны. У адпаведнасці з умовамі перамір'я германскія войскі павінны былі заставацца на тэрыторыі Расіі да прыбыцця войскаў Антанты, а затым правесці эвакуацыю ўсіх войскаў за мяжу па стане на 1 жніўня 1914 г. Насуперак дамоўленасцям германскае камандаванне дазволіла Чырвонага Арміі займаць вызваляныя тэрыторыі. На тэрыторыі Беларусі за адыходзіўшымі немцамі прасоўвалася Заходняя армія, арганізаваная 15 лістапада 1918 г. Немцы дзейнічалі, як звычайна, больш арганізавана і з'язджалі хутчэй, чым прыходзілі падраздзяленні Чырвонай Арміі. Апошні нямецкі аддзел пакінуў Ліду 3 студзеня, чырвонаармейцы 3-га Сядлецкага палка Заходняй дывізіі ўвайшлі ў горад 6 студзеня. Праз 3 дні.

9 студзеня 1919 г. камандаванне Заходняй арміі загадала: *"Лідскаму баявому ўчастку Заходняй стралковай дывізіі (начдыў Яршоў), у складзе 4-х палкоў, лятучага атрада т. Вянглінскага, 38 авіяцыйнага атрада трывала заняць Ліду".*

38 авіяцыйны атрад размяшчаўся на аэрадроме ў Галашоўцы, за 20 км ад Оршы, адно звяно - у Талочыне. На Лідскі аэрадром 38-мы атрад не пералятаў па прычынах: зімовай непагадзі з завеямі, засыпаных снегам лётных палёў, зношаных самалётаў, адсутнасці паліўна-змазвальных матэрыялаў і дасведчаных лётчыкаў. Удзел 38-ага атрада ў пасоўванні Заходняй дывізіі чыста сімвалічны.

*Паводле lida-info.*

*Кацярына Бычак,*
*Кірыл Сыцько*

# ЛІДСКІ ДЭКАНАТ НА ПАЧАТКУ 20-ых гг. ХХ ст.
## (некаторыя матэрыялы)

### 1. Уступ

У Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве захоўваецца шмат цікавых спраў, датычных дзейнасці лідскага рыма-каталіцкага духавенства ў абазначаны перыяд - асабістыя справы, перапіска, рапарты і г.д. У адной з іх - спр. 234 фонда 694 "Віленская рымска-каталіцкая духоўная Кансісторыя" - цэлы шэраг найкаштоўнейшых гістарычных крыніц, датычных дзейнасці кс. Гіпаліта Баярунца. У выніку падрабязнага разгляду справы і ўскосных крыніц, было вырашана апублікаваць некаторыя, самыя цікавыя дакументы, апрацаваўшы іх археаграфічна.

У 1919 г. Лідскі дэканат Віленскай дыяцэзіі апынуўся ў дастаткова цяжкім стане. Ішла вайна, стары ксёндз дэкан, ганаровы канонік Юзаф Шкоп 14.10.1919 г. папрасіў скласці з сябе абавязкі Лідскага дэкана для таго, каб уступіць у шэрагі Войска Польскага ў якасці душапастыра для вайскоўцаў-католікаў [3, арк. 31, 32]. На змену кс. Шкопу, якога, прынамсі, у свой час судзілі па 178 артыкуле "Улажэнняў аб пакаранні Расійскай імперыі" за "хуление веры православной" [7, с. 9], прыйшла асоба, якая стала адной з ключавых у рыма-каталіцкім касцёле Заходняй Беларусі ў 20-40-ыя гг. ХХ ст. - кс. Гіпаліт Баярунец. Літовец, па ўласным азначэнні нацыянальнасці, ксёндз Баярунец, як вынікае з яго мемуараў, быў адным з самых харызматычных прадстаўнікоў прапольскай плыні і, будучы яшчэ настаяцелем францішканскага кляштара ў Гародні, усяляк змагаўся з усімі праявамі беларускасці і рушчызны, а таксама спрабаваў перацягваць мясцовую моладзь з праваслаўя ў рыма-каталіцтва, на ўзроўні падсвядомасці карыстаючыся створанай яшчэ заходнерусістамі бінарнай апазіцыяй "праваслаўны = рускі - каталік=паляк" [8]. Гэты факт становіцца цікавым у святле таго, што кс. Гіпаліт вельмі прыязна ставіўся да арцыбіскупа Юргіса Матулайціса[1], да якога звяртаўся не інакш, як "… Мой дарагі Эксцэленцыя[2] ..." [1, арк. 6] і "…Цалую Вашыя ручкі…" [там жа, арк. 7]. Цікавасць выклікае тое, што дабраславёны Ежы быў прыхільнікам беларускай мовы, і менавіта з пачаткам яго кіравання ў Віленскай кафедры штонядзелю адбываліся казанні на беларускай мове. Апроч гэтага, біскуп Ежы (Юргіс) вядомы як чалавек, які рабіў крокі на шляху дэпаланізацыі касцёла ў Літве-Беларусі [5, с. 62-76]. Лісты кс. Баярунца да арцыбіскупа Ежы, наогул, напісаны больш у сяброўскім ключы, чым у афіцыйным, што неўласціва для дэканаў іншых дэканатаў Віленскай дыяцэзіі.

Крыніцы, якія будуць прыведзеныя ніжэй у дадзенай археаграфічнай публікацыі, не гледзячы на тое, што справа апублікаваная не цалкам, выклікаюць цікавасць па той прычыне, што праліваюць святло на некаторыя незакранутыя кавалкі дэканальнай гісторыі, а таксама на тыя праблемы і перамогі, з якімі сутыкнуўся рыма-каталіцкі касцёл за часамі першых гадоў пасля падзення Расійскай імперыі. З іх бачыцца, адкуль узялася тая адкрытая варожасць, якую Г. Баярунец адчуваў да партыі бальшавікоў наогул - так, ён сам сядзеў у, з яго ж уласных словаў, "бальшавіцкай" вязніцы як "варожы элемент", апроч гэтага, як вынікае з тых жа словаў - адзін з лідскіх ксяндзоў - кс. Гелажунас - памёр праз знаходжанне ў "бальшавіцкай" вязніцы, а многіх ксяндзоў-пробашчаў і айцоў-францішканаў і піяраў з дэканата альбо прымусова вывозілі ў Расію, альбо гналі іх пешшу, усяляк здзекуючыся.

Гэтыя звесткі кс. Баярунец неаднаразова інтэрпрэтаваў - так, напрыклад, у сваіх мемуарах, якія былі напісаныя ім у 1936 годзе [8].

Апроч гэтага ўзгадваецца ўвесь персанальны склад дэканата, некаторыя асобы якога былі дастаткова віднымі дзеячамі. Так, напрыклад - кс. Людвіг (Людвік) Балабан. З асабістай справы кс. Балабана вынікае, што ён нярэдка мяняў месца прабывання ў 1917 - 1921 гг. і з лістоў кс. Баярунца становіцца зразумелым, чаму - існавала пагроза яго забойства (гл. ліст № 3). Кс. Балабан, замацаваны на пасаду прэфекта[3] ў Лідзе ў 1919 - 1921 гг., быў віднай персонай і меў адназначна вялікі ўплыў на мясцовых жыхароў, што не магло спадабацца атэістычна настроеным прасавецкім прадстаўнікам грамадства.

У цэлым жа гэты перыяд адзначаецца пэўным перапуцццем лідскай грамады. Гэта выклікана тым, што да 28 верасня 1920 г. у Лідзе знаходзіліся часткі Чырвонай Арміі, пасля 28 верасня - польскія легіёны. Калі чырвонаармейцы негатыўна ставіліся да хрысціянскай царквы ў цэлым, то паспалітыя легіянеры ставіліся негатыўна толькі да праваслаўных. Так, напрыклад, у першыя дні красавіка 1919 г., натоўп, з нямой згоды мяшканцаў, здзейсніў акт вандалізму ў Свята-Георгіеўскім храме [6, с. 25].

Такім чынам, прыведзеныя ў дадзенай публікацыі крыніцы карысныя яшчэ і тым, што праліваюць святло на некаторыя грамадскія ўзаемаадносіны, якія існавалі на Лідчыне ў 1919 - 1920 гг.

Важнасць і актуальнасць такой публікацыі відавочная - яна дапамагае разгледзець ваенны і пасляваенны перыяд у разрэзе невялікай лакацыі ў невялікім прамежку часу. Натуральна, што большасць лістоў пэўных духоўных асоб могуць здавацца тэндэнцыйнымі, аднак факт іх існавання ёсць фактам існавання ў гістарычнай рэальнасці пэўных грамадскіх настрояў. Бо царква, нягледзячы на канфесійную прыналежнасць, непазбежна набывае рысы таго народа альбо народнасці, на тэрыторыі якога яна ажыццяўляе сваю душапастырскую дзейнасць.

Археаграфічная публікацыя карысная і тым, што яна асвятляе гістарычную рэальнасць такой, якой яна з'яўлялася ў пэўны прамежак часу.

Такім чынам, аўтары працягваюць шэраг публікацый канфесійных гістарычных крыніц, які маецца на старонках часопіса "Лідскі летапісец" і спадзяюцца на тое, што дадзеная справа будзе працягнута.

**2. Лісты кс. дэкана Гіпаліта Баярунца ў Курыю Віленскага біскупа Юрыя Баляслава Матулевіча-Матулайціса (Юргіса Матулайціса) аб паседжанні ксяндзоў-пробашчаў, а таксама аб стане Лідскага дэканата ў 1919-1920 гг. № 1-4.**

**№ 1**

Lida 1919 r. dnia 18 listopada

*[LVIA, Фонд 694, Воп. 3, Спр. 234 "Дело о выдаче метрических выписей", Арк. 1. У верхнім правым куце аркуша маецца атрамантавая пячатка з напісам: Curia Episcopalis Vilnensis (Курыя Віленскага Біскупа) 20.XI.1919, на самім аркушы пазнакі алоўкам: "nr. 3422"; "Lida"; "decanat Lidensis". Сыходны нумар ліста 796. Подлінnік].*

**Да Яго Эксцэленцыі**
**Віленскага біскупа**

**Рапарт.**

Маю шчасце паінфармаваць Вашую Эксцэленцыю, што 11 лістапада б[ягучага] г[ода] у г[орадзе] Ліда адбыўся Лідскі дэканальны з'езд ксяндзоў пробашчаў і цэлага даверанага мне дэканата, падчас якога вышэйпададзеныя рашэнні былі запісаныя, подпісам пацверджаныя і да гэтага рапарта далучаныя. Усе ксяндзы пробашчы былі прысутныя, за выключэннем пробашча навадворскага, ксендза Казіміра Халявы, і прычына яго адсутнасці мне дагэтуль невядомая, дапушчаю, аднак, што вялікая адлегласць да Ліды і адсутнасць сродкаў камунікацыі маглі быць сур'ёзнай перашкодай.

Дэкан лідскі кс[ёндз] Г[іпаліт] Баярунец.

*(Пераклад.)*

**№ 2**

Lida Sroda 11/XI 19 r.

*[LVIA, Фонд 694, Воп. 3, Спр. 234 "Дело о выдаче метрических выписей", Арк. 2-3. Дадзены тэкст з'яўляецца працягам папярэдняга рапарта. Рэквізіты дэканата і біскупства, пячаткі адсутнічаюць. Подлінnік].*

11 лістапада 1919 г. у Лідскай плябаніі ў кс. дэкана Г. Баярунца сабраліся запрошаныя ксяндзы, прыналежныя да дэканата: 1) Дэкан Гіпаліт Баярунец, 2) Станіслаў Мікульскі, 3) Францішак Ратыньскі, 4) Др. Вітольд Кузьміцкі, 5) Рамуальд Свіркоўскі, 6) Людвік Стэфановец[4] (-ўскі), 7) Юзаф Дашута, 8) Антоні Барадын, 9) Юзаф Маліноўскі, 10) Адам Сакалоўскі, 11) Эдвард Здановіч, 12) Ян Мароз, 13) Казімір Кяжноўскі, 14) Матэўш Шыдац{ф}іс[5], 15) Баляслаў Красадомскі і 16) Людвік Балабан.

Паседжанне распачаў кс[ёндз] дэкан, просячы аб дапамозе Святога Духа, на сакратара прызначаны быў кс[ёндз] др. Вітольд Кузьміцкі.

Дзённы план працы прадугледжваў наступныя пункты: 1) справаздача з XX з'езду дэканаў, 2) размежаванне дэканатаў, 3) размежаванне парафій, 4) утрыманне семінарыі, 5) падзел крэсцэнцыі пры транслакацыях, 6) памер аплатаў за касцельныя паслугі, 7) справа метрык, 8) дом пенсіянераў (інвалідаў)[6], 9) справа арганістаў, 10) грамадскія арганізацыі, 11) арганізацыі ксяндзоў і іх узаемаадносіны і 12) прызначэнне будучага дэканальнага з'езду.

Пасля дыскусіі над асобнымі пытаннямі вырашана: прасіць ардынарыя аб утварэнні Шчучынскага дэканата[7], у склад якога ўвайшлі б наступныя парафіі: 1) Шчучын, 2) Ражанка, 3) Мікелеўшчына, 4) Каменка, 5) Дэмбрава, 6) Ляцк, 7) Ішчална[8] і 8) Жалудок. У Лідскім дэканаце засталіся б: Ліда (2 касцёлы), Крупа (Крупава), магчыма Кір'янаўцы, Жырмуны, Тракелі, Беліца, Ельня, Няцеч і Белагруда.

Новы Двор мог бы быць далучаны да Васілішак, а Германішкі - да Беняконяў з прычыны блізкасці гэтых населеных пунктаў.

У пытаннях заакруглення парафій вырашана пакінуць вырашэнне для зацікаўленых ксяндзоў, якія[9] павінны мець на ўвазе дабро парафіянаў і ўласную выгоду.

У справе паставак у дыяцэзыяльную семінарыю вырашана даваць запрапанаваную курсорыяй [10] ардынарыяту[11] дапамогу. Прадукты збіраць будзе дэлегат біскупа.

Што да падзелу крэсцэнцыі[12], то вырашана прытрымлівацца кансысторскага распараджэння, якое было прынята ў гэтай справе.

У сувязі са значыным павелічэннем выдаткаў на ўтрыманне касцёла і плябані вырашана ўстанавіць мінімальныя кошты: 5 Мк[13] - ахвяра за імшу, 6 Мк - за хрышчэнне, 6 Мк - за перадшлюбную аб'яву, 6 Мк - ад сведкаў пры запісе перадшлюбнага акту, 15 Мк - за перадшлюбнае пасведчанне, 50 Мк - за шлюб, 40 Мк - за экзэквію[14], 50 Мк - за пахаванне (у горадзе 60 Мк), 25 Мк - за цалуновую імшу[15], 6 Мк - за метрыку і 3 Мк - за ўсялякага роду пасведчанні.

У справе метрык вырашана прасіць аб спрашчэнні іх запісу.

Адначасова вырашана прасіць аб неадкладнай рэалізацыі дома для інвалідаў (старцаў).

З арганістамі пакінуць статус кво. Старацца, аднак, аб тым, каб апроч касцельных даходаў былі таксама даходы дадатковыя, як настаўніцтва і г.д.

У грамадзянскіх справах прасіць аб стварэнні Сакратарыяту ў Вільні.

У справе арганізацыі духавенства вырашана імкнуцца[16] да еднасці і ўзаемнага паядняня між сабой і пастырам дыяцэзіі.

Урэшце вырашана прызначыць дэканальны з'езд на першыя дні наступнага года. Да таго часу кс. дэкан мае падрыхтаваць адпаведныя тэмы з галіны касцельнай навукі і раздаць іх дэканальным ксяндзам

для апрацавання.

На гэтым паседжанне скончана.

Старшыня: кс. Г. Баярунец.

Сакратар : кс. др. Вітольд Кузьміцкі [ подпіс].

*(Пераклад.)*

**№ 3**

Lida Poniedzialek 11-X- 1920 r.

[LVIA, Фонд 694, Воп. 3, Спр. 234 "Дело о выдаче метрических выписей", Арк. 4-7. Ліст напісаны рукой Г. Баярунца. На тытульнай старонцы маецца неразборлівая рэзалюцыя атрамантам іншага ад асноўнага тэксту колеру: "Dz. Zyr... z Ejzcy..k x… zobac tg. 3.XI.1920 r." і "x. Bojaruniec ". На левым баку першага ліста пазнака сінім алоўкам "Relatio de vlaku zei in dekanatu 1920". Подліннік].

**Дабраслаўлёны і правялебны Пан!**

Карыстаюся з нагоды і спяшаюся паведаміць Вашай Эксцэленцыі аб стане Лідскага дэканата[17] і па-за дэканатам. Пачынаю ад Ліды. Я з кс.кс. (ксяндзамі - *мн. лік*) вікарыямі сядзелі пры бальшавіках увесь час, прыгоды ў нас былі цяжкія - але няхай гэта будзе на хвалу Божую. Польскае войска ўвайшло ў Ліду 28 верасня аб 11-ай раніцы пасля цяжкай бітвы[18]. Мае ксяндзы хаваліся апошнія некалькі дзён, адзін у межах парафіі, а другі з кс. Леашам і клерыкам Узякевічам у межах Тракельскай парафіі, я сам меў схованку на месцы, пры гэтым надта мяне ахоўваў кіраўнік франтавога штаба 3-й арміі бальшавікоў, былы мікалаеўскі палкоўнік, казак з-над Кубані. Перажыў, хвала Пану, так сама, як і мае ксяндзы. Зараз працуем далей. Кс. Балабан паводле атрыманай інфармацыі сядзіць у Познані (і добра зрабіў, што ўцёк, бо забілі б яго, бо шукалі), мае хутка вярнуцца. Той другі касцёл, часова забраны бальшавікамі, я ўжо адабраў назад, набажэнствы ўжо там адбываюцца. Аб Беліцы і Дэмбраве[19] не было яшчэ ніякіх інфармацый, аднак асмелюся спадзявацца, што таксама былі вернутыя. Чуў толькі, што да Беліцы кс. Маліноўскі ўжо вяртаецца.

У Тракелях[20] сёння ксендза яшчэ няма, аднак хутка ўжо збіраецца ехаць, быў у Рукойнях пад Вільняй. Да Каменкі кс. Рачкоўскі вярнуўся. Кс. Свіркоўскі ў Шчучыне ўжо тыдзень як.

Паводле інфармацыі, атрыманай ад вайсковых уладаў, усе ксяндзы, што засталіся жывыя ўжо вяртаюцца. Кс. гвардыян францішканаў[21] з Гародні вывезены ў Расію. У гарадзенскі кляштар айцы ўжо вяртаюцца. Маладыя ксяндзы, якіх гналі ў Расію, абодва з Гарадзенскай фары, уцяклі. Адзін ксёндз драпануў адразу за Лідай, а другі - кс. Леаш, падчас пасадкі ў цягнік у Ліпнішках - ведаю, што адзін уцёк за літоўскую мяжу, а кс. Леаш ужо з Ліды паехаў у Гародню. Кс. Курыловіч вярнуўся ў Гародню, кс. Жаброўскі - дэкан, у Гародні быў, аднак мусіў вяртацца ў Варшаву, бо запісаўся ў абслугу вайсковага шпіталя. Ксендза Жаброўскага камуністы зацята шукалі і калі б яго злавілі, то, як самі бальшавікі[22] з камітэта нам казалі, здзіралі б з яго скуру паскамі, так ён іх разлаваў. У Жырмунах[23] застаўся зараз толькі адзін стары кс. Сакалоўскі - юбілят, бо кс. Геляжунас 16 жніўня памёр ад тыфу дома, пасля двух тыдняў арышту ў бальшавікоў, так яго мучылі, што бедны за няволю заплаціў жыццём. Ксёндз Абаровіч - дэкан у Іўі ўвесь час хаваўся па вёсках, на сённяшні дзень вярнуўся на пасаду, аднак бальшавікі ў апошні дзень - так казаў мне адзін іўеўскі парафіянін - забралі з сабою маладога ксендза Вацлава Гінтаўта[24] з Радашковіч. Цэлыя 10 тыдняў гналі яго то да Гародні, то да Саколкі, потым зноў да Гародні, да Ліды, да Менска, зноў да Ліды, з Ліды і ўсё гэта пешшу, зноў да Менска і далей у Расію - босага, падзёртага, галоднага і ледзве жывога. Прасіў ён вельмі Вашую Эксцэленцыю аб пільных кроках, каб яго вызваліць, бо бядоты не вытрымае, так яго змучылі. Кс. Гайдук[25] з Пескаў і, калі не памыляюся, кс. Радзюк са Свіслачы пагнаныя пешкі ў Расію. Кс. Казімір Паўкштас застаўся ў Ліпнішках, бо хаваўся апошнія дні ў парафіі.

Кс. Ян Мароз з Ражанкі[26] вярнуўся 6 кастрычніка ў Ражанку і паведаміў мне аб прыкрай сытуацыі з кс. Зінкевічам. Аб гэтай сытуацыі паведамляю Вашую Эксцэленцыю:

Кс. Зінкевіч атрымаў ад Вашай Эксцэленцыі загад "cuaram animarum in par. Rozanka ad tempus gerendam" [27], каторае паводле майго меркавання губляе моц разам з вяртаннем кс. Мароза, аднак кс. Зінкевіч пераканаўча лічыць сябе законным пастырам і пад аніякім прэтэкстам[28] не аддае кс. Марозу парафіі, мала таго, з пісьмовага данясення кс. Мароза ад 11 -Х-1920 даведацца можна, што кс. Зінкевіч праводзіць сярод парафіянаў агітацыю супраць кс. Мароза. Кс. Мароз прапанаваў яму перадаць справы да вырашэння кс. Юркоўскаму альбо мне, як дэкану. Кс. Зінкевіч аднак на гэта не згадзіўся. Скандал ў Ражанцы. Трэба, каб Вы разумелі, што падобны скандал не можа існаваць далей, а ад Вашай Экцэленцыі хуткага вырашэння гэтай справы чакаць нельга, таму правам паўнамоцтва, што я атрымаў ад Вашай Эксцэленцыі да часу Вашага[29] рашэння я вырашыў так: кс. Мароз мае далей кіраваць парафіяй у Ражанцы, а кс. Зінкевіч мае ехаць у Жырмуны[30] на месца кс. Гелажунаса[31], бо кс. Сакалоўскі чалавек стары і не дае рады абслугоўваць парафіянаў. Выезд кс. Мароза з Ражанкі быў слушны, інакш яго б бальшавікі расстралялі. А кс. Зінкевіч таксама з'яўляецца ўцекачом.

Мой дарагі Эксцэленцыя! Цяжкія часы перажываем, відаць, такая Воля Божая, літасць Пана хутка надыйдзе, абы толькі нічога падобнага больш не паўтарылася. Бог ласкавы пасылае пакуты, аднак той жа Бог дашле і пацяшэнне.

Можа б Вашая Эксцэленцыя меў магчымасць пацешыць нас парай словаў, бо словы Пастыра пацяшаюць, дадаюць мужнасці ў пакутах і працы. З прагненем у сэрцы нашыя святары прагнуць чуць голас любага пастыра: "In unitate robur" [32].

Ліст дасылаю з нагодай. Усе мы святары дасылаем Табе, дарагі наш Пастыр, сардэчныя вітанні і выраз сыноўей паслухмянасці.

Пры адраджэнні новага жыцця прашу аб пастырскім дабраслаўленні для дэканата.

Цалую ручкі Вашай Эксцэленцыі, прашу памятаць у малітве.

Паніжаны служка кс. Г. Баярунец,

дэкан Лідскі.

*(Пераклад.)*

**№ 4**

Lida Не пазней 1927 г.

[LVIA, Фонд 694, Воп. 3, Спр. 234 "Дело о выдаче метрических выписей", Арк. 23а. Табліца складзеная Г. Баярунцам. Подпіс замацаваны атрамантнай пячаткай з выявай крыжа, касцельнага будынка і надпісам "DECANUS LIDENSIS". Подліннік. У дадзенай публікацыі інфармацыя аб Лідскім дэканаце, прыведзеная ніжэй, замяняе геаграфічны ўказальнік].

**Інфармацыя. Дэканат Лідскі.**

| № | Назва парафіі | Павет | Паштовая станцыя і адлегласць да яе ў км | | Чыгуначная станцыя і адлегласць да яе ў км | | Колькасць душ | Прыблізныя памеры парафіі і найадлеглыя межы ў км | | Колькасць бенефіцыюм у гектарах і адлегласць ад касцёла | | Заўвагі. Што скрэсліць, дадаць альбо абмінуць у інфармацыях пададзеных у рубрыках |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Ліда | Лідскі павет | на месцы | 1/2 | на месцы | 1 | 17.191 | 580 км$^2$ | 17 км | 30 га | на месцы | Паправіць колькасць душ |
| | Касцёл піяраў | | на месцы | - | на месцы | 1/2 | - | - | - | 80 га | | Рэктар: кс. Фердынанд Казлоўскі, прэфект павятовай школы кс. Алойзы Наперач. Юнкернат. |
| 2. | Крупа | | Ліда | 7 км | Ліда | 7 км | 2421 | 110 км$^2$ | 8 км | 12 га | на месцы | |
| 3. | Гаўе | | Ліда | 26 км | Ліда | 26 км | 1536 | 150 км$^2$ | 9 км | 24,68 га | на месцы | |
| | Кінамоўцы - Бердаўка - філія. | | Ліда | 17 км | Ліда | 17 км | 1300 | 32 км$^2$ | 4 км | 18 га | на месцы | |
| 4. | Жалудок | | на месцы | - | Скрыбаўцы | 10 км | 12863 | 700 км$^2$ | 25 км | 30 га | на месцы | |
| 5. | Шчучын | | на месцы | - | Ражанка | 7 км | 3168 | 140 км$^2$ | 10 км | 34 га (14 га - 20 га) | на месцы | |
| 6. | Белагруда | | на месцы | - | Белагруда | 2 км | 3113 | 256 км$^2$ | 8 км | 30 га | 2 км | |
| 7. | Тракелі | | на месцы | - | Бастуны | 12 км | 4121 | 300 км$^2$ | 10 км | 33 га | на месцы | Драўляны касцёл, грунтоўна адноўлены ў 1927 г. стараннямі кс. М. Шчаткевіча і коштам парафіянаў. |
| | Дворышча - філія | | Тракелі | 5 км | Бастуны | 12 км | - | - | - | 1/2 га | на месцы | |
| 8. | Ельня | | Беліца | 3 км | Нёман | 6 км | 1573 | 160 км$^2$ | 14 км | 35 га | на месцы | |
| | Нёман | | Нёман | 9 км | Нёман | 9 км | 957 | 42 км$^2$ | 9 км | 35 га | на месцы | |
| 9. | Беліца | | на месцы | - | Нёман | 10 км | 1607 | 352 км$^2$ | 24 км | 30 га | на месцы | |

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 10. | Жырмуны | | на месцы | - | Басту-ны | 8 км | 4279 | 143 км$^2$ | 8 $^1/2$ км | 32 га | на месцы | Паправіць: кс. Стэфан - Аляксандр Уранбоўскі |
| 11. | Няцеч | | Беліца | 9 км | Нёман | 15 км | 3070 | 250 км$^2$ | 15 км | 30 га | на месцы | |
| 12. | Ражанка | | на | - | Ража-нка | 4 км | 4410 | 150 км$^2$ | 15 км | 36 га | на месцы | Скрэсліць: "Assupt BMV" |
| 13. | Ішчална | | Скры-баўцы | 7 км | Скры-баўцы | 7 км | 4305 | 150 км$^2$ | 10 км | 36 га | $1^1/_2$ км | |

Кс. Г. Баярунец, дэкан Лідскі. *(Пераклад.)*

**Заўвагі і каментары:**

[1] Юргіс Матулайціс - сапраўднае імя біскупа (пазней - арцыбіскупа) дабраславёнага Ежы (Юрыя) Баляслава Матулевіча-Матулайціса (годы жыцця: 13.04.1871 - 27. 01.1927)

[2] Эксцэленцыя - Высокаправялебнасць.

[3] Прэфект - духоўны інспектар, інспектар духоўных семінарый.

[4] Магчымы варыянт Stefanowski.

[5] Магчымы варыянт - Szydatis.

[6] У выніку быў пабудаваны Г. Баярунцам. У сваіх мемуарах ён сцвярджаў: *"...На працягу некалькіх гадоў я апекаваўся старымі, а акрамя мяне ніхто старымі не цікавіўся і нічым не дапамагаў, я мусіў пачаць хадайніцтвы ў Магістраце, і той прыняў старых пад сваю апеку. Магістрат апекаваўся старымі два гады. А потым прытулак старых згарнулі, старых выслалі ў маёнтак Міхалова каля Валожына (7 кіламетраў), адкуль аднак многія пехатой вярнуліся ў Ліду з-за недахопу духоўнай уцехі (апякункай была гаспадыня маёнтка праваслаўнага вызнання, а касцёл знаходзіўся за 7 кіламетраў) і сёння церпяць нястачу, бо Канферэнцыя міласэрнасці св. Вінцэнта і Паўла Поні з-за недахопу фундушаў магла толькі часткова аказаць апеку..."* [8, с. 32]

[7] У выніку прашэнняў за часамі II Рэчы Паспалітай у 30-я гг. XX ст. быў утвораны асобны дэканат Шчучын-Лідскі.

[8] У першай трэці XX ст. тэрыторыі дэканатаў неаднаразова мяняліся. Так, у 1910 г. пробашч парафіі Ішчална кс. Ян Гайдзевіч падаў прашэнне аб пераводзе Ішчалнскай парафіі са складу Радуньскага дэканата ў Лідскі [2, арк. 43].

[9] ktorzy устаўлена ў тэкст і напісана паверх радка.

[10] Курсорыя - Цыркуляр

[11] У дадзеным выпадку *ардынарыят* маецца на ўвазе як адзінка, прыроўненая да дэканата, створаная з мэтай душпастырскай апекі над вернікамі-вайскоўцамі. Польскі ваенны ардынарыят (альбо Палявы ардынарыят Войска Польскага), які падпарадкоўваўся непасрэдна Святому Пасаду, быў утвораны 5 лютага 1919 г. На яго чале стаў кс. біскуп Юзаф Гюздак.

[12] Крэсцэнцыя - ураджай, сабраны цягам года. У дадзеным выпадку крэсцэнцыя - гадавы даход дэканальных структур.

[13] Мк. - польскіх марак.

[14] Экзэквія - суправаджэнне пры пахавальным абрадзе.

[15] Цалуновая імша - імша, падчас якой у касцёле расцілаецца цалун (тканіна, у якую звычайна загортваюць памерлага), на яе, альбо побач з ёй ставяцца свечкі і праводзіцца набажэнства. Унос нябожчыка ў касцёл не робіцца

[16] Слова выпраўлена больш тлустым атрамантам. Перад ім стаіць закрэсленая літара "о".

[17] *dekanatu Lidzkiego* падкрэслена сінім алоўкам.

[18] Першыя баі за Ліду ішлі 16 красавіка 1919 г. - на польскім баку быў 41 Сувальскі полк 2-ой дывізіі легіянераў генерала З. Лясоцкага, савецкі бок быў прадстаўлены 3-цім Сядлецкім палком Заходняй дывізіі. У выніку 17 красавіка Ліда была цалкам вызваленая ад савецкай прысутнасці. У траўні 1920 г. Заходні Фронт М. Тухачэўскага і 1-я Конная армія С. Будзёнага пачалі наступ на польскія пазіцыі, прасунуўшыся да Варшавы. У ліпені-жніўні 1920 Чырвоная Армія пацярпела разгромную паразу, у выніку якой пачаўся контрнаступ польскіх войскаў. 28 верасня 1920 г. (Па звестках Я. Адзямкоўскага - 29 верасня) 1-я дывізія легіонаў Домб-Бярнацкага і 4-я кавалерыйская брыгада 2-й Арміі пад кіраўніцтвам Эдварда Рыдз-Сміглага ўвайшлі ў Ліду.

[19] *O Bielicy i Dziebrowie* падкрэслена сінім алоўкам.

[20] *W Trokielach* падкрэслена сінім алоўкам.

[21] *Ks. Gwardjan Franciszkanow* падкрэслена чырвоным алоўкам.

[22] Перад словам стаіць закрэсленнае "ago...".

[23] *W Zyrmunach* падкрэслена сінім алоўкам.

[24] Перад прозвішчам на палях стаіць сіні крыжык. У дадзеным выпадку - абазначэнне памерлага.

[25] Падкрэслена сінім алоўкам.

[26] Падкрэслена сінім алоўкам.

[27] З лаціны - "кіраваць душапастырствам у парафіі Ражанка".

[28] Прэтэкст - прычына, адгаворка.

[29] Падкрэслена чорным алоўкам.

[30] Падкрэслена сінім алоўкам.

[31] Перад прозвішчам стаіць чорны крыжык - у дадзеным выпадку абазначэнне памерлага.

[32] З лаціны - *"У адзінстве моц"*.

**Спіс выкарыстанных крыніц і літаратуры:**

1. О выдаче метрических выписей. Dekanat Lida // Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas. - Фонд 694. - Оп. 3. - Д. 234. - Л. 1 - 7, 23а.

2. О проведении ревизии деятельности деканатов Виленской епархии 1900-1913 г. // Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas. - Фонд 694. - Оп. 1. -Д. 2617. - Л. 43.

3. Личное дело кс. Юзефа Шкопа 1887 - 1938 гг. // Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas. - Фонд 694. - Воп. 3. - С. 1210. - Л. 1 - 57.

4. Личное дело кс. Людвика Балобана 1897 - 1936 гг. // Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas. - Фонд 694. - Воп. 3. - С. 1005. - Л. 1 - 38.

5. Пономарев В. Архиепископ Матулайтис / В. Пономарев // Покров. 2003. - № 16. - С. 62-76.

6. Протаіярэй Іосіф Каяловіч. 90 год з дня смерці // Лідскі летапісец. 2009. - № 45-46. - С. 25.

7. Сыцько К.В. Ментальнасныя і ідэалагічныя дэфармацыі Лідскага Рыма-каталіцкага духавенства пачатку XX стагоддзя на прыкладзе жыцця і дзейнасці ксяндза Юзафа (Іосіфа) Шкопа / К. В. Сыцько // Лідскі летапісец. - 2015. - № 3 (71). - С. 21 - 24.

8. Boyarunets H. Zapisy o Krzyzy i Kaplicy w Cwiermah / H. Boyarunets - Lida, рукапіс. копія, 1936. -50 с.

*Вычытка, адаптацыя і пераклад тэкстаў на беларускую мову: Кацярына Бычак.*

*Уступнае слова, каментары і археаграфічная падрыхтоўка да друку: Кірыл Сыцько.*

# Пра лёс Слабадской плябані ў г. Лідзе

У пачатку сакавіка 1943 года немцамі былі расстраляны ксяндзы Слабадскога касцёла Вінцэнт Лабан і Люцыян Мрачкоўскі.

У канцы кастрычніка 1944 г. Віленскі арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі прызначыў на пасаду пробашча касцёла на Слабадзе ксендза **Казіміра Баневіча**[1] (1905, Паставы - 4.02.1992, Кросна на Одары).

***Казімір Баневіч*** *нарадзіўся 29.01.1905 г. у Паставах на Віленшчыне (цяпер Віцебская вобласць). У 22 гады паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Вільні. Адначасова наведваў лекцыі на тэалагічным факультэце Універсітэта імя Стэфана Баторыя. У 1933 годзе прыняў капланскае пасвячэнне, пасля чаго стаў вікарыем парафіі Гадуцішкі каля Свянцян.*

*Калі ў 1940 г. Віленшчыну далучылі да СССР, хаваўся ў Вільні ў доме неманаскага Згуртавання дачок беззаганнай Марыі. Пасля заняцця Вільні немцамі вярнуўся да адкрытай душпастырскай працы.*

*Пасля другога заняцця Вільні Чырвонай Арміяй кс. Баневіч быў накіраваны ў Ліду. Тут стаў пробашчам парафіі Беззаганнага зачацця Найсвяцейшай панны Марыі на Слабадзе.*

Пасля заканчэння вайны кс. Баневіч не выехаў у Польшчу, застаючыся ў даверанай яму парафіі. Пасля смерці ў 1946 годзе Лідскага дэкана Гіпаліта Баярунца Казімір Баневіч быў прызначаны Лідскім дэканам і генеральным вікарыем на Лідскую акругу.

10.06.1951 г. кс. Баневіч быў арыштаваны агентамі МДБ. Падставай арышту былі паказанні шасцярых сведкаў, у тым ліку чалавека, які прыходзіў да споведзі. У абвінаваўчым акце чытаем, што кс. Баневіч *"быў непрымірымым ворагам савецкай дзяржавы і як варожа настроены да існага ладу на працягу многіх гадоў выкарыстоўваў сваё службовае становішча для сістэматычнага правядзення сярод парафіян-католікаў антысавецкай агітацыі і прапаганды, накіраванай на выхаванне каталіцкай люднасці ў духу нянавісці да савецкай улады і камуністычнай партыі, страшыў парафіян-католікаў адказнасцю перад рэлігіяй і законам Божым, заклікаў іх да сабатажу распараджэнняў савецкай улады, а таксама да неўступлення ў партыю і камсамол (...) у 1946 г. прамовіў у касцеле казанне, у якім выказваў антысавецкія выдумкі; у 1947 г. у час споведзі парафіянкі Буды заклікаў яе да неўступлення ў савецкія арганізацыі; да 1950 г. (...) вучыў дзяцей веруючых жыхароў "Катэхізму", не зважаючы на забарону органаў савецкай улады ў той справе; у час Вялікай Айчыннай вайны і пазней хаваў вялікую колькасць антысавецкай літаратуры, а ў часе аднаго з казанняў заклікаў да малітвы Богу, каб скончыўся час цярпення і прыгнёту ды наступіла сонца і свабода.*

18.10.1951 г. кс. Баневіч быў асуджаны па артыкулах 72 б, 64, 34 а, б, в КК БССР і прыгавораны да пакарання смерцю з заменай расстрэлу на 25 гадоў лагераў плюс 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці.

Кс. Баневіч прыгавор адбываў у савецкіх лагерах. Быў вязнем м. ін. Каргаполлага каля Архангельска, а таксама Пукса-Возера каля Пярмі. У траўні 1955 г. накіраваў ліст генеральнаму пракурору СССР з просьбай аб палягчэнні прыгавору. У верасні 1955 г. Вярхоўны суд СССР зменшыў яму прыгавор да 10 гадоў.

12.09.1957 г. кс. Баневіч быў вызвалены. Адразу накіраваўся на Віленшчыну, дзе не атрымаў дазволу на правядзенне душпастарскай дзейнасці. У гэтай сітуацыі рашыўся на выезд у Польшчу. Асеў на тэрыторыі Уроцлаўскай архідыяцэзіі. Працаваў у парафіі Саколіца, а пазней у Кросне на Одары.

Кс. Казімір Баневіч памёр 4.02.1992 г. у Кросне на Одары. Праз шэсць дзён быў рэабілітаваны рашэннем пракуратуры Рэспублікі Беларусь у выніку ўстанаўлення адсутнасці прызнакаў злачынства ў яго дзейнасці.

Пасля арышту кс. Казімірва Баневіча была канфіскавана Слабадская плябань, пра што захаваўся ліст загадчыка камунальнага аддзела Лідскага гарвыканкама Мацюшкіна ад 5 студзеня 1952 года наступнага зместу:

*Старшыні выканкама Лідскага гарадскога*
*савета дэпутатаў працоўных*
*тав. Акуліч А.Ф.*

*Копія: Сакратару Лідскага гарадскага*
*камітэта КП(б) Беларусі*
*тав. Ларычаву В.М.*

*Па вуліцы Польная пад № 52 размяшчаецца пачатковая школа № 7, якая мае вучэбную плошчу ўсяго 99,53 кв. м. Развіццё чыгуначнага вузла, павелічэнне насельніцтва ў той частцы горада, дзе размешчана школа, патрабуюць расшырэння вучэбнай плошчы і адкрыцця 10-гадовай школы.*

*На той жа вуліцы пад № 45 маецца дом з карыснай плошчай 255,82 кв. м. з дзевяццю жылымі пакоямі, надворнымі пабудовамі - тры хлявы, 2 склепы, 2 прыбіральні. Агульная ацэнка збудавання складае - будаўнічая 60136 руб., сучасная 47925 руб. і сучасны кошт надворных пабудоваў 9961 руб.*

*Акрамя таго маецца пладовы сад плошчаю - 2,5 га. Размяшчэнне пакояў і іх наяўнасць, пры нязначным рамонце цалкам дазволіць адкрыць у гэтым доме 6 класаў, канцылярыю, піянерскі пакой, метадычны кабінет і г.д.*

*Дом № 45 на права валодання не рэгістраваўся,*

[1] Першасныя звесткі пра ксендза Казіміра Баневіча прадставіў Аляксандр Клолышка.

5 Января 52
9

ПРЕДСЕДАТЕЛЮ ИСПОЛКОМА ЛИДСКОГО ГОРОДСКОГО
СОВЕТА ДЕПУТАТОВ ТРУДЯЩИХСЯ
ТОВ. ОКУЛИЧ А.Ф.

Копия: Секретарю Лидского Городского Комитета
КП/б/ Белоруссии тов. ЛАРИЧЕВУ В.М.

По улице Польная под № 52 размещается начальная школа № 7, имеющая учебную площадь всего 99,53 кв.м. Развитие железнодорожного узла, увеличение населения в той части города где размещена школа-требуют расширения учебной площади и открытия 10-ти летней школы.

На той же улице под № 45 имеется дом с полезной площадью 255,82 кв.м. с девятью жилыми комнатами, надворными постройками-три сарая, 2 погреба, 2 уборных. Общая оценка строения состовляет-строительная 60136 руб., современная 47925 руб. и современная стоимость надворных построек 3961 руб.

Кроме того имеется фруктовый сад площадью - 2,5 га. Размещение комнат и их наличие, при незначительн ом ремонте вполне позволит, открыть в данном доме 6 классов, учительскую, пионерскую комнату, методический кабинет и т.д.

Дом № 45, регистрации, на право владения, не подвергался т.к. он находится в пользовании католической общины, в нем же проживал ксендз, который арестован органами МГБ.

Считаю, что для пользы трудящихся города, использовать указанное помещение под 10 летнюю школу, о чем Исполкому необходимо ходотайствовать перед Облисполкомом.

Зав. Коммунального отдела- /МАЦЮШКИН/.

*паколькі ён знаходзіцца ў карыстанні каталіцкай грамады, у ім жа жыў ксёндз, які арыштаваны органамі МДБ.*

*Лічу, што для карысці працоўных горада выкарыстаць згаданае памяшканне пад 10-гадовую школу, пра што выканкаму неабходна хадайнічаць перад аблвыканкамам.*

*Заг. камунальнага аддзела (Мацюшын).*

Трэба думаць, што прапанова сп. Мацюшына была падтрымана. У любым выпадку плябань была забрана, тут пэўны час была школа, а пазней Клуб юнатаў.

Адрас будынка стаў: вул. К. Маркса, 41. Касцёл на Слабадзе быў закрыты. У 60-я гады 20-га стагоддзя плябань з усіх бакоў была абстаўлена панельнымі дамамі, прыналежнымі да вуліцы Горкага. Вуліца Карла Маркса ў гэтым месцы перастала існаваць і






РЕГИСТРАЦИЯ ТЕКУЩИХ ИЗМЕНЕНИЙ

Произведена „16" декабря 1957 г. (подпись)

Проверена „28" февраля 1958 г. (подпись)

захавалася толькі паміж вуліцамі Горкага і Дзяржынскага. Апошні няцотны дом мае адрас: К. Маркса, 39.

У рэдакцыі знаходзяцца абрысы плябані за 1949 г., паводле якіх яна ўяўляла сабой аднапавярховы дом з жылой мансардай. Нажаль, гэтыя абрысы для перадруку не прыдатныя, але прыдатны для перадруку абрыс дома за 1957-58 гг., на якім відны ўсе памеры.

Абрысы дома і мансарды 1949 г. можна будзе знайсці ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі.

Плябань была пабудавана ў 1936 годзе з дрэва на падмуроўцы і знаходзілася на паўднёвы захад ад Слабадскога касцёла. Канструкцыя вянцовая. Будынак быў ашаляваны. Прамавугольны ў плане. З франтону - зашклёная веранда. Дах высокі, ламаны, крыты бляхай.

Захаваўся "Ліст падліку плошчаў зямельнага ўчастка", паводле якога меліся:

- хлеў (15,9 х 6,95 = 111 м$^2$);
- хлеў (2,2 х 4,15 = 9 м$^2$);
- склеп (8,9 х 6,15 = 55 м$^2$);
- прыбіральня (1,2 х 1,2 = 1 м$^2$);
- прыбіральня (3,1 х 2,3 = 7 м$^2$);
- прыбіральня (1,2 х 1,2 = 1 м$^2$);



***Старая плябань на Слабадзе ў г. Лідзе. Франтон. 2006 г.***

- дарожка (78,0 х 1,2 = 94 м²);
- двор (890 м²);
- агарод (10065 м²);
- пладовы сад + агарод (24958 м²).

"Ліст..." таксама можна будзе знайсці ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі.



***Старая плябань на Слабадзе ў г. Лідзе. Заходні бок. 2006 г.***

Будынак плябані дакладна дастаяў да 2006 года, але быў даведзены да поўнай руіны, і яго восенню таго ж года знеслі. На ўчастку плябані засталося некалькі дрэваў, у тым ліку недзе чатыры яблыні. На момант зносу будынку было 70 гадоў. Не так і шмат, нават для драўлянага. Трэба думаць, што калі б дом заставаўся плябанню, то стан яго быў бы значна лепшы, і мы мелі б яшчэ адзін захаваны ўзор лідскага гарадскога дойлідства, але грамадская эксплуатацыя ёсць грамадская эксплуатацыя. Там тэрміны рамонту вызначаюцца не рэальнай неабходнасцю і наяўнымі сродкамі, а тэрмінамі службы, велічынямі міжрамонтных перыядаў, каштарысамі. Ды і якасць тых рамонтаў кантралюе не гаспадар.

Ці былі спробы вяртання будынка плябані Слабадской парафіі? Хутчэй за ўсё, што былі, але няўдалыя, аднак факт канфіскацыі, пэўна, быў улічаны пры выдзяленні пляцаў пад новую плябань ды і пад новы касцёл. Новы Слабадскі касцёл пабудаваны практычна на краі зямельнага ўчастка, які належаў некалі да старой плябані.

***Станіслаў Суднік.***

***Леанід Лаўрэш***

# Успаміны пра Валянціна Ляцецкага

***1. Запіс гутаркі з Ларысай Іванаўнай Ляцецкай (1946 г.н.).***
***2. Успаміны Наталлі Гвардзейцавай.***
***3. Успаміны Ларысы Канчэўскай.***
***4. Успаміны Уладзіміра Круцікава.***
***5. Сяргей Герасімовіч. Аберацыі часу.***
***6. Дадаткі.***

*Як я зайздрошчу табе!*
*Ты дасягнеш вышэйшай прыгажосці*
*І ападзеш, кляновы ліст!*
***Кагамі Сіко***[1].

Я даўно хацеў напісаць пра свайго сябра Валянціна Ляцецкага. Разважаючы пра будучы тэкст, я разумеў, што з маім "матэматычным" стылем, я змагу напісаць не больш за дзве старонкі. Гэта не задавальняла - Валянцін заслугоўваў значна большага. На шчасце, людзі, да якіх я звярнуўся з прапановай пагаварыць пад дыктафон пра гэтага чалавека альбо напісаць пра яго ўспаміны, паставіліся да маёй прапановы з поўным разуменнем і адабрэннем. Памяць пра Валянціна, чалавека, якога з 1996 г. няма сярод нас, жыве ў асяроддзі ягоных сяброў і родных. Ён пакінуў яркі след у гісторыі нашага горада, і я выканаю свой чалавечы абавязак, калі гэты тэкст раскажа пра майго сябра маладому пакаленню лідзян, паспрыяе ўвекавечанню яго памяці.

Пакуль працаваў над тэкстам і гутарыў з выдатнымі і разумнымі людзьмі, я думаў пра тое, што напісаць ва ўступе да гэтых успамінаў, як матываваць іх каштоўнасць? Як гэта часта бывае, падказка прыйшла з боку. У кнізе Дзмітрыя Быкава "Савецкая літаратура", у раздзеле пра Васіля Аксёнава, аўтар напісаў: *"Аксёнаў сумленна зафіксаваў падзел на дзве краіны ... Мы маем справу не з маналітным насельніцтвам, а з "людзьмі" і "людэнамі"* [2]. *Пры гэтым кодэкс гонару людэнаў супадае з інтэлігенцкім: іх займае сумесная праца ў імя будучыні, пазнання, доўгія і займальныя адносіны, якія не зводзяцца да простай фізіялогіі. А ўсе іншыя, якія добраахвотна і радасна абралі ролю быдла, імкнуцца да прымітыўнага дамінавання і да самых простых ідэнтыфікацыяў па самых іманентных прыкметах"*.



***Адзін з апошніх здымкаў Валянціна Ляцецкага***

Я выдатна разумею некаторую прэтэнзійнасць таго, што напішу ніжэй, але калі прытрымлівацца схемы Дзмітрыя Быкава, дык шмат год менавіта ў кватэры Валянціна адбывалася тая самая, па-Стругацкіх, ініцыяцыя "трэцяй сэнсарнай сістэмы" людэнаў, у нашым выпадку - інтэлектуалаў. І таму, усе мае сябры ў нашым горадзе былі і яго сябрамі, а той хто прыходзіў да яго другі раз, звычайна ўжо не губляў кантактаў.

Дарэчы, раман А. і Б. Стугацкіх "Хвалі гасяць вецер", які быў надрукаваны ў канцы 1985 - пачатку 1986 г. у часопісе "Знание - сила", я чытаў, атрымліваючы нумар за нумарам ад Валянціна. Дзе ён даставаў такі "дэфіцыт" для мяне з'яўляецца загадкай і зараз.

На шчасце, я рэалізаваў свае даўнейшыя планы: правёў серыю інтэрвію, расшыфраваў і пракаментаваў іх, ініцыяваў выдатных людзей запісаць свае ўспаміны і ўсё гэта звёў ў адзіны вялікі тэкст пра Валянціна Ляцецкага. І такім чынам паставіў чарговую коску і ў сваім лёсе. Можна вольна ўздыхнуць - справа зроблена.

*Леанід Лаўрэш.*
*05.04.2015.*

[1] Хайку паэта і будыйскага святара Кагамі Сіко (1665-1731), выбіты на магільным помніку Валянціна Ляцецкага.

[2] *Людэны* (ад "хомо людэнс" - "чалавек які гуляе") - з рамана А. і Б. Стугацкіх "Хвалі гасяць вецер". Адзін з герояў рамана Айзек Бромберг у сваім "Мемарандуме" ў якасці прагнозу фармулюе тры прынцыповыя думкі аб людэнах. Першая: у бліжэйшы час чалавецтва будзе падзелена на дзве няроўныя групы. Другая: яно будзе падзелена па незразумелай для нас прыкмеце. Трэцяя: меншая з гэтых груп у сваім развіцці радыкальна і назаўжды абгоніць вялікую. Фрагмент рамана "Не зрабіце памылкі: *"Мы - не вынік біялагічнай рэвалюцыі. Мы з'явіліся таму, што чалавецтва дасягнула пэўнага ўзроўню сацыятэхнічнай арганізацыі. ... фактычна ўсё выглядае так, быццам чалавецтва распадаецца на два віды. І нікуды вам не дзецца ад гэтага адчування пры думцы аб тым, што адзін з вас выйшаў далёка за межы, непераадольныя для іншых ста тысяч. І самае страшнае, што расколіна праходзіць праз сем'і, праз сяброўствы ..."* .

**Запіс гутаркі з Ларысай Іванаўнай Ляцецкай (1946 г.н.)**

***Лаўрэш Леанід.*** У гэтую кватэру мяне, студэнта 3-га курса, у 1983 г. прывёў мой школьны сябар Валера Тузін. Што мяне адразу здзівіла - я працягваю руку да званка, а ён адчыняе дзверы: "Заходзь, званіць не трэба". Так было заўсёды?

***Ларыса Іванаўна.*** Так. Так было заўсёды, зусім дакладна. І пачалося гэта вось з якога часу.

У 1963 г. бацьку перавялі ў Ліду на пасаду намесніка пракурора горада. І мы пераехалі сюды з Дзятлава. Прычым мяне яны бераглі - я паехала ў Менск здаваць экзамены пасля дзятлаўскай дзесяцігодкі, а яны ціхенька пераехалі. Вяртаюся ў Дзятлава, а там ужо нікога няма. Пасяліліся мы па вуліцы Савецкай. Двухпакаёвая кватэра на пятым паверсе ў доме, там, дзе зараз крама гаспадарчых тавараў, а побач ювелірная крама. Я паступіла ў Менск і з'ехала, засталіся маці з бацькам і Валік. Старэйшы брат Іван з'ехаў яшчэ раней, ён вучыўся ў Даўгаўпілскім вайсковым вучылішчы[3], а потым, адразу пасля вучылішча, яго адправілі на Чукотку. У той час ён ужо служыў.

***Л.Л.*** Вы жылі ў Дзятлаве. Не ведаў.

***Л.І.*** Я была вельмі такая ўся з сябе. Каб я нейкія далікатныя пачуцці адчувала да брата, гэтага ў мяне не было. Атрымлівалася так - у мяне самы дзіцячы ўзрост быў пагуляць, а мяне трымаюць. З Валікам тое, з Валікам гэта, з Валікам пасядзець, Валіка адвезці, Валіка пакарміць. Калі ў Дзятлаве жылі, там яшчэ і агарод быў, таксама на мне. І таму я глядзела на гэта, як на сітуацыю ... ну як на абузу, верагодна.

***Л.Л.*** Звычайная дзіцячая рэакцыя.

***Л.І.*** Яшчэ было такое. Здаецца, усё зрабіла, усё, усё, усё. І я гляджу на маму, мама глядзіць на мяне і кажа: "Ну добра, толькі, каб ён цябе не заўважыў. Я ўніз, паміж бульбай прабіраюся, каб нырнуць за плот. Ён мяне бачыць і гучна крычыць: "Лора, мама-Лора". Я вяртаюся, таму што ён плача. Даю па карку ...

Ён вельмі крохкі быў. Вось ён ідзе, ідзе, на роўным месцы паваліўся, і ў яго пералом ключыцы, пералом рукі ў двух-трох месцах. Вельмі крохкія косткі былі. Давалі яму тоўчаную шкарлупіну ад яек, з мёдам заміналі. Але гэта ўсё - "бабчыны рэцэпты". Усё гэта не дапамагала.

***Л.Л.*** І вы ў Лідзе з 1963 года.

***Л.І.*** Так. Бацька ў нас быў вельмі настойлівы чалавек. І акрамя таго ён меў пэўную вагу, уплыў у горадзе. Ён быў намеснікам пракурора горада і быў вельмі паслядоўным і арганізаваным чалавекам, заўсёды рабіў усё, як належыць ...

У 1968 г. я скончыла вучобу ў Менску, 5 гадоў яны жылі ў той кватэры па Савецкай, і да новага года ў 68-м, я прыязджаю, а мне кажуць - у нас ужо новы адрас. Гэты дом будаваўся ўжо як дом з палепшанай планіроўкай, чэшскі праект, і таму вось такая, досыць



***З бацькам***

вялікая кватэра. І вось гэты пакой (паказвае рукой) быў адразу замацаваны за Валікам. Я сюды як бы ў госці прыязджала, таму што ўжо працавала.

Але ўся "катавасія" з яго лячэннем пачалася раней. Бацькі спрабавалі яго неяк паставіць на ногі.

***Л.Л.*** Давайце трошкі вернемся. Ён пайшоў у школу ў Дзятлаве?

***Л.І.*** Не. Ён пайшоў у школу тут. Ён не мог раней пачаць вучыцца, не мог наогул хадзіць. Ён адставаў і пайшоў тут у 8-ю школу[4], бацька яго вадзіў. Хлопцы, з якімі ён вучыўся, былі за яго гады на тры маладзейшыя. Яго школьныя сябры - Воўка Бразгін і Валерка Гвардзейцаў і Лёня ... гэты ... сын Алены Пятроўны Шнэйдар, сын па бацьку прозвішча меў, Бурбуць[5] ці неяк так. Падзабылася я ўжо. Увогуле, яны ўсе тут (у кватэры) пастаянна былі ... аселі тут моцна. Прычым Валік быў адразу разумным, ён хутка зразумеў сваё становішча, зразумеў, што яму без сяброў - нікуды. Ён трошкі старэйшы і таму быў для іх яшчэ і "камізэлькай", куды можна паплакаць. Пагаварыць з ім можна было і параду ад яго атрымаць. А акрамя таго ён быў начытаны. Ён вельмі шмат чытаў і шмат ведаў. Ён чытаў вельмі шмат рознай літаратуры. Цяміў ў электроніцы. Умеў прыпаяць нешта - калі трэба паяць, намаляваць - калі трэба намаляваць, на гітары мог граць і спяваць - калі трэба было нешта спяваць і граць. Мог дапамагчы - і дапамагаў ва ўсім.

Але трэба было нешта рабіць са здароўем. Наогул, гэтыя праблемы пачаліся, вядома, раней.

[3] Даўгаўпілскае вышэйшае ваеннае авіяцыйнае інжынернае вучылішча.

[4] СШ №8 знаходзілася ў будынку, у якім зараз музычны каледж.

[5] Бурбуць Леанід, сын выкладчыка матэматыкі школы №8 Уладзіміра Іосіфавіча Бурбуця.



***З маці і сястрой на балконе кватэры***

***Л.Л.*** А што за хвароба?

***Л.І.*** Аб хваробе. У яго была хвароба, якую лекары не маглі вызначыць. Чаму такі збой у генетыцы здарыўся? Ні ў кога ў сям'і ў нас такога не было. Ставіўся такі дыягназ - вымыванне кальцыю з костак. І таму калі ён пачаў ужо хадзіць, і стаў набіраць трошкі вагу, то ногі яго пачалі выгінаецца. Гэта прыкладна ў 4 гады пачалося. Шаблевідныя выгіны на адной назе і на другой. Прычым адна нага выгіналася больш за другую. І наступіў такі момант (бацька ў той момант як раз быў менш загружаны працай), калі вырашылі яго везці ў Ленінград, у інстытут імя Турнэра[6]. У гэтым інстытуце прапанавалі такі варыянт, што яны яму распілуюць костку нагі на 10 маленькіх фрагментаў, ўставяць спіцу, косці зрастуцца, і будзе ўсё ў парадку. Так і зрабілі. Яму было 10 - 11 гадоў. Зрабілі такую аперацыю, ён там недзе год адлежаў, прывезлі дадому, і пачало пухнуць сцягно. Мала таго, што пухла, яно яшчэ і налівалася ... такім цвёрдым, як дрэва, станавілася *(стукае па стале)*. Медыкі рабілі аперацыю, не вельмі разумеючы тое, чым гэта можа скончыцца. Вывучаючы яго хваробу, яны толькі маглі меркаваць, што калі будзе нейкае сур'ёзнае ўмяшальніцтва, дык гэта можа неяк адмоўна адбіцца на іншых частках цела. І ў яго пасля аперацыі пачалося: то тут успыхне (паказвае на сцягно), то тут (паказвае на руку) - рука нальецца. То ападзе - і ўсё ў парадку. То нага, то іншая нага, то так, то гэтак. У выніку, сцягно распухла, стала велізарным і яго павезлі ізноў у інстытут Турнэра. Яны кажуць - не, мы ўжо нічога не можам зрабіць. Едзьце ў Пясочнае, у іншы інстытут. Прывезлі туды, і там дыягнаставалі саркому косткі. Я была ў гэты час на Каўказе, у Нальчыку. Гэта было паміж маім трэцім і чацвёртым курсам, 1966 год. Мама мне дасылае ліст, што Валіку будуць рабіць ампутацыю з вычляненнем тазасцегнавага сустава. Зрабілі яму аперацыю і трэба сказаць, што рэцыдываў гэтая пухліна больш не давала. Усё добра зарасло.

Перад гэтай аперацыяй, ён перадаў маці ліст, недзе ён у мяне захоўваецца, можа быць збяруся з сіламі і знайду. Ён напісаў: *"Мама, тата, не плачце па мне. Я і так шмат пражыў на свеце"*.

***Л.Л.*** Колькі гадоў яму тады было?

***Л.І.*** 14. Было 14 гадоў.

Але здарылася іншая бяда. Калі б я была тут, то я б вядома б не дапусціла. А мама, ... колькі ён яшчэ пражыве - не вядома ...

Я думала: маці з бацькам не вечныя. Усё роўна мне давядзецца з ім жыць. Я не магла выказаць тады, нават падумаць, што ён сыдзе раней за мяне. У галаве не ўкладвалася, што так здарыцца. Пасля ВНУ я адпрацавала ў Гарадзенскім раёне ў Луцкаўлянах толькі да студзеня, у новым 1969 г. я ўжо працавала ў райкаме камсамолу ў Гародні, загадчыцай школьнага аддзела. У верасні я сказала сваім начальнікам: "Хлопцы, я вядома разумею, вам гэта зручна, што маўчу, што я нічога не кажу, што я кожны дзень еду на працу з Луцкаўлянаў, 30 кіламетраў туды і назад". Ну і прапанавалі

[6] Навукова-даследчы дзіцячы артапедычны інстытут імя Г.І. Турнэра.

мне ісці ў інтэрнат, да студэнтак першага курса ў пакой, чацвёртай. І тады я заяву на стол. А тут, у Лідзе, як раз месца вызвалілася.

Таму я і падумала: так справа не пойдзе. І з ім паразмаўляла (маці стаяла пад дзвярыма і ўсё чула. Я гэтага не ведала). Кажу яму: "Валік, я адвучылася і магу перавесціся ў Ліду працаваць, буду дапамагаць. Зразумей, ты ўжо дарослы хлопец. Пасля ампутацыі нагі стаў расці. А ты што зрабіў з сабой?".

Яму было не зручна вось так сядзець *(распраствае нагу)*. І ён сядзеў вось так *(падціскае нагу пад сябе)*. І ў яго каленны сустаў цалкам зарос храстковай тканінай. І атрымалася, адной нагі няма, а другая вось такая скарлючаная.

Я яму сказала: "Ты зразумей, я магу цябе з каляскі пасадзіць у ванну". - Там, у ванне, адмысловую прыладу прыбілі, каб ён мог сабе рукамі дапамагаць. - "Але я не змагу цябе цягаць на руках на вуліцу, ты зрабіў сябе турму, ёю стане твой пакой. Так будзе, калі ты не будзеш нічога рабіць сам, не пачнеш шукаць, турбавацца, інакш ніхто табе не дапаможа. Ты падумай, калі ласка. Трэба нешта рабіць".

Ён глядзеў на мяне і не разумеў. Ён не пакрыўдзіўся, але ён неяк сур'ёзна задумаўся і пачаў тармасіць бацькоў.

Так, а маці на мяне вельмі пакрыўдзілася: "Ты яго не любіш, ён для цябе чужы, хоць ён табе родны брат". Я ўсё гэта "з'ела", таму што мама ёсць мама. Але, прыкладна праз паўгода, бацькі "варухнуліся" і павезлі яго ў Менск.

Прывезлі ў Менск, у Інстытут артапедыі і траўматалогіі. Да яго выйшаў прафесар, паглядзеў на яго. А ён ужо такі поўненькі быў. І кажа: "Сцісні мене руку". А ў Валянціна млявая рука - поціск рукі слабы.

Прафесар кажа бацьку: "Навошта ж вы яго прывезлі? Ён не трэніраваны, у яго адрузлае сэрца. Ён малады зусім, а сэрца, як у старога, ужо тлушчам зарасло. Акрамя таго, у яго слабыя мускулы. І калі мы пачнем рабіць яму сілавую аперацыю, а другога варыянту няма, мы яго проста заб'ём".

Ён усё гэта чуў.

***Л.Л.*** Сілавая аперацыя - гэта што?

***Л.І.*** Аперацыя сілавая - гэта вось што такое. З каленам ўжо нічога нельга было зрабіць. Рабілася наступнае. Калена заставалася ў такім жа стане, але вось у гэтым месцы *(паказвае сабе ніжэй калена)* нага выгінаецца, чым кампенсуецца неразагнутае калена. Разумееце, калена застаецца зафіксаваным, але костка выгінаецца. Тады ён можа ўстаць, тады мы можам зрабіць яму на другую нагу пратэз, і ён можа рухацца.

Ён вярнуўся дадому на год, вельмі сур'ёзна паставіўся да гэтага. Вельмі сур'ёзна. Ён пачаў займацца гантэлямі, ён пачынае "качацца". Праз год у яго рукі сталі як адлітыя, плечы як адлітыя - будзь здаровы. І праз год прафесар спакойна прыняў яго на аперацыю.

Надзелі яму апарат Елізар'ева, патроху, на працягу года, падкручваў, падкручваў, і пры "замкнёным" калене выгнула нагу - "растулілі". На другую нагу зрабілі пратэз. І ён стаў на дзве нагі.

***Л.Л.*** Гэта ў якім годзе было?

***Л.І.*** Гэта, прыкладна 1970.

***Л.Л***. У якім годзе ён скончыў школу?



***З братам і плямяннікамі***

***Л.І.*** Не памятаю ... Але прыкладна ў гэты час ён яе і скончыў.

І трэба сказаць, што яго сябры таксама ў тым жа годзе школу скончылі. І Воўка Бразгін і Валерка Гвардзейцаў - самыя яго верныя сябры. Акрамя таго я пачала працаваць у Лідзе.

***Л.Л.*** Я чамусьці не памятаю Бразгіна.

***Л.І.*** Бразгін - ён з'ехаў з Ліды, але кожнае лета бываў тут. Воўка Бразгін. Ён цяпер у Маскве. Ён яшчэ ў пазалеташнім годзе прыязджаў. Вельмі на мяне пакрыўдзіўся. Як раз была дата - 60 гадоў было б Валянціну. А я ў гэты час была ўжо настолькі ў ... у сваёй хваробе ... цалкам, што я нават не сцяміла, пра што ён кажа. І Воўка на мяне пакрыўдзіўся. З тых часоў больш ужо не тэлефанаваў. Я вось забылася пра 60-ці годдзе. Ён, праўда, прыязджаў на гадавіну смерці. Ну, добра.

І з 1970-га года ў мяне пачынаецца жыццё ў Лідзе. Я працую ў 8-й школе. Арганізатарам. У мяне апынуліся ўсе старэйшыя хлопцы. І я з імі да Валіка. Як трэба што-небудзь зрабіць - вось табе адрас, ідзі да нас.

***Л.Л.*** Арганізатар - гэта хто?

***Л.І.*** Намеснік дырэктара па арганізацыі пазашкольнай работы. Завуч.

Я 20 гадоў прапрацавала завучам і за гэты час палову школы "перацягала" сюды.

Што мы толькі з гэтымі хлопцамі не рабілі!

І рок-клуб арганізавалі. І ставілі "Дванаццаць" Блока, Сліўко Смагард[7] дапамагаў. Агітбрыгаду арганізавалі. Потым быў рок-клуб.

***Л.Л.*** А давайце пра гэта ў храналагічным парадку пагаворым. Гэта вельмі цікава. Пра рок-клуб ён сам шмат расказваў.

***Л.І.*** Калі ён стаў на ногі, бацька паднатужыўся і купіў яму "Запарожац". Ён сеў за руль, стаў мабільны. І здарылася нават аднойчы такое, што сябар бацькі ўбачыў яго ў Берасці. Бацька прыбягае абураны, а Валік сядзіць, як у нічым не бывала ... Зрэшты, катаўся па ўсёй Беларусі. Ну і на калясцы выязджаў з хлопцамі пастаянна.

***Л.Л.*** У канцы 1980-х я ўжо і сам неаднаразова з хлопцамі яго ў калясцы па горадзе вазіў, і на пікнікі ў лес выходзілі, і ў госці шмат разоў з ім хадзілі. Гэта я ўяўляю добра. Блока вы як п'есу ставілі?

***Л.І.*** Ставілі школьную п'есу. Разам са Сліўко. Ён працаваў у школе, вёў рускую мову і літаратуру. Хлопцы-дзесяцікласнікі, ну тыя, у каго я бачыла "жывыя вочы" і "незашораны" розум, яны ўсе пабывалі тут, у Валіка. Прыходзілі сюды, каб рабіць тое, што ім было патрэбна. Напрыклад, прыходзяць да мяне: "Ларыса Іванаўна, мы збіраемся зрабіць тое і тое". І я тэлефаную, пытаю ў Валянціна, ці зможа ён дапамагчы. Ён адказвае, што зможа, і тады я пасылаю дзяцей. І даю адрас і адпраўляю да яго: "Там вам дапамогуць". Яны прыходзілі сюды, і пачыналася. Ну, напрыклад, аднойчы хлапчукам прыйшла такая цікавая ідэя. Каму канкрэтна, нават і не ўспомню. Мне цяжка ўспомніць. У мяне ў 2009 г. пачалася хвароба такая, непрыемная, і далей адно за адным ... І як вымыла памяць ўсю ... Ну, увогуле, знайшлі лімфому 4-й ступені, 4-я яна ж і апошняя. Два гады я і размаўляць не магла - толькі шыпела. Хімію рабілі, гармонамі пачалі карміць. Ну, зрэшты ... вось такія справы.

А з імёнамі ў мяне заўсёды было не вельмі добра. Цяпер зусім дрэнна. Ну, Юлька Крысін са школы са сваімі сябрамі сюды прыходзіў, потым ... іншыя прыходзілі, шмат прыходзіла.

Прыйшлі аднойчы да мяне: "Ларыса Іванаўна, у нас такая вельмі цікавая ідэя, давайце зробім. Мы хочам паставіць прадмову да "Руслана і Людмілы", "Ля Лукамор'я дуб зялёны". Мы так усё выдатна, цікава прыдумалі". Я кажу Валянціну пра тое, што хлопцы прыдумалі - цікавая задумка ёсць. Яны прыйшлі да яго. Запісалі на магнітафон гукавую дарожку інсцэніроўкі - там быў і "Новы паварот" "Машыны часу" ... А на сцэне такая моцненькая дзяўчынка, яна так грала залаты ланцужок - "І днём і ноччу кот вучоны" ...

***Л.Л.*** Гэта, верагодна, ужо пачатак 1980-х гадоў.

***Л.І.*** ... Далей "што ён нам нясе, прорву або ўзлёт" яны вакол гэтага Лукамор'я танчаць і рукамі малююць звяроў. Што яны толькі ні напрыдумлялі! Гэтая п'еса ішла перад Новым годам.

***Л.Л.*** З аўдыёзапісамі ў яго заўсёды было вельмі добра.

***Л.І.*** А памятаю яшчэ больш прыгожае, яшчэ больш цікавае. Зрабілі мы агітбрыгаду. Нават на вобласць ездзілі і там месца атрымалі. Ну, тут аўдыё-запіс таксама быў такі, ух ... нават "Сіні іней" - мантаж музыкі цалкам Валянціна. І падказкі розныя па сцэнары яго былі, і сюжэтныя хады цікавыя ён выдумляў. Праграма называлася: "Чалавек - гэта гучыць горда". Мы паказвалі, што чалавек - гэта нешта нясхільнае, і чалавек павінен цягнуцца да ведаў, і чалавек павінен глядзець заўсёды ўверх, а не ўніз. Зрэшты, усё будавалася вакол "Маральнага кодэксу будаўніка камунізму" *(смяецца)*.

***Л.Л.*** Які ў значнай частцы быў спісаны з біблейскіх запаведзяў.

***Л.І.*** Але мы рабілі п'есу з падтэкстам. Падтэкст наш віраваў пратэстам супраць няволі - да нас прыходзілі і заяўлялі: "Што гэта ў вас за клуб такі? Што гэта значыць? А чаму вы слухаеце такую музыку, а чаму "Сцяна" гурта "Пінк Флойд"? А навошта вам гэтая "Сцяна"? А чаму вы не можаце ўзяць, ну ... глядзіце якая ў нас "Лідчанка" выдатная? Ларыса Іванаўна, ну вы ж самі там спявалі! Ну чаму б вам не далучаць дзяцей да нацыянальнага фальклору?"

Ларыса Іванаўна падымаецца і кажа: "Ім гэта не цікава!".

***Л.Л.*** Арыгінальна, на піку савецкай дэнацыяналізацыі - дыстыляваны фальклор.

***Л.І.*** У мяне пыталіся: "А вас за вашыя праграмы не пасадзяць?". "Ды не, не пасадзяць, але на ўлік туды, дзе трэба, паставяць. Дык я там даўно ўжо стаю"

---

[7] Смагард Фёдаравіч Сліўко - настаўнік, паэт, артыст Лідскага народнага тэатра, рэжысёр школьнага тэатра СШ № 8.

*(смяецца)*.

***Л.Л.*** У "органах"?

***Л.І.*** Ну так. Проста тады, пры канцы 1970-х, тут так усё бурліла, бурліла ў свядомасці, што нават, калі б я паспрабавала, мяне б дзеці так далёка паслалі! Я ставіла такія эксперыменты.

***Л.Л.*** А хто з вамі размаўляў? Людзі па лініі педагогікі?

***Л.І.*** Не, гэта былі людзі з гаркама партыі. Самае цікавае, што ў той час ужо сядзеў першым сакратаром мой "кораш" па працы ў камсамоле.

***Л.Л.*** А калі ўзнік знакаміты лідскі рок-клуб? Валянцін вельмі шмат пра яго распавядаў, шмат успамінаў. Успамінаў, як іх праграма перамагла на-рэспубліцы, у Менску.

***Л.І.*** Агітбрыгада ўжо паралельна існавала з рок-клубам. Праграму яны для Менска вельмі цікавую зрабілі. Дзесьці ў мяне нават павінны захоўвацца планы, тэксты *(абводзіць вачыма кватэру)*.

Наогул рок-клуб пачынаўся ў 1975-76 навучальным годзе. А ў мяне быў “Клуб выхаднога дня”, у школе. Збіраліся старшакласнікі. І Валік да нас прыязджаў. А насілі туды фільмы. "Люстэрка" [8] Таркоўскага і яшчэ розныя фільмы ...

***Л.Л.*** На чым вы глядзелі?

***Л.І.*** У мяне ж у школе быў кінатэатр. На кінаплёнцы.

***Л.Л.*** Таркоўскі ў вас быў на кінаплёнцы?

***Л.І.*** Так. Што яшчэ глядзелі? "Сталкера" глядзелі.

***Л.Л.*** "Сталкер" - гэта ўжо 1979-ы.

***Л.І.*** Ну так. І "Салярыс" глядзелі. Увогуле, такія вось, сапраўдныя фільмы глядзелі. А Валянцін распавядаў, тлумачыў, што да чаго, які сэнс маюць нейкія рэжысёрскія задумы, чаму менавіта так працаваў апаратар і г.д. Чытаў лекцыі.

Ларыса Канчэўская прыходзіла.

***Л.Л.*** Яна кім тады працавала?

***Л.І.*** Яна працавала ў педвучылішчы ...

Неяк ўсё гэта супала з дзіцячым бунтам, а для таго, каб сябе нейкім чынам праявіць неабходны былі веды. Таму Ларыса Канчэўская прыходзіла, Валянцін прыходзіў, яны выступалі ў Клубе выхаднога дня. А мы стварылі агітбрыгаду ў гэтых рамках і потым зразумелі, што можам зрабіць яшчэ больш. І мы пачалі такія "феерыі" паказваць!

Моладзі талковай было шмат, яна неяк сама выяўлялася. У мяне ўсе да аднаго класы, з 8-га пачынаючы, шэсць 8-х класаў, пяць 9-х, усе 10-я класы - усе яны перад Новым годам ставілі спектаклі, нешта такое сваё ставілі. Чаго там толькі не было. І "цыганскі базар" і "каты" ... Божа, я да гэтага часу памятаю як гэта яны зрабілі ... Вельмі ўсё ў іх смешна было. Пад музыку Адрыяна Чэлентана, з мяцёлкамі вакол ёлкі, ва ўсіх каціныя вусы і паласатыя доўгія шалікі. І яны з мяцёлкамі танцавалі. Як яны гэта ўсё зрабілі! Навагоднія спектаклі ў нас былі такія, што ўся школа не ведала спакою. Я ў 11 гадзін вечара дадому прыходзіла. Таму што я з кожным класам ставіла гэтыя самыя сапраўдныя спектаклі. І вось яны ўсе праганялі свае інсцэніроўкі, кожны клас абараняўся, кожнаму класу быў дадзены час. Там і баба-яга прадавала ў падваротні джынсы ... што яны толькі не прыдумлялі.

***Л.Л.*** І да чаго гэта ўсё прывяло?

***Л.І.*** Усё гэта прыводзіла да таго, што ў выніку трэба ўжо было замыкацца на нешта адно, неяк вызначацца.

А чым можна было заняцца?

Паэты срэбнага стагоддзя? Але гэта была мая ініцыятыва.

Наогул, я паэзію па-маладосці не любіла. І раптам аднойчы, у 1968 годзе, я зайшла ў маленькі падвальчык у Гародні і бачу - кніга ў супер-вокладцы. На вокладцы раскошная, магутная жанчына ляжыць на такой тлустай зямлі. І загаловак "Чатыры пары сэрца", Пабла Неруда.

Адкрываю:

*День омраченный падает с колоколен,*
*будто бы вдовье трепещущее покрывало.*
*Этот цвет, эта дрема*
*уходящих в землю черешен,*
....
*все мне падает в руки, которые я подымаю*
*к дождливому небу* .[9]

І яго паэзія, і яго любоўная лірыка, усё гэта мяне так уразіла, што ад Паблы Неруды, па-ланцужку, ад аднаго да іншага, я прыйшла да літаратуры срэбнага стагоддзя - вось стаяць: Сяльвінскі, Эрэнбург. А потым пайшлі Ахматава, Цвятаева, Валошын і г.д. Ад Няруды да яго сяброў. Так атрымалася, што я палюбіла паэзію срэбнага стагоддзя.

І пайшло. Ладзілі вечары паэзіі. Але ў выніку, усё ж такі ўсё замкнулася на музыку. Таму што менавіта яна бударажыла розумы, выклікала трапятанне, клікала моладзь да нечага такога ...

***Л.Л.*** Гэта пачатак 1980-х?

***Л.І.*** Гэта пачатак 1980-х. І тады мы пачалі. Спачатку ў школе. А потым выйшлі на гарадскі ўзровень. Пачалі збірацца ў старым Доме культуры. Туды я вадзіла хлопцаў-старшакласнікаў.

***Л.Л.*** Што гэта было ў арганізацыйным сэнсе?

***Л.І.*** Арганізацыйна гэта быў клуб па зацікаўленнях. Зарэгістраваны, як належыць, пры доме культуры. Афіцыйна на чале клуба стаяў Валянцін.

***Л.Л.*** Мы толькі што бачылі даведку аб налічэнні 22-х рублёў у месяц кіраўніку гуртка - гэта вось тое самае?

***Л.І.*** Так.

***Л.Л.*** Збіраліся раз на тыдзень? Два - тры разы?

***Л.І.*** Не памятаю. Мы прыходзілі туды раз у месяц. Моладзь збіралася раз у тыдзень, ці часцей? І рабіла праграмы. Праграмы, накшталт дыскатэкі былі вельмі цікавыя. Ну, не зусім дыскатэкі. Заўсёды была

[8] "Люстэрка" было ў 1986 г., пра паказ фільма распавядала Ларыса Канчэўская.

[9] Пераклад Л. Мартынава.

лекцыя пра музыку. Адна выдатная праграма мне вельмі запомнілася. Была як раз круглая дата Янкі Купалы і Якуба Коласа.

***Л.Л.*** 1982 г. - стагоддзе іх нараджэння.

***Л.І.*** І вось мы тады зрабілі вельмі цікавую праграму. У мяне нават дзесьці сцэнар захаваўся. Але зноў трэба лезці ў гэтыя шафы *(аглядае пакой)*, шукаць.

Гэта было так: спачатку рок-клуб паставіў невялікі спектакль па Купалу і Коласу.

***Л.Л.*** Якія творы выкарыстоўваліся?

***Л.І.*** Ставіўся адрывак з "Паўлінкі" - вядома, пан Быкоўскі са сваімі жэстамі, ставіўся і "Курган". Ну а ў другой частцы была замежная музыка. Але ўсё роўна, і ў другой частцы распавядалі пра музыку, давалі пераклад тэкстаў і г.д. І слухалі музыку, танчылі.

Гэтак жа рабілі праграмы па "Лявонісе на арбіце" Андрэя Макаёнка, па Кандрату Крапіве рабілі, ну там "Баба з возу ..." і вельмі шмат чаго. Усім было вельмі цікава. Прычым не проста ж даслоўна бралі тэксты, а рабілі з іх нешта такое ... Дабаўлялі на школьную альбо на любыя іншыя тэмы, нешта сваё ...

***Л.Л.*** Перапісвалі тэксты?

***Л.І.*** Не, проста да класічных тэкстаў дадавалі сваё, асобнымі блокамі, з "мясцовым каларытам". Шмат усяго было. І, звычайна, слайды былі ў другой частцы.

І менавіта гэтую праграму, з Купалам і Коласам, мы вазілі ў Менск і атрымалі там прызавое месца на конкурсе. Я ў Менску ў гэты час была ... альбо ў мяне курсы былі, альбо яшчэ нешта. Але я памятаю, я прыбегла да іх, калі яны выступалі ў клубе Трактарнага завода, і яны адыграўшы праграму, у бакоўках ўсе сядзелі ўздоўж сцен - задаволеныя, паралізаваныя, ногі выцягнутыя, твары задаволеныя ... і папівалі піва.

Скончылася даволі рэзка.

Са мной усё прасцей было. Мне дырэктар сказаў, каб я больш дзяцей у Дом культуры не вадзіла, у нас свайго месца хапае. Паступова гэта заглухала, з “Клубам выхаднога дня”. У мяне не было часу. Я не магла пасярод тыдня вырвацца дадому. Валік быў тут для маіх дзяцей і бацькам, і маці. Я ў 8 раніцы сыходзіла і ў 8, 9, 10 вечара прыходзіла. Дзед вядзе дзяцей у сад. Валік вучыць з імі ўрокі. Я ні ў аднаго дзіцяці не была ні на першым званку, ні на апошнім званку. Я гэтага ўсяго не бачыла.

Дырэктар вельмі добра ведаў маю натуру. Мне патрэбен быў хаця б адзін дзень, каб я магла нешта дома зрабіць, маці дапамагчы. Таму ён перастаў прымушаць мяне рабіць “Клуб выхаднога дня”. Вельмі спакойна так. Я бачу - ніхто мяне ўжо з гэтым клубам не напружвае. Гэта быў такі добры "езуіцкі" ход. Толькі потым, калі мы аднойчы нешта адзначалі, ён, расслабіўшыся, сказаў: "Што, Ларыса Іванаўна, пахерылі мы ваш свабодалюбны занятак, усё так спакойна сышло ў нуль, што нават лаяцца з вамі не прышлося. Ха-ха-ха".

***Л.Л.*** Зразумела. А што з рок-клубам было? Валянцін распавядаў, чым ён скончыўся. "Органамі" пры Андропаве.

***Л.І.*** Я не памятаю. Памятаю, што яны рабілі



***У аркестравай яме за апаратурай***

праграмы, базаваліся ў Доме культуры, потым з Дома культуры ім давялося сысці ў Клуб абутковай фабрыкі. Там яны рабілі свае праграмы і танцавальныя вечары. У Доме культуры на іх ужо быў такі ціск, такі ціск, з усіх сіл. А там было больш вольнае месца, спакойнае. Ну і Валянцін быў вельмі расчараваны, калі ён даведаўся, што некалькі хлопчыкаў і дзяўчынак з яго бліжэйшага атачэння былі стукачамі, у тым ліку і Ш. быў такі фатограф. Потым ён сам, ці нехта яго скінуў з 12 паверха ...

***Л.Л.*** Ды я добра памятаю Ш. Як гэта стала вядома?

***Л.І.*** Не ведаю, як гэта стала вядома, але памятаю, што гэты, які зараз займаецца [...], прозвішча не магу ўспомніць, а ну так, Аляксандр Свірыд.

***Л.Л.*** Ды яго таксама памятаю. Ён мемуары апублікаваў. Але прозвішча яго ўжо не ўспомніў бы.

***Л.І.*** ... вельмі спалохаўся гэтага ўсяго, і ён у Валіка пакінуў ўвесь свой архіў. Усе сшыткі, усе запісы свае, у яго было столькі тэчак! У мяне яго тэчкамі была забіта палова секцыі. Расшыфроўкі тэстаў песень, запісы, калі што паўстала, ён столькі ведаў! Ён у Беларусі ведаў усё новыя групы. Як толькі нейкая новая група з'яўлялася, ён тут жа пра яе ўсё даведваецца. Калі яны ўжо пачалі хавацца, ён усё Валянціну і аддаў на захаванне.

***Л.Л.*** Гэта які быў год? 1983? 1984?

***Л.І.*** Не памятаю ... Але я яшчэ доўга захоўвала яго інфармацыю. Потым ён аднойчы з'явіўся, і я яму сказала: "Табе не шкада?".

***Л.Л.*** Валянцін расказваў падрабязна гэтую гісторыю. Але мінула 20 гадоў, і памятаю толькі фрагменты. Разгром рок-клуба па часе быў звязаны з прыходам да ўлады ў СССР Андропава і агульным узмацненнем жорсткасці рэжыму. Граміць іх прыязджаў "цэлы" палкоўнік з Менска. Казаў: "Вакол "крывавы імперыялізм", а вы тут - яго агенты". Валянцінy распа-

вядаў, што дасье на яго маецца велізарнай таўшчыні, і там матэрыялу дастаткова, каб яго пяць разоў пасадзіць. І, здаецца, нават нешта з дасье зачытваў. Валянцін са здзіўленнем даведаўся, што валодае васьмю мовамі і страляе з двух пісталетаў, як Джэймс Бонд. Неяк так. Са слоў Валянціна, калі не памыляюся, некалькі чалавек засталіся без працы і з'ехалі з горада. Аднаго з іх, лекара[10], я памятаю, даводзілася разам сядзець у Валянціна, гутарыць. Але ў дэталях, з падрабязнасцямі размовы Валянціна я, вядома, ужо не памятаю. Да 1984 года іх задушылі.

***Л.І.*** Вось яны пачалі хавацца, і ўсё скончылася. Ад Валіка адваліліся некалькі чалавек, якія пастаянна былі каля яго. Яго вельмі лёгка ад усяго было адсекчы. Не прыехалі па яго своечасова, яго не ўзялі, яго не павезлі - і ўсё. Без яго тыя, хто застаўся, спачатку проста на танцулькі перайшлі, а потым усё скончылася.

***Л.Л.*** Недзе ў гэты час у Валянціна з'явіўся Валера Тузін. У гэты час у Геліёсе ўжо з'явіўся маладзёжны тэатр, і Тузін там быў "зорка".

***Л.І.*** Тузін з'явіўся такім "ферцікам" услед за Людай Ч. Люда Ч. была Валікава аднакласніца. [...]

***Л.Л.*** Як гэта, "Тузін - ферцікам"?

***Л.І.*** Ён за Людай Ч. прыскакаў сюды.

***Л.Л.*** Паміж імі нешта было?

***Л.І.*** Ён сябе адчуваў у гэты час ... быў на такім "узлёце". І чамусьці, я вельмі дзівілася, у яго пачалося нейкае зусім дзіўнае, але вельмі стымулюючае для абодвух, суперніцтва з Валянцінам з-за паненак. Гэта было настолькі цікава. Валік сядзеў, усміхаўся, а суперніцтва было з-за Люды Ч., потым тут яшчэ адна дзяўчынка з'явілася, мастачка, тут у цэнтры жыла. Дык увогуле скандал быў. Усё ніяк не маглі яны вырашыць, чыя ж яна ўсё-такі.

***Л.Л.*** Мастачка ... Лена Ю. Так, так, ведаў.

***Л.І.*** Ну так. Потым Света Л. з'явілася. І кожны раз Валерка станавіўся ў нейкую дзіўную позу. Яму чамусьці было трэба абавязкова зрабіць так, каб гэтая дзяўчына была яго. Ну падумаў бы сваёй галавой, ну Божа мой! Чаму ён так?

Але я ўсё гэта краем вуха чула. Краем вока бачыла. Часу асабліва не было. Усё гэта настолькі дзіўна і незразумела, але я асабліва і не лезла.

***Л.Л***. У Валеры гэта было "слабым месцам".

***Л.І.*** Стараўся ён, вядома, стаць лідарам ва ўсёй гэтай кампаніі. Усяляк стараўся неяк вылучыць сваю "кіруючую і накіроўваючую" ролю *(смяецца)*. Я ў гэты час ужо заняла нейтральную пазіцыю. У мяне заўсёды быў "аншлаг" таму, што ў партэры было толькі адно крэсла, і яно заўсёды была занятае. Перада мной заўсёды стаяў кубак кавы і ляжаў пачак цыгарэт. І я ў куце сядзела і за ўсім гэтым вось так вось назірала *(смяецца)*.

***Л.Л.*** Я пакуль быў студэнтам, бываў тут рэдка. Валерка мяне сюды ў годзе 1983-м прывёў. У 1985 г. я скончыў інстытут і ў 1986 г. ажаніўся. Таму гэтыя гульні ішлі міма мяне. Я быў ужо чалавекам жанатым і сур'ёзным *(усміхаюся)*.

З Валянцінам мы размаўлялі пра ўсё. Мала такіх людзей мне сустракалася. Гэта было месца, куды можна было прыйсці і ...

***Л.І.*** ... І казаць хоць да раніцы, і піва пацягваць, або каву.

***Л.Л.*** Я каньячку грузінскаму ў той час аддаваў перавагу. Прыносіў. А калі Валянцін памёр - горад апусцеў.

***Л.І.*** Тут ніколі ні ў кога не было, як гаворыцца, самамэтай, напіцца. А як бы паміж справай.

[...]

***Люда Ч.*** прывяла сюды гэтую Ірыну - вельмі дзіўную дзяўчыну. [...]

Валік яе хутка зачараваў, яна ў яго закахалася, і яны вырашылі ажаніцца. Мама глядзела на гэта адмоўна, а я сказала: "Мама, тыдзень Валік пражыве з ёй - добра, месяц - яшчэ лепш, паўгода - выдатна. Для яго гэта будзе вопыт сямейнага жыцця". І я паразмаўляла з Ірынай, сказала ёй тое самае.

Яна пераехала сюды. Я для таго, каб зладзіць ім сумеснае жыццё, забрала яе дачку, у мяне стала трое дзяцей, я даглядала іх, абмывала ...

***Л.Л.*** Гэта 1984 г.?

***Л.І.*** Так. Яна чамусьці вырашыла, што тут вельмі багатая сям'я *(смяецца)*, але глыбока памылілася. Прывезла сюды шафу са сваім адзеннем, паставіла яе ў пакоі, і яны пачалі жыць. Выглядала гэта так: яна прыходзіла з працы, ела, яны садзіліся з Валікам, ён займаўся сваёй справай, яна таксама - ну там пазногці фарбавала ... Праз некалькі месяцаў я ёй сказала: "Іра, ты прыйшла ў дом, і ў цябе ёсць рукі. Я працую па 12 гадзін у суткі. Я прыношу ў дом грошы. У той час я атрымлівала 320 рублёў. Гэта былі добрыя грошы.

***Л.Л.*** І нават вельмі добрыя.

***Л.І.*** Я ж атрымлівала стаўку завуча і яшчэ вяла ўрокі. Гэта былі добрыя грошы, і таму маці мяне адпускала на гэтую працу, таму бацька мне нічога не казаў, і таму Валік маўчаў, таму што я забяспечвала ўсю сям'ю. За мае грошы куплена ўсё, што стаіць у гэтай кватэры. Таму я і казала ёй, што я вельмі занятая - я зарабляю грошы. Таму трэба маці дапамагчы - зварыць што-небудзь, пыл выцерці, схадзіць у краму, ужо ж другі месяц пайшоў... Яна пасядзела тут яшчэ некалькі месяцаў. І раптам рэзка сабралася і сышла дадому. ... Валік пасядзеў, пасядзеў, сабраўся і паехаў да яе. Пабыў у яе, напэўна, дні два. Яна на яго там увагі ніякай не звяртала, і ён вярнуўся. ... Потым бацька пастараўся, каб іх хутка развялі. Працягвалася гэта месяцы тры ці, можа быць, паўгода. Але я рада, што ў брата быў вопыт сямейнага жыцця. І вяселле было. І жонка маладая была. Як ва ўсіх.

Я разумела, што гэта не надоўга, ведала - як гэта цяжка з інвалідам.

[...]

***Л.Л.*** Я заўважаў нейкія моманты. Але Валянцін для мяне быў сябар, і ў цэлым, я не рэагаваў на тое, што мяне не тычыцца.

Давайце пагаворым пра часы з 1985 г. Пачына-

[10] Уладзімір Крушэўскі

ліся страшна цікавыя часы. Так, дарэчы, а ў сям'і слухалі заходняе радыё?

***Л.І.*** Не. Але Валянцін быў інфармаваны. Не ведаю, як да яго прыходзіла інфармацыя, не магу сказаць.

***Л.Л.*** Тады радыёпрымач быў, як зараз інтэрнэт - адзінай магчымасцю атрымаць альтэрнатыўную інфармацыю, альбо проста хоць нейкую інфармацыю.

***Л.І.*** Ён заўсёды быў у курсе. Мы з ім часта абмяркоўвалі палітычныя навіны.

***Л.Л.*** Вось не памятаю, а быў у яго добры радыёпрымач? Магнітафонаў усялякіх было шмат.

***Л.І.*** Так, былі ў яго прымачы ўсякія.

***Л.Л.*** Ну, мабыць, усё ж такі слухаў.

Пачалася перабудова. Жыць стала цікавей, а чытаць - цікавей, чым жыць *(смяецца)*.

***Л.І.*** Збіраліся сябры. Бясконца ўсё абмяркоўвалася.

***Л.Л.*** Гэта я памятаю, гэтыя абмеркаванні.

***Л.І.*** Ну, вось мы газеты толькі што бачылі, кніжкі ўсякія *(да пачатку размовы ў дакументах Валянціна мы знайшлі першыя нумары газеты "Свабода", "Грунвальд", праграму БНФ, брашуру "Трэці з'езд БНФ" і г.д., цэлы пакунак маскоўскага і кіеўскага перабудовачнага "самвыдату")*. ... Што толькі маглі, цягнулі сюды. У мяне такая скрынка была, цалкам набітая толькі выразкамі. І яшчэ часопісы ўсе, кнігі, што толькі тады не выдавалася. Усё гэта ён чытаў, збіраў. ... Чамусьці ў той час ён вельмі зацікавіўся афрыканскімі маскамі. Вось альбом з малюнкамі масак ляжыць. Выразаў, збіраў.

Потым пачалася ў нас эпоха кааператыва.

***Л.Л.*** Ну, так, гэта я памятаю - дэкаратыўныя пліты. У якой меры ён удзельнічаў?

***Л.І.*** Ён быў старшынём кааператыва. Спрабавалі і мэблю рабіць. Ён каталог падрыхтаваў такі вельмі цікавы *(працягвае альбом з малюнкамі рознай мэблі, той, якую планавалі выпускаць)*. Справа была нядрэнная, але не было каму гэтым займацца. Валік не мог. А на мяне павесілі бухгалтэрыю, у якой я зусім нічога не разумела. Я тады працу кінула ў школе.

[...]

Мы ўсё глыбей і глыбей апускаліся ў даўгі.

***Л.Л.*** А як выплылі?

***Л.І.*** Выплылі, таму што дапамаглі сябры.

[...]

І Валіку гэта далося. Гэта забрала ў яго рэшткі здароўя. Гэта ўсё трэба было арганізоўваць і заказы шукаць.

***Л.Л.*** Я памятаю ваш кааператыў, але ён нічога не расказваў.

***Л.І.*** У 1994 г. я вярнулася ў школу. Тры гады праседзела без працы. А кааператыва ўжо не было.

***Л.Л.*** Аб удзеле Валянціна ў Фронце што-небудзь памятаеце? Ён расказваў. І пра першы сход у Лідзе, у якім ён удзельнічаў.

***Л.І.*** Ён удзельнічаў у першых кроках Фронту. І недзе дакументы яшчэ былі, нейкія яго мандаты са з'ездаў, імянныя. І нешта ён маляваў для гэтага.

***Л.Л.*** Калі ў 1994 г. мы арганізавалі святкаванне юбілею 200-годдзя паўстання Касцюшкі, ён тады вялікі партрэт Касцюшкі намаляваў, які на сцэне вісеў ...

Раскажыце пра апошнія гады жыцця Валянціна.

***Л.І.*** Па-ранейшаму прыходзілі, збіраліся тут. Выязджалі, шпацыравалі па горадзе ... У 1996 г., апошнім, яго 44 гады святкавалі. Я пасля перапынку першы год працавала. Зарабляла, наогул, глупства. А ў мяне ў гэты год быў 50-ці гадовы юбілей. У школе ў мяне спыталі, які мне купіць падарунак? Адказала, што ўжо адну рэч прыглядзела, і сама куплю. Ну, мне і ўручылі сабраныя грошы. Прыходжу дадому і кажу: “Валік, ёсць у нас сума грошай, я зраблю табе дзень нараджэння”. Як ведала. Усе грошы, да капеечкі выдаткавала, і адсвяткавалі мы яго апошні дзень нараджэння. Гэта быў чэрвень. Ён сабраў сяброў, апошні раз сабраліся. Добрае атрымалася свята, вясёлае такое. Выдатнае проста свята. Хлопцы апошні раз сабраліся.

У верасні адчуў сябе дрэнна ...

***Л.Л.*** Таблеткі ён тады, такія чырвоныя, піў.

***Л.І.*** І забралі яго ў бальніцу. Я прыйшла раз, прыйшла да яго другі раз, а ён кажа: "Мне гэтай ноччу было дрэнна". А я яму: "Калі б ты толькі ведаў, прыходзілі сябры, пыталіся пра цябе, мы пасядзелі трохі ... нехта распавядаў такое смешнае. І мы так смяяліся". Я кажу: "Мы так смяяліся, усю ноч. Нават і не ўспомню. Нейкія анекдоты травілі, нешта ўспаміналі, нешта вытваралі". А ён кажа: "А мне так было дрэнна, мяне ледзь адчомхалі".

Я на наступны дзень прыйшла, яму як раз УЗІ рабілі. Пасля гэтага вывезла яго на калясцы, пад'ехалі мы да акна, ён глядзіць, а за акном восень, ужо такая залатая, ранняя ў тым годзе была восень, ужо шмат залатога лісця. [...] Ну і я пабегла, нават не зайшла да лекара распытаць пра яго. Назаўтра тэлефануе загадчыца аддзялення і кажа, што ў 7 раніцы памёр Валянцін. І потым дадае: "Вось, вы ўцяклі, а я хацела сказаць: ён ужо памірае".

***Л.Л.*** У мяне ў тым жа 1996 г. загінуў брат. За некалькі месяцаў да гібелі ён ляжаў пасля аперацыі апендыцыту ў той жа палаце і на тым жа ложку, на якім, месяцаў праз 10, ляжаў Валянцін. Тады з-за нейкага рамонту, альбо кардыялогія ўсялілася ў хірургію, альбо наадварот. І за некалькі дзён да смерці Валіка мы з Тузіным былі ў яго ў шпіталі - той жа паверх, тая ж палата, тыя ж сцены, аліўкавыя, здаецца ...

***Л.І.*** Жоўтыя.

***Л.Л.*** Панэлі, алейнай фарбай пафарбаваныя. Увогуле, мяне як токам ударыла. А дзён праз 5 ён памёр.

***Л.І.*** Ну і апошняе, што называецца, "па мазгах". Прыйшлося прасіць лекара паламаць яму нагу, таму, што вечка труны не зачынялася.

***Л.Л.*** Калі ён у труне ляжаў, было вельмі выразнае адчуванне, што ... вось сышоў і вызваліўся. Лягчэй яму стала, ці што. Адмучыўся.

***Л.І.*** Усе так казалі тады. Тут яшчэ была такая дзіўная дзяўчына, яна ўвесь час прыходзіла. Яна вершы пісала, працавала ў бібліятэцы, не памятаю, як яе звалі. Яна праз некалькі тыдняў распавядала, што Валянцін да яе прыходзіў і казаў, што ў яго ўсё ў



МІНСКІ ІНСТЫТУТ

СТУДЕНЧЕСКИЙ БИЛЕТ № 38/84

Фамилия Лефедкий

Имя Валентин

Отчество Иванович

Время поступления 1984

Факультет заочный

Дата выдачи билета 1/XI 84

Ректор

В 1984/85 уч. г. является студентом 1 курса

Декан факультета

В 19__/__ уч. г. является студентом ____ курса

Декан факультета

В 19__/__ уч. г. является студентом ____ курса

Декан факультета

В 19__/__ уч. г. является студентом ____ курса

Декан факультета

В 19__/__ уч. г. является студентом ____ курса

Декан факультета

В 19__/__ уч. г. является студентом ____ курса

Декан факультета

З. 823.

***Студэнцкі білет***

парадку. Перадаваў усім, каб не плакалі, што ўсё нармальна ...

Ён шмат зрабіў для маіх дзяцей. І з Вікай пастаянна займаўся і з Ванем ...

***Л.Л.*** Вось гэта я памятаю. Што-небудзь яшчэ спрабую ўспомніць. Але прайшло амаль 20 гадоў, забываецца ўсё. Памятаю, толькі яго пакой - бакавое асвятленне і бясконцыя размовы. Часам выпівалі трошкі, але рэдка і мала. Па горадзе гулялі, на пікнічкі ў лес выязджалі.

***Л.І.*** Людзей прайшло праз гэты пакой вельмі шмат, і той, хто вярнуўся, прыйшоў яшчэ раз - той ужо не знікаў.

Вось памятаю я ніяк не магла вырвацца - працавала. А Валянцін з'ехаў на сесію. Яго ж трэба было кожны дзень вазіць. Падняць па лесвіцы або спусціць. Пасялілі яго на другі паверх інтэрната.

***Л.Л.*** Памятаю яго аповяды пра вучобу ў Інстытуце культуры. Нейкія хлопцы яму дапамагалі, але потым стаміліся і зніклі.

***Л.І.*** Ну, вядома, каму гэта трэба? Ён паехаў на сесію, і праз нейкі час я прыехала яго адведаць. Памятаю - ён сядзіць на ложку ў інтэрнаце такі самотны і такі закінуты. Я яго пакарміла, паслала, галаву памыла, прыгатавала паесці на заўтра, пакінула тое, што прывезла - ну і што, мне з'язджаць трэба. Заўтра на працу. Таму, вучыцца ў інстытуце было нерэальна.

***Л.Л.*** Ён распавядаў, што і не надта гэта было сур'ёзна. Крупскую вывучалі і канспектавалі. Крупская як аўтарытэт у галіне культуры - анекдот. Для разумнага чалавека гэта адукацыяй не з'яўлялася.

***Л.І.*** Успомнілася. Ён выдатна гуляў у карты, у прэферанс. Ніколі не забуду яго іранічную ўсмешку. Селі гуляць утрох - я, ён і Віка. А я ў гэтай справе была і застаюся абсалютным шчанюком. Я бяру карты - у мяне такі расклад! Але я не цямлю, што не мой ход. А ён маўчыць, усміхаецца. А я: "Шэсць, не сем, не восем!". Ён: "Падумай ...". А я: "Усё, наперад!".

***Л.Л.*** Я нічога ў гэтым не разумею.

***Л.І.*** Ну, дык вось. І пачаў ён мяне "распранаць". Кашмар. Залезла я на такую "гару"! І такая пакрыўджаная! Сэрца булькоча ад крыўды. А яны з Вікай хмыляцца. Я кідаю карты, ўстаю і сыходжу. Ён: "Ну што ты, Лора, ну навошта ты?"

Ён вельмі любіў, калі прыязджаў старэйшы брат Іван. Такія ганарлівыя яны былі ўдваіх. Тады ўжо ў іх размовы пра ўсё на свеце і дапазна. І такія тэмы, якія і мне цікавыя, але адчуваю, сцяна: "Не лезь, не лезь". Гэта яшчэ з дзяцінства, былі такія ўспышкі рэўнасці ... Але я і адчувала, што ім неабходны зносіны.

Што я вынесла з зносін з ім - гэта ўменне паводле слова, па жэсту, па погляду і нават проста па маўчанні разумець людзей. Гэта мне ў школе вельмі спатрэбілася. Я ўваходзіла ў клас і адчувала, як у мяне ўсё пойдзе на ўроку сёння. Гэта так лёгка потым чыталася. Менавіта з ім я гэтаму навучылася. Але ў нас ніколі з ім размоваў на гэтую тэму не было.

***Л.Л.*** Ён чалавекам быў вельмі тонкім.

***Л.І.*** Доўгі час у нас было так, што калі да мяне ў школу прыязджаў нехта цікавы, дык я абавязкова прыводзіла яго сюды, да Валіка. Гэта было традыцыяй.

Быў тут адзін пісьменнік, ён тады выпусціў невялікую кніжку, яна тут недзе ляжыць *(аглядае пакой)*. Кніжка была вельмі цікава напісана. Мы яго прымалі ў 8-й школе.

***Л.Л.*** Як яго прозвішча?

***Л.І.*** Я ўсё знайду, артыкулы знайду пра Валянціна, кнігу гэтую знайду. Мы ж не апошні раз сустракаемся ... Я ведала, што калі я сёння адмоўлюся, то размовы ўжо не будзе ніколі.

***Л.Л.*** Так, усё роўна, усё роўна я прозвішча пісьменніка гэтага пазначыў бы ініцыяламі.

***Л.І.*** Назва кнігі "Да ...", такая невялікая. Дзесьці тут яна павінна ляжаць *(некалькі хвілін шукае на паліцах, не знаходзіць)*.

А я ж такая была - дама нават вельмі нічога!

***Л.Л.*** Я памятаю.

***Л.І.*** І ён вакол мяне захадзіў коламі. Але з іншага боку ён жа адчуваў сябе сталічным госцем - кніжку напісаў. І кажу брату: "Хочаш павесяліцца сёння? У нас сёння будзе літаратурны "мэтр", выступаў у нас у школе. Можа быць мы зладзім вечарок?". Ён кажа: "Давай, прыводзь". Ну, і прыводжу.

Ён прыходзіць ўвечары, адразу такі паблажлівы тон - трапіў жа на перыферыю. Ну, а далей, словы за слова, Валік тут са сваімі прамовамі. Як паветраны

пухір здзімаецца гэты чалавек *(смяецца)*. Ой, ды як тут у вас цікава! Карацей, далі мужыку па мазгах! *(Смяецца)*. Сышоў ён цалкам у іншым настроі. У цэлым, гэта было смешна.

Ну і памятаю, быў яшчэ адзін чалавек. Вельмі цікавы, паэт. Прыехаў у горад чытаць лекцыі пра музыку, у філармоніі працаваў. З мяне ўзяў ён нядрэнна - двухтомнік вершаў, яшчэ горкаўскага выдання. Ён гэтыя выданні збіраў. Ён убачыў, загарэўся, і я яму падарыла. Прыязджаў некалькі разоў. Вельмі цікавы быў чалавек. Ён распавядаў (не ведаю ці праўда гэта), што яго ў свой час, вадзілі да Ахматавай, і яна сказала: "Малады чалавек - вы паэт". Ён гэтым вельмі ганарыўся.

*Знаходзіць двайны ліст нотнай паперы з вершамі, запісанымі ад рукі і чытае верш гэтага чалавека па матывах "Фаўста" Гётэ.*

*Потым, разам разглядаем фатаграфіі.*

***Л.І.*** Вось гэтага "лектара" я таксама прыводзіла сюды. Яны вельмі доўга размаўлялі. Ён распавядаў пра тое, што свет на зямлі пабудавалі іншапланецяне ...

***Л.Л.*** "Арыгінальная ідэя" *(усміхаюся)*. Але тады ўсе быццам звар'яцелі з гэтымі іншапланецянамі.

***Л.І.*** Так. Але вось карэспандэнт нашай газеты "Уперад" пра сустрэчу з гэтым чалавекам у нас у школе напісаў артыкул "У кадцы мёду - лыжка дзёгцю". Як раз гэтай лыжкай быў аповед пра іншапланецян.

Партыйная газета напісала! Лектар спалохаўся і перахваляваўся, думаў - яму наогул прыкрыюць выступ. Мы з Валікам вырашалі, як гэтага чалавека адстаяць.

Дарэчы, ён таксама ў першы раз, калі прыйшоў, быў такі горды. Потым пагаварыў і сказаў, што мне вельмі ў вас спадабалася. Калі прыехаў у другі раз, адчыніў дзверы і кажа: "Лорачка, добры дзень! Ну, я пайшоў да Валіка" *(смяецца)*. Я потым Валянціну кажу: "Навошта ты ў мяне мужыка адбіваеш?" *(смяецца)*.

Але мне было вельмі прыемна, калі вось такія адносіны ў брата завязваліся, было вельмі прыемна.

***Л.Л.*** ... Ужо бліжэй да сярэдзіны 90-х гадоў, была такая размова ў мяне з ім. Здаецца, выпілі мы тады з ім па 100 грам каньяку. Ён сказаў, што вельмі стаміўся быць "зліўным бачком" для ўсіх. Людзі пастаянна неслі яму свае праблемы і чакалі разумнай парады. Яму, чалавеку, у якога ўсё жыццё - праблема! Навакольныя так прывыклі да таго, што ён заўсёды выслухае, раскладзе ўсе праблемы па паліцах і падкажа, што рабіць.

***Л.І.*** Так, гэта было. І ён умеў свае праблемы не дэманстраваць.

***Л.Л.*** У вас была і, як я бачу, засталася, добрая бібліятэка. Вось гэтая серыя - "Сусветная літаратура" гэта поўны збор? Нешта, больш за 200 тамоў?

***Л.І.*** Некалькі тамоў не хапае, разышліся па руках. Мы з ім разам збіралі бібліятэку. Кнігі я пачала збіраць з 1963 г.

***Л.Л.*** Мы тады любілі кнігі. Шанавалі, разумелі, збіралі. Давалі сябрам чытаць.

***Л.І.*** Я і зараз купляю кнігі. Вось, напрыклад, гэтыя два тамы па гісторыі - "Грэцыя" і "Егіпет", зусім нядаўна набыла. Валік вельмі засмучаўся, калі кнігі губляліся. І я зусім нядаўна зноў дакупіла том да збору твораў Стругацкіх - "Панядзелак пачынаецца ў суботу".

***Л.Л.*** Я памятаю, у вас быў двухтомнік Стругацкіх, чорныя такія тамы вялікага фармату. Хто зараз ведае, якая гэта была каштоўнасць і радасць - кнігі Стругацкіх. А вось, гэты двухтомнік стаіць *(паказваю на паліцу)*, захаваўся!

***Л.І.*** Так. Вось "Бібліятэка фантастыкі", вось "Літаратурныя помнікі" - пачынала збіраць з тома Светонія "Жыццё дванаццаці цэзараў", наступнымі тамамі быў Апулей, "Метамарфозы і Залаты асёл" і "Апалогія" яго ... назва выдатная "Апалогія ці гаворка ў абарону самога сябе супраць абвінавачванняў у чорнай магіі". Я зараз унука чытаць кнігі прывучаю.

*13-05, 16.11.2014. Праспект Перамогі.*

**Успаміны Наталлі Гвардзейцавай**[11]

Што я магу сказаць пра Валіка Ляцецкага? Адносна блізка я з ім пачала падтрымліваць зносіны ўжо ў сталым узросце (пасля заканчэння інстытута, адпрацаваўшы тры гады ў Салігорску). Але ведала яго даўно. Гэта быў сябар (з дзяцінства, калі Валік яшчэ меў магчымасць наведваць школу) майго брата. Гэта было досыць вузкае кола хлопцаў (тры-чатыры чалавекі), якія захавалі гэтую дружбу да апошняга дня (сыходу Валіка), і гэта было сваё асаблівае кола зносін, асноўная кропка ў Лідзе, куды яны імкнуліся ўжо будучы дарослымі і жывучы за яе межамі. Я думаю, што гэта таксама пра нешта кажа.

Улічваючы праблемы, з якімі Валіку даводзілася жыць і змагацца, гэта была моцная асоба. І трэба падкрэсліць, што ён ніколі не дэманстраваў гэтыя праблемы, не спрабаваў выклікаць да сябе нейкія адмысловая адносіны, і, думаю, тыя, каму даводзілася сустракацца з ім неаднаразова, самі іх пераставалі заўважаць. І гэта яго заслуга.

Яго зацікаўленні, кропкі, куды ён прыкладаў свае здольнасці, былі самыя разнастайныя - тэхнічныя, музычныя, мастацкія, літаратурныя, аналітычныя, кулінарныя і г.д. і іншыя бытавыя. А таму і кола яго зносін было самым разнастайным. Да яго цягнуліся людзі. Ён быў абмежаваным, але не ізаляваным (і не толькі ў літаральным сэнсе гэтага слова). "Я хадзіў", - гэта яго выраз. Ён удзельнічаў у жыцці. Ён быў не сумны. Ён мог весяліцца з усімі. Ён мог суперажываць. Я думаю, наўрад ці хто-небудзь, хто ведаў Валіка, мог сказаць яму: "Ну, што ты разумееш?!".

Абавязкова трэба адзначыць велічэзную заслугу яго сям'і, яго бацькоў, асабліва мамы - Веры Рыгораўны, іх вялікае цярпенне і памяркоўнасць, тое, што ён змог адбыцца як асоба і пры гэтым не страціць сябе.

[11] Гвардзейцава Наталля Мікалаеўна.

Можна сказаць, што да іх можна было прыйсці ў любы час сутак. У цяперашні час інтэрнэту яму было б у нечым лягчэй. Але зараз якасць чалавечых зносін (калі глядзіш ў адну кропку, будучы "прывязаным" да аднаго месца, і маеш перад сабой толькі аднаго суразмоўцу) значна ўпала.

*"Если друг оказался вдруг...*

*Парня в горы тяни - рискни..."*

Высоцкі спяваў гэта не пра наш цяперашні час і не таму, што ён жыў у іншы.

Каб зразумець чалавека, трэба яго адчуць скурай. Інакш гэта проста "кантакт".

### Успаміны Ларысы Канчэўскай

Гэтыя цудоўныя ўспаміны пачаліся з размовы пад дыктафон у лістападзе 2014 г., потым Ларыса Канчэўская перапісала тэкст, але пакінула пачатак у форме размовы - *Леанід Лаўрэш*.

***Леанід Лаўрэш .*** Мы з вамі ў яго (Валянціна - *Л.Л.*) амаль не перасякаліся. Затое мой сябар, Валера Тузін, у пэўныя перыяды свайго жыцця бясконца паўтараў: "Ларыса Канчэўская ды Ларыса Канчэўская".

***Ларыса Рыгораўна Канчэўская*** (далей - ***Л.Р.***). А ён мне прагудзеў вушы "Лёнем Лаўрэшам". Так.

***Л.Л.*** Мне вось ужо 20 гадоў не дае спакою жаданне напісаць пра Валянціна Ляцецкага, справа пачала рухацца, прычым усё значна лепей, чым я планаваў - да справы падключылі іншыя людзі. А гэта значыць што будзе тэкст пра яго, і гэты вельмі важны для нас і нашага горада чалавек застанецца ў памяці.

***Л.Р.*** У Валянціна быў дар педагога, выхаваўцеля. Ён не быў ментарскім, прыставучым маралістам. Атрымлівалася гэта неяк незаўважна, паміж справай. У іх сям'і дзеці, яго пляменнікі Віка і Ваня, былі з маленства самастойныя і шмат што ўмелі. Вядома, тон жыцця быў зададзены бабуляй Верай Рыгораўнай і іх мамай Ларысай Іванаўнай. Я часта бачыла іх, бываючы ў Валянціна (іх кватэры знаходзіліся на адной пляцоўцы). Я заставала дзяцей за справай, Віка пыласосіла, працірала падлогу, і Валянцін дапамагаў ёй разабрацца з пыласосам, тлумачыў, што - дзе. Ваня з дзядзькавай дапамогай нядрэнна спраўляўся з малатком, цвікамі і іншымі інструментамі. Неяк яны змайстравалі паветранага змея, сапраўднага, на драўляных планках, з хвастом, і запрасілі нас паглядзець на запуск. Натоўпам накіраваліся на луг перад верхнім возерам па вуліцы Свярдлова. (Цяпер, напэўна, усё забудавалі.) Ваня запускаў, яму дапамагалі Валянцін і яшчэ пару чалавек. Усе акунуліся ў дзяцінства з галавой.

Прыходзячы да Ляцецкіх, я заставала хлапчукоў гадоў 12-13-ці. Іх быў чалавек 5-6. Валя займаўся з імі радыётэхнікай - вёў гурток пры ЖЭСе.

***Л.Л.*** -?

***Л.Р***. Мне здаецца, гэта быў год 85-86-ты. Хлопцы збіралі транзістарныя прымачы. Валянцін ім дапамагаў. А потым яны па сваім гусце праектавалі корпус для іх - майстравалі драўляную або пластмасавую скрынку для прымача - ляпілі, паялі, пілавалі. Аднойчы я напрасілася паназіраць. Ён быў цярплівы, спакойны і лагодны. Жартаваў, калі ў некага не хапала ўмення, падказваў, як зручней карыстацца інструментамі. Ён быў падобны на бацьку ў атачэнні сыноў. Абстаноўка дзелавая, мірная. Хлапчукам, відаць, падабалася ў яго, і па заканчэнні заняткаў яны не вельмі ахвотна разыходзіліся, заводзячы размовы то пра футбол, то пра наступную сустрэчу.

Я заўсёды думала: як ён шмат умеў! Як і калі паспеў усяму гэтаму навучыцца? У іх, наогул, вельмі таленавітая сям'я. Бацьку я не заспела ў жывых. А з іх мамай Верай Рыгораўнай мы, здаецца, былі дружныя (я так думаю). Яна выкладала ў школе беларускую мову і пісала вельмі прыстойныя гумарыстычныя і лірыка-іранічныя вершы. Яны былі такія добрыя, што я прасіла перапісаць мне некалькі рэчаў, што яна з задавальненнем рабіла. Гумарэскі яна пісала ў стылі беларускага фальклору. Цудоўна выконвала іх на сцэне.

А яго сястра Ларыса Іванаўна, акрамя таго, што была вельмі выдатным педагогам і арганізатарам, адорана моцным альтам з багатымі абертонамі. З яе магла атрымацца вялікая спявачка. Спяваць з ёй было асалодай. Яны ўвогуле былі музычнымі. Брат Валі Іван Іванавіч, самы старэйшы з іх, быў ужо афіцэрам запасу, жыў у Менску (і цяпер жывы, спадзяюся, дай Бог яму здароўя) і пісаў карціны, публіка іх купляла з задавальненнем. Я мела магчымасць чуць, як ён прыгожым барытонам спяваў арыі з аперэт Кальмана.

У адну з нячастых нашых сустрэч мы пасля прагулкі ў звычайнай нашай кампаніі (Юра і Тамара Новакшчонавы, Наташа Гвардзейцава, Валера Тузін і Валянцін) зайшлі да мяне, каб Валя адпачыў ад каляскі і паляжаў. Расселіся ў пакоі, хто на падлозе, хто на канапе і дамовіліся спяваць народныя песні, па магчымасці імправізуючы на 2-гі і 3-ці галасы. Дамінантнай песняй была, вядома, "Купалінка". Ляцецкі, здавалася, задрамаў. Але калі мы, параспяваўшы яшчэ кучу рускіх і ўкраінскіх песень, спрабавалі пад тузінскае гітарнае суправаджэнне спяваць "Враги сожгли родную хату", ён, не расплюшчваючы вачэй, сказаў: "Дай-ка гітару". І гэтак жа, лежачы з заплюшчанымі вачыма, дастаў гук як бы абарванай струной, за якой раптам ўстаў зламаны лёс і страшная пустата. Потым ён заспяваў ціха, хрыплавата (хаця голас у яго быў звонкі і чысты пасля таго, як ён кінуў курыць). Акампанемент быў цяжкі, павольны, як крок стомленага салдата. Каментары, як гаворыцца, залішнія ...

Хачу сказаць яшчэ пра аўтарытэт Валянціна ў розных сацыяльных групах. У яго быў рэальна прызнаны аўтарытэт у вельмі розных людзей, якія і не ведалі адзін аднаго, і не сустракаліся ў яго нават выпадкова.

Я неяк нарвалася. Напякла шмат печыва па новым рэцэпце і вырашыла аднесці Ляцецкім для дзяцей і візіцёраў (у іх і гарбатай паілі, і частавалі, а мы ў такі цяжкі перабудовачны час не здагадваліся купіць хоць бы цукру і гарбату). Прыйшла па-гаспадарску, стукнула ў зачыненыя дзверы пакоя Валянціна. Вера Рыгораўна, высунуўшы галаву з кухонных дзвярэй,

сказала: "Хлопцы ў яго ... Распранайся, заходзь у гасцёўню. У мяне ёсць новыя вершы ... Я зараз". За дзвярыма стаяў стрыманы гул мужчынскіх галасоў, нейкі напружаны. Паколькі ў мяне былі ненадакучлівыя добрыя намеры толькі паднесці Валю і яго суразмоўцам пачастунак, я зноў штурханула дзверы і ўвайшла. У пакоі было чалавек восем мужчын, усе нейкія аднаго чорнага колеру. Адразу ж павісла напружаная цішыня. Павіталася і, не падымаючы вачэй, падышла да століка і высыпала з мяшка печыва ў пасудзіну - таксама не падымаючы вачэй. Атмасфера відавочна была гарачая. Нехта ўхвальна хмыкнуў у мой бок. Я выйшла. Паразмаўляла з Верай Рыгораўнай і сабралася сыходзіць. Характар гулу ў пакоі змяніўся, стаў нейкім міралюбным. Расчыніліся дзверы пакоя, і выйшлі людзі, апранутыя пераважна ў чорнае. Адзін павярнуўся і, усміхаючыся чыфірнай усмешкай, сказаў мне: "Дзякуй". Зазірнула да Валянціна. У яго акуляры на носе трэсліся ад смеху. Папраўшы іх вялікім пальцам левай рукі, ён паказаў на пустую пасудзіну з-пад печыва: "Браткі табе вельмі ўдзячныя!" На канапе ляжаў тоўсты Крымінальны кодэкс. Мяркуючы па колькасці людзей, была нейкая вусная "разборка", да "Валянціна прыйшлі, як да справядлівага, дасведчанага чалавека" (гэта я так выказала здагадку). А дзеці печыва не паспрабавалі!

***Л.Л.*** А як вы пазнаёміліся?

***Л.Р.*** Нас з Валянцінам пазнаёміў Тузін. Мы - гэта муж і жонка Новакшчонавы і я. Наталля Гвардзейцава ведала яго з дзяцінства. Яе брат Валерый вучыўся з Ляцецкім ў адным класе і сябраваў. А яна потым была іх "сямейным лекарам".

Тузін казаў: "Лора, ты павінна пазнаёміцца з Валянцінам". Я вельмі баялася гэтага. Яго ведала візуальна па двух-трох агульных зборах падчас арганізацыі моладзевага кафэ, бачыла ў групе гукааператараў на "Рок-кірмашы" і проста сустракала яго каляску ў суправаджэнні хлопчыкаў і дзяўчынак на вуліцах. Сэрца разрывалася ад жалю і спагады да хлопца, аб-дзеленага простымі чалавечымі магчымасцямі хадзіць, бегаць, самастойна абслугоўваць сябе. Бо нельга мець зносіны і аплакваць чалавека. Неяк атрымлівалася, што ў маім атачэнні заўсёды знаходзілася некалькі нэндзаў, скаржнікаў, якія патрабавалі ўвагі да сваіх праблем. Яны былі маімі сябрамі, мой абавязак быў несці іх нягоды разам з імі. На іх сыходзіла часу і сіл больш, чым на сябе і сваіх блізкіх. Па канчатковым рахунку, гэта ўсё таміла і плюндравала. Я пачала абмяжоўваць новыя знаёмствы.

Адказала цвёрда: "Не!". "Не бойся! Гэта не той выпадак", - засмяяўся Тузін. Ён усё разумеў. "Не", - паўтарыла я.

Але нас такі пазнаёмілі. Паставілі перад фактам, прадставілі "па-ангельску" ў асяроддзі людзей. Уцякаць не было куды. Імкнучыся ўсімі сіламі здушыць спачуванне, каб яго не выдаць, я нерашуча паглядзела ў твар новага знаёмага і адчула невыказную палёгку. На мяне глядзелі вясёлыя жвавыя вочы, а вусны раз'язджаліся, ледзь стрымліваючы ўсмешку, у якой чыталася і падбадзёрванне, і разуменне, і абсалютнае пачуццё паўнавартаснасці, а галоўнае - ужо рэдкая якасць для сучасных мужчын - уменне бачыць жанчыну не як канкурэнта, бескарысны баласт ці прадукт рознага роду спажывання. Ён глядзеў на жанчыну, як Адам на сваё рабро, роднае, якое патрабуе духоўнай дапамогі і абароны. І мы ўсе заўсёды гэта адчувалі. Я ведала, якія б дурныя сентэнцыі я не вымаўляла, ён будзе цярплівы і паблажлівы. А калі казала нешта, вартае ўвагі, ён пераглядаў сваё меркаванне, хоць і быў упарты. Але мы адзін аднаго не пераконвалі, паважаючы нажыты досвед. І гэта таксама ішло ад Валянціна. Адчуваць ўзаемнае донарства так прыемна! Толькі ён даў мне значна больш.

Ужо ў другую сустрэчу Валя распавёў, як у 15 гадоў пасля ампутацыі нагі страціў надзею на будучыню і не ўяўляў сабе свайго далейшага жыцця. Усё патанула ў роспачы. Плакаў, не мог есці, нікога не хацеў бачыць з родных і сяброў, упадаў у істэрыкі, а потым адчуў, як блізкія са страхам заходзяць у яго пакой і баяцца яго! "Я зразумеў, што магу застацца ў адзіноце і злосці ...". Праз некалькі гадоў пасля яго смерці гэтыя словы сталі для мяне рэцэптам жыцця. Пасля інсульту я села на некаторы час у інвалідную каляску Валянціна, а потым навучылася, хоць і з цяжкасцю, хадзіць ... Той жа адчай, тое ж нежаданне жыць пераадольваюцца вельмі цяжка. Толькі памяць пра Валю, клопат дачкі і падтрымка сяброў, якіх мне паслаў Бог, далі магчымасць інакш убачыць сітуацыю. У Валянціна ўсё было значна больш трагічна і складана.

***Л.Л.*** Моцны быў чалавек

***Л.Р.*** Так. Дык вось пра нашыя шчаслівыя дні. Перыядычна ў нашай кампаніі з'яўляліся новыя людзі. Прывяла я да Ляцецкіх сваю прыяцельку Ніначку Х., прыгожую, мініяцюрную з галаскам-званочкам, разумную. Яна працавала настаўнікам англійскай мовы, жыла праз дарогу ад іх, але Валянціна не ведала. Была ўдавой змоладу (гадоў з 25-ці). Муж быў мараком ў Калінінградзе. Яго карабель пацярпеў крушэнне. Ніна засталася адна з сынам і з'ехала ў Ліду, таму што тут нарадзілася і скончыла школу. Мама ў яе памерла, калі яны з братам вучыліся ў школе. Бацька даволі рана другі раз ажаніўся, каб у доме з дзецьмі была жанчына. У дзяцей на ўсё жыццё засталося адчуванне здрады (можа быць, памылковае) і адзіноты. Ніна была стойкай і моцнай, і, пераязджаючы ў Ліду, на дапамогу бацькі не разлічвала. Малодшы брат вывучыўся і жыў у тагачасным Ленінградзе. Адзіным сябрам быў сын 14-15 гадоў, разумны і нейкі даросны хлопчык, вельмі таленавіты фатограф.

Атмасфера ў Ляцецкіх уразіла Ніну сваім цяплом, шчырасцю і адсутнасцю "інтэлектуальнай балбатні", якая часта ідзе побач са з'едлівасцю і нядобразычлівасцю. Яна казала: "Як у нас дома, калі мама была жывая". Яна маментальна пасябравала з Валянцінам (здаецца, яны былі аднагодкамі), і ён клапаціўся пра яе і апекаваў яе. Вельмі моцна перажываў, калі ў яе памёр бацька, а неўзабаве мачыха, і Ніна засталася з двума хлапчукамі адна - з сынам і зводным братам-сіратой. Мы ўсе тады прымалі ў гэтым удзел (у пахаванні і перажываннях). Я, шчыра кажучы, баялася за на-

ступствы гэтай падзеі для Валі і бачыла, як трывожна і маўклива глядзела на ўсё гэта Вера Рыгораўна (было зразумела: каб яе воля - яна б усіх павыганяла. Бо ў яго за тры гады да таго быў інфаркт).

Але, дзякуй Богу, абышлося, неяк ўлеглося ... Ужо праз пару месяцаў Валянцін кансультаваў Ніну на прадмет вырабу касцюмаў для ангельскага спектакля "Чырвоная шапачка", які яна рыхтавала з шасцікласнікамі. Потым ён "забацаў" шыкоўную маску для Ваўка з пап'е-машэ. За форму былі ўзятыя матацыклетны шлем для галавы і халява гумовага адліванага бота для пашчы. Праца рабілася старанна: памастацку, проста ювелірна, апраналася на галаву лёгка. У масцы зручна было арыентавацца, рухацца і гаварыць. На спектакль Валя патрапіць не змог, і Ніна прынесла яму мноства фатаграфій і пачала спяваць аб поспеху пастаноўкі. Радасці дзяцей і настаўніцы не было мяжы!

Праўда, няшчасці Ніны не канчаліся ... Пасля развалу СССР яна неяк вельмі хутка з'ехала ў Вільню, на радзіму свайго бацькі, потым - у Менск, потым - у Англію. Думаю, там ёй стала лягчэй, тым больш, што яна трапіла ў прыход Антонія Суражскага, выйшла замуж ...

У 90-я гады Валянцін пачаў асвойваць бізнес. Жыццё змянялася. Мы былі рады гэтаму, пераменаў чакалі ўсе. Але як будзем жыць і як трэба - не ведаў ніхто. Нам, бюджэтным службоўцам, проста трэба было працягваць сваю справу - вучыць дзяцей, лячыць людзей, арганізоўваць культурную працу і г.д. Многіх палохаў "новы паварот". Беларусь трасла ўрадавая ліхаманка. Але, галоўнае, у краіны з'явілася магчымасць мець уласныя законы, эканоміку, знешнюю палітыку і свой курс развіцця. І ўсе разумелі, што будзе велізарная праца па аднаўленні нацыянальнай самасвядомасці, самапавагі. На чале ўсяго ляжала слова.

Валянцін з галавой акунуўся ў гэтую праблему. Дома ягоная маці гаварыла выключна па-беларуску з дзецьмі, з унукамі, з гасцямі, і думкі не дапускала, што яе могуць асудзіць за "вясковасць", малапісьменнасць, і, здаецца, не дэкларавала гэта, проста яна так жыла: без выкліку, свабодна і пераканана.

Яна была "залатым запасам" сям'і, краіны, народа. Такія людзі жывуць з болем, бачачы, што дзеці і ўнукі ведаюць родную мову, як замежную, у рамках вучэбнай праграмы, за рэдкім чытаннем нацыянальных газет і часопісаў, спатыкаючыся ў разуменні многіх уласна-беларускіх слоў і выразаў.

Час 90-х быў цяжкім і творчым. Мы хадзілі з Валянцінам на адзін з першых сходаў палякаў. Сабралася вялікая колькасць народу. Прывялі самых старых і слабых людзей, якія ўжо і не спадзяваліся дачакацца пачуць родную гаворку ў такім вялікім сходзе, глядзелі на навакольных з хваляваннем і слязьмі. Здаецца, гэта было ў кінатэатры "Кастрычнік". Я ўбачыла там сваю настаўніцу пачатковых класаў Веру Станіславаўну Курылу, яна падрыхтавала групу дзяўчынак, якія спявалі польскія песні. Потым яны ж прыйшлі на адкрыццё помніка Адаму Міцкевічу.

Былі мы на адным з арганізацыйных сходаў, дзе абмяркоўвалася выкладанне вучэбных прадметаў на беларускай мове ў школах і сярэдніх спецыяльных навучальных установах. Было настойліва рэкамендавана дзіцячым садкам весці выхаванне па-беларуску. Я тады працавала ў педвучылішчы і з захапленнем узялася складаць канспекты на беларускай мове. М.І. Мельнік быў нашым натхняльнікам і кансультантам. Ён жа потым і ўзначаліў работу па зборы сродкаў і арганізацыі ўстаноўкі ў Лідзе помніка Францішку Скарыну. Гэта быў апафеоз! Але пра гэта шмат пісалі.

Паўстала яўрэйскае таварыства, дзе рабінам быў выкладчык лідскай музвучэльні Міхаіл Дзвілянскі, ён арганізаваў тады ж ансамбль "Шалом", які і да сёння шырока вядомы.

Беларусь аднаўляла свой традыцыйна-гістарычны нацыянальны твар.

У Ляцецкіх, дома і на працы мы шмат гаварылі пра гэта, калі збіраліся проста паглядзець адзін на аднаго.

Валянцін з захапленнем уключыўся ў арганізацыю сямейнага бізнесу, звязанага з вытворчасцю аздобных панэляў (для сцен жылых памяшканняў, грамадскіх устаноў, офісаў), а таксама з гандлем невялікімі партыямі тавараў (мукі, цукру і г.д.) Для яго адкрылася магчымасць, якую раней ён не меў: рэалізаваць сябе ў афіцыйнай дзейнасці на карысць сям'і і краіны.

Ён ездзіў па справах фірмы то ў Польшчу, то ў іншыя гарады, стамляўся, вёў бясконцыя перамовы па тэлефоне. Гэта і цяпер нялёгкая праца. Людзі, якія ведаюць горкі смак бізнес-хлеба 90-х гадоў сярод "кідалаў", авантурыстаў, адкрытых бандытаў, разумеюць, што я маю на ўвазе. Мы радзей бачыліся з-за клопатаў (перабудоўных, бытавых і эканамічных). Але ён быў таксама ўважлівы і клапатлівы.

У адзін з нашых "забегаў" да яго ён размаўляў пра справы з некім з партнёраў па фірме. Мы паміж сабой, дамамі, абменьваліся паўшэптам тым, што бачылі ў крамах. Я любавалася там шэрымі пантофлямі на шпільках, высокімі і лаканічнымі. Затрымка і так беднай зарплаты дазваляла толькі любавацца (пакуты з гэтай нагоды я не адчувала). Суразмоўніцы мае шэптам войкалі. Валянцін развітаўся з суразмоўцам і працягнуў размову з намі. Неўзабаве мы разбегліся.

Калі я прыйшла дадому, пачуўся тэлефонны званок ад Ляцецкіх. Валя кажа: "Выбачай, што не змог прапанаваць табе грошай. У нас пуста, уся наяўнасць у справе. Але я дастаў для цябе...", - і называе суму, неабходную для куплі туфляў. Я здранцвела. Як ён паспеў пачуць наша шушуканне? Засмяялася і патлумачыла, што мне прасцей не ўлазіць у пазыкі, чым аддаваць. Потым увесь вечар і ўсе тры наступныя дні міжволі ўсміхалася ад гарачай падзякі і пяшчоты за клопат чалавека, якому непараўнальна цяжэй жыць на свеце, чым астатнім.

Заўсёды задавалася пытаннем (асабліва пасля страты нашага сябра), на які час ён быў запланаваны Богам? Зразумела, што, каб страціць іх, столькі талентаў і вартасцей чалавеку не даецца… Валянцін, што

меў, тое развіваў, удасканальваў у сябе. Гэта нялёгка яму давалася па прычыне асаблівай складанасці яго фізічнага стану.

Нейкі час, калі дзейнічала адна нага, у маладзейшым узросце ён быў даволі самастойным. Патрабавалася нечая дапамога ў некаторых выпадках, але ўздымацца па лесвіцы, даволі доўга стаяць, перайсці ў другое памяшканне (кухню, прыбіральню, іншы пакой) - гэта ім выконвалася самастойна з мыліцамі. І нават трывала рабіў праміналы разам з сябрамі не вельмі далёка па суседніх вуліцах.

Ускладнілася ўсё пасля другой аперацыі. Спатрэбілася яна, не ведаю, ці па недагляду медыцыны, ці яшчэ па якіх прычынах…Упершыню яму ампутавалі нагу да пахвіны. Калі ўсё загаілася, было нязручна сядзець: цела перакошвалася ў бок, цяжка было для пазваночніка, і небяспечна. Валянцін знайшоў выйсце: падкладаў пад сябе здаровую нагу. Было значна лепш. Такім чынам ён прызвычаіўся чытаць, есці, рабіць розную работу.

Але з часам адзіная нага пачала вельмі цяжка згінацца і разгінацца, а потым зрабілася амаль нерухомай у скручаным стане. Медыцына канстатавала анкілоз. Гэта азначала зацвярдзенне сухажылля пад каленам, якое вымушаны былі перарэзаць. Нага страціла магчымасць дзейнічаць: стаяць, быць апорай для цела. Яна ўсё адчувала, але была, як ў анучнай лялькі. Зараз яго ўжо трымала неісная нага - прасцей кажучы - пратэз. А з гэтым было шмат цяжкасцяў у нашай былой краіне. Ведаю, што існавала вялікая шматгадовая чарга ў Менску. Звычайна Ляцецкі ад'язджаў туды, быццам у доўгую камандзіроўку. Здаецца таксама, што адным месяцам не абыходзілася гэта ўсё: прымеркі, прыладжванне і г.д. Па-першае, пратэз, калі ім карыстацца практычна (хадзіць і стаяць) - гэта балюча, нязручна і мае свае наступствы (не буду паглыбляцца ў падрабязнасці). Вось, уявіце сабе: сядзіць, ці ляжыць чалавек, у якога ёсць толькі рукі (каб трымаць на мыліцах цела). Ён іх вельмі трэніраваў гантэлямі, якія заўсёды з ім былі побач. Упершыню ўбачыўшы Ляцецкага, я была вельмі здзіўлена яго біцэпсамі і добра развітай груднай клеткай.

Пратэз выконваў касметычную функцыю "для выхадаў у людзі", і каб зрабіць пару крокаў у чужым памяшканні па патрэбе. У хаце ён яго не выкарыстоўваў. І, нават свае, якія ведалі і разумелі ўсё, і тыя не маглі канчаткова ўявіць сабе пакутаў сябра. Кожны момант жыцця быў выпрабаваннем…

А да яго ішлі па спачуванні, распавесці пра свае цяжкасці лёсу, пра няшчаслівае каханне, пра няўдалае сямейнае жыццё, пра недахоп грошай, які атручвае існаванне. Ён слухаў, раіў, перажываў разам з імі і, застаючыся адзін, браў пад язык таблетку, ці якія больш сур'ёзныя лекі, што былі пад рукой.

З наяўнасцю безлічы знаёмых і сяброў побач не знаходзілася чалавека, які б паглядзеў у вочы і ціха спытаў бы: як ты сябе адчуваеш, што табе баліць, турбуе. Людзі часта не ўмеюць, баяцца гаварыць на такую далікатную тэму. Некаторыя лічылі яго надзвычайна моцным і дасканалым чалавекам, амаль што супермэнам. А ён быў, апрача ўсяго гэтага хлопчыкам-пакутнікам.

Ва ўсіх - праца, сем'і і розныя клопаты, як гэта бывае заўсёды ў людзей. Яго родныя - мама, Лора, Ваня, дзеці - усё разумелі і адчувалі, але і ў іх было сваё жыццё. Хацелася побач мець сябра, з якім разам магчыма рабіць нейкія сур'ёзныя цікавыя справы, паскардзіцца часам яму…

Аднойчы вялі гутарку пра сабак. Мой муж Міхаіл распавядаў пра свайго Пірата, які сканаў ад чумкі, пра тое, як яны разумелі адзін аднаго, і якое гэта надзвычайна ўдзячнае пачуццё да жывой, разумнай істоты.

Валянцін сказаў:

- Міша, знайдзі мне шчанё аўчаркі. Я так хачу мець вернага сябра, каб ён быў са мной і ў дзень і ноччу.

Гэтае слова "сябар" прагучала ў яго асабліва выразна, кранальна…

Міхаіл прынёс Валянціну шчанюка нямецкай аўчаркі, якому далі імя "Бой". Ціхай радасці не было канца. Гаспадар прачытаў пра сабак, напэўна, усё, што магчыма, і выхоўваў яго па ўсіх правілах. Шкада, што асноўныя клопаты ўскладаліся на родных. Мама была хворай, дзеці вучыліся, галоўны цяжар даставаўся Ларысе, а яна, як на грэх, баялася сабак.

Калі Бой стаў прыгожым, дарослым і пачаў добра адчуваць адносіны навакольных людзей, яму, як большасці сабак, падабалася, калі яго баяліся. У натуры сабак існуе інстынкт падтрымкі баязлівасці да сябе. Гэты малады нахабнік узяў звычку нават пабрэхваць на тую, што ўсё рабіла для яго.

Разумны пёс лічыў галоўным Валянціна! Менавіта ён стаяў начале незразумела-агромністай зграі, у якую кожны дзень забягалі нейкія новыя, не знаёмыя яшчэ, ці то родзічы, ці то суседзі. Бой праціскваўся праміж іх, каб пахваліцца сваім ладным складам і шыкоўным футрам, паглядзець, ці магчыма даверыць гэткай кампаніі гаспадара. Раз-пораз не адна цёплая рука пяшчотна дакранецца да яго вуха, плячэй, грудзей, што Бой вельмі любіў…

Валянцін разумеў, што сястра нярвуецца. Яна ні разу не папракнула яго - ні Божа ж мой! Ён адчуваў, як ёй страшна. Не атрымоўвалася самастойна нават прагульваць сабаку, бо яго самога трэба было падрыхтоўваць каму-небудзь дзеля выхаду з хаты. Летам лягчэй, не трэба апранацца. Але лета толькі адно ў годзе. Складанасцей было шмат… Марылася зноў пра нейкага чалавека, каб гэта быў паплечнік, аднадумца, які б дапамог і яму, і сястры спраўляцца з гаспадаркай, выхоўваць дзяцей, весці разам нейкі бізнес.

У наш чарговы візіт Валя, весела ўсміхаючыся, сказаў:

- Хутка маё жыццё павінннна змяніцца. Сюды прыедзе вельмі цікавы чалавек. Я моцна спадзяюся на яго. Можа мы наладзім з ім сумесную працу. Ён мае бясконцую колькасць ідэй. Вельмі галавасты хлопец! І вам ён будзе да спадобы, вось убачыце.

- Хто ён такі? Скуль ён? - спыталася я.

- Проста чалавек з добрым імем - Іван. Ён з

на сэрца. Мы наогул не краналі ў нашых размовах тэмы бізнесу і тое, што было звязана з ім. Відаць, не ўсё так ладзілася, як на пачатку, на хвалі натхнення і ўпэўненасці ў поспеху.

Я ведала, што такое вера ў "безнадзейную справу". Яе не кідаеш да таго часу, пакуль яна сама не абрынецца табе на галаву. А там - як выйдзе: ці глымане зусім, ці пашанцуе выбрацца з-пад завалу. Вядома, гэта не рацыянальна, па-дурному па мерках "гэтага свету" ... Валя быў "не ад гэтага свету". Ён быў з іншага, духоўнага свету, хоць мог бы лёгка быць удачлівым, ашчадным і папросту абыгрываць навакольных. Не мог ён першым кінуць таго, з якім звязаў у нейкай ступені сваё жыццё.

Лета 1996 г. выдалася для мяне клапотным. Акрамя ўсіх астатніх праблем назапасілася шмат сваіх ... са здароўем. Сігналілі цэлай чарадой гіпертанічныя крызы, адпускных цалкам не давалі, трэба было лячыць парадантоз. Я асуджана і моўчкі хадзіла на ўколы і іншыя працэдуры міма Валінага дома кожную раніцу, адчуваючы пакуты сумлення і фізічнага болю. Не хацелася з'яўляцца да Ляцецкага ў жалю вартым выглядзе, як бы па спагаду[18].

Але аднойчы, у выніку анестэзіі, мой твар так вырас і скасабочыўся, што ўзнікла патрэба прасіць дзесьці часовага прытулку. Я наступіла на горла уласнаму далікацтву і гардыні (гэта ў гэткім выглядзе!) і зайшла да Валянціна. Мяне сустрэла незвычайная цішыня. Кватэра была пустая. У Валіным пакоі было пуста, па сценах кідаліся яшчэ ранішнія цені ад дрэў за балконам. Я нерашуча ўзялася за ручку дзвярэй у пакой Веры Рыгораўны, але яны аказаліся адчыненымі. Там былі Валянцін і яго старэйшы брат Іван Іванавіч. Я падалася назад.

- Ларыса .., - сказаў Валя слабым голасам. - Уваходзь. Так даўно мы не бачыліся.

- Ой... Прабачце... Я не да часу. Прабачце..! - Залапатала і раззлавалася на сябе.

Іван Іванавіч, які заўсёды расцвітаў пры сустрэчы шчырай усмешкай, выглядаў вельмі заклапочаным (ён быў у ніжняй майцы на выдатным атлетычным торсе і ў "трэніках") і ўсміхнуўся толькі вуснамі, маўляў, нічога, і вы мяне прабачце:

- Пасядзіце ў нас, Ларыса .., - і выйшаў з пакоя.

- Валячка ... Прабач. Усё лячуся. Не хочацца ў такім выглядзе наведвацца, - запаўняла я паўзу павольна і цяжка. Раптам адчула нейкую няўхільнасць падзеі, якая безупынна насоўваецца.

- А я сяджу ля балконных дзвярэй і кожны дзень бачу, як ты ходзіш да лекара. Учора ты была такая сумная, якой я цябе ніколі не бачыў! ...

Божа мой! Ён яшчэ мяне шкадуе ... Заўважае мой стан. Я яго такім таксама ніколі не бачыла: патухлы погляд, цьмяны голас, скурчаны ад болю сядзіць на краі ложка. Перад ім зэдлік са сподкам, на якім неяк самотна прымасцілася сціплая гронка зялёнага вінаграду, нечуваная раскоша "хвацкіх дзевяностых" для радавых грамадзян чарговай Атлантыды, якая сплывала ў мінулае.

- Валя, паглядзі, якая я смешная! Мая дачка называе гэта словам "стромная".

- Табе балюча, а ты - "стромная" ...

- Боль жа праходзіць. І ў нас пройдзе!

Ён прамаўчаў, як з дзіцем, якога не хацеў палохаць.

Выразна разумела, што і брат прыехаў для вельмі сур'ёзнай размовы, можа, для апошняй, а тут я ... Шчака нарэшце набыла чуйнасць і нармальны знешні выгляд. Трэба ісці.

- Ну, дзякуй за прытулак ... Пайду.

Ён без слоў кіўнуў галавой.

Выбегла з хаты і за вуглом наткнулася на Лору, стомленую, заклапочаную. Яна намалявала мне карціну апошніх дзён: сардэчныя прыступы, моцныя болі, "хуткія дапамогі". "Так шкада класці яго ў бальніцу, дзе асабліва агаляецца яго бездапаможнасць ... Але, відаць, прыйдзецца. Буду там сама ўвесь час з ім ...".

Так, гэта адзіны спосаб пазбегнуць горшага. Хай будзе побач з медыкамі. Прынамсі, надзейней, чым "хуткая дапамога".

Бальніца была праз дарогу ад майго дома. Кожны дзень паміж урокамі або пад вечар я заходзіла да Валі. На трэці дзень ён сустрэў мяне сваім звычайным голасам:

- Ларыса! Павіншуй мяне. Уначы я другі раз нарадзіўся.

Медсястра пацвердзіла:

- Так. Ён - малайчына! Ноччу спынілася сэрца. Добра, што ў аддзяленні быў рэаніматолаг...

Я ўздыхнула з палёгкай. Паверылася: вось, пачынаецца новы віток жыцця. Можа быць, гэта крызіс мінуў?

- Валя, цяпер ты ўжо будзеш жыць доўга.

- Відаць, праўда ... Бог дае мне яшчэ адну спробу.

Суседзі па палаце спрэс пажылыя сельскія мужчыны. Яны добра ставіліся да Валянціна, спачувальна. Але, як людзі практычныя яны цвяроза глядзелі на рэчы і не разумелі нашай радасці, надзеі і добрых прагнозаў: а навошта так жыць? Іх асобы выказвалі цвёрды скепсіс праз веды сапраўднага жыцця.

Мы пачалі абзвоньваць сяброў, каб прыходзілі ў бальніцу, таму што Валянціну лепш[19]. Народ, як раней, цёк ракой, як быццам да яго дадому.

А далей не здолею пісаць. Напішыце, калі ласка, хто-небудзь! ..

Я толькі ведаю, што дзесьці ў бязмежных выдатных прасторах радасна ляціць, лунае, куляецца і спя-

[18] А я як раз часта бываў у яго ў тое ягонае апошняе лета, і мы шмат размаўлялі аб ўсім, ён шмат расказваў пра сябе, пра рок-клуб 1980-х гг. Пра сваю хваробу ён казаў, што надзея толькі на ягоную адносную маладосць - сэрца яшчэ можа мець рэсурс. Каб можна было аднавіць памяць і запісаць тыя размовы ... - *Л.Л.*

[19] Мы з Валерам Тузіным за некалькі дзён да смерці Валянціна таксама былі ў яго ў шпіталі. Зразумелі, што гэта канец - *Л.Л.*

вае душа нашага Сябра, якую ўжо не звязваюць ні хвароба, ні боль. Яна перажыла столькі пакут і выпрабаванняў, якія не кожны вынесе. Яго цела, розум, сэрца і душа вытрымалі ўсё, што было наканавана ў гэтым нядоўгім, цяжкім жыцці.

Яму было 43 гады.

*28 чэрвеня 2015.*

**Успаміны Уладзіміра Круцікава**

***Леанід Лаўрэш:*** Мяне цікавіць пытанне датычнасці Валянціна Ляцецкага да беларускіх спраў, нешта ведаю я сам, але, здаецца, ты амаль што апошні, хто можа гэта расказаць. Ад пачатку, калі ўсё пачыналася, як Валік да гэтага ставіўся?

***Уладзімір Круцікаў:*** Асабіста мяне з ім пазнаёміў Тузін Валера.

***Л.Л.:*** Таксама Тузін? Ён усіх нас перазнаёміў. А ты адкуль Тузіна ведаў? А... зразумеў, вы з Тузіным працавалі разам у "Конусе".

***У.К.:*** Так, працавалі разам. Тузін завёў у 1989 г., папярэдзіў мяне, што гэты чалавек вельмі хворы. Неяк хутка знайшлі агульныя тэмы, шмат размаўлялі. Там жа такое месца было, дзе заўжды шмат цікавых людзей.

***Л.Л.:*** Так, ведаю.

***У.К.***: Ну і неяк выйшлі на абмеркаванне беларускіх спраў.

***Л.Л.:*** У цябе ўжо былі кантакты ў Менску?

***У.К.:*** Так, былі. Тады мы пачалі ў Лідзе ствараць моладзевае аб'яднанне "Рунь". Абмяркоўваў з ім гэтыя праблемы, і Валік такім чынам стаў сустваральнікам "Руні" нараўне з іншымі. Ён чытаў усе кніжкі па гісторыі, якія тады з'явіліся. Караткевіча перачытаў.

***Л.Л.:*** Я памятаю, ён у тыя часы чытаў таўсценны том гісторыі ВКЛ па-польску. Аўтара не памятаю, і кожны раз, калі я да яго прыходзіў пераказваў мне новую інфармацыю, я ж па-польску тады не чытаў. Галоўная выснова была такая, калі ўжо валодаць гістарычнай інфармацыяй і крытычна чытаць тую кнігу, дык на той час з яе можна было шмат цікавага даведацца. Наогул, мы хоць нешта ведалі і чыталі нешта раней, але ўсё ж ў той час мы перажылі сапраўдны "шок", калі асэнсавалі раней не даступную гістарычную інфармацыю пра сваю радзіму. Зразумелі, за якое быдла нас трымалі. А як ён удзельнічаў у справах?

***У.К.:*** Яму цяжка было ўдзельнічаць фізічна. У асноўным мы да яго прыходзілі. Але ён быў на адкрыцці помніка Адаму Міцкевічу. Ён удзельнічаў у першым нашым устаноўчым сходзе.

***Л.Л.:*** Памятаю, ён мне з вялікім задавальненнем пра гэты сход расказваў.

***У.К.:*** Аб'ядноўвацца мы пачалі дзесьці з 1989 г. А гэта быў ужо ўстаноўчы сход на якім стварылі "Рунь", 1990 г. Сход праходзіў у Трэсце № 19. Сабралася шмат настаўнікаў, інжынераў, шмат было людзей, усе адчувалі нешта новае, жывое, цікавае. Пасля гэтага сходу "Рунь" была зарэгістравана пры гаркаме камсамолу і нават атрымала памяшканне ў інтэрнаце Трэста №19

***Л.Л.:*** Так, я там бываў у тым памяшканні.

***У.К.:*** І Трэсту даручылі нас "патранаваць". На устаноўчым сходзе "Руні" Валянцін проста слухаў і назіраў, яму цікава было.

Потым быў устаноўчы сход БНФ, які, як вядома, і склаўся з розных суполак, так "Рунь" стала суполкай Фронту.

***Л.Л.:*** І што было потым?

***У.К.:*** Мы ж з ім былі няхрышчаныя і разам хрысціліся ў 1995 г. Валянцін і раней заўжды казаў, што трэба пахрысціцца. А ў 1994 г. у Лідзе аднавілася грэка-каталіцкая парафія. Я яго за тыдзень спытаў: "Будзеш хрысціцца?". Валянцін сказаў, што так, абавязкова будзе. Да яго раней яшчэ нашы дзяўчаты прыходзілі, проста каб дапамагчы чым, як хвораму чалавеку. І ён быў у курсе парафіяльных спраў. "Агітаваць" яго было не патрэбна, ён усё ведаў сам: падрыхтаваны быў як хрысціянін і пра грэка-каталіцкую царкву ўсё ведаў. Прыйшоў да веры і быў беларусам. Хрысціў нас тагачасны святар Казімір Ляховіч. Я прывёў яго да Валянціна.

Успомніў, на нашым хрышчэнні Антаніна была. Святар паставіў абодвух і выканаў усё па-абрадзе.

***Л.Л.:*** Памятаю, як з задавальненнем ён мне расказваў, што хрысціўся ў грэка-каталіцкай царкве. Я з ім шмат пра унію размаўляў - мы шмат абмяркоўвалі гэтую тэму. І сапраўды "агітаваць" яго было без сэнсу. Наогул з ім заўжды было карысна абмяркоўваць нешта - цікавейшы быў суразмоўца, заўжды меў нестандартныя думкі і, нават звычайныя з'явы бачыў з незвычайнага боку. Мы былі аднадумцамі, таму не спрачаліся, а менавіта абмяркоўвалі пытанні, і мне былі вельмі цікавыя ягоныя нестандартныя меркаван-




***Сяброўскі білет БНФ***

ні. Ужо бліжэй да ягонага канца мы з ім шмат абмяркоўвалі цяжкую сітуацыю, якая да таго часу ўжо выразна намалявалася ў краіне.

***У.К.*** Бізнесам ён займаўся, бізнес і падарваў яму здароўе. Я з ім таксама правёў дзве добрыя здзелкі.

***Л.Л.:*** Памятаю, калі ў 1994 г. мы арганізоўвалі святкаванне 200-годдзя паўстання Касцюшкі, ён моцна хацеў удзельнічаць. Узяўся намаляваць вялікі партрэт Касцюшкі і намаляваў яго, казаў: вось хоць так нешта добрае зраблю.

***У.К.:*** Мы яшчэ ладзілі слайд-фільмы ў яго пакоі для ўсіх ахвотных. Слайд-фільмы пра помнікі беларускай архітэктуры. У яго заўжды збіралася шмат народу... Душа ў яго была шчырая. Умеў ён з людзьмі ладзіць і слухаць умеў.

***Л.Л.:*** Да і я на тых слайд-фільмах бываў. Слухай, не магу успомніць, ці было ў яго радыё з кароткахвалевым дыяпазонам? Усялякіх магнітафонаў было шмат.

***У.К.:*** Так быў, такі вялікі, стацыянарны прымач, ён толькі на кароткіх хвалях і працаваў

***Л.Л.:*** Бывала, прыходзіш да яго, ён пачынае нешта расказваць, аналізаваць - вочы гарачь.

***У.К.:*** Ён прываблівaў людзей. З ім было цікава. Мы з ім абмяркоўвалі ўсе бягучыя праблемы.

*Запісана 4.07.2015.*

***Сяргей Герасімовіч***

**Аберацыі часу**

Памяць - гэта нешта накшталт папкі "Асабістая справа" з грыфам у правым верхнім куце "Захоўваць вечна" для прад'яўлення на будучым Судзе. Адпраўляючыся ў лепшы свет, душа гэтую папку прымацоўвае з сабой і ў чаканні прысуду цярэбіць яе пергаментныя старонкі, на якіх сакральным шрыфтам пакутліва-чырвонага колеру прапісаны ўвесь жыццёвы шлях чалавека. У ёй шмат раздзелаў і параграфаў, а адзін з самых вялікіх раздзелаў называецца "Людзі". Гэта значыць, персаналіі, з якімі нам давялося калісьці сутыкнуцца між іншым, напрыклад, па дарозе ў краму, ці якія аднойчы пад вечар увайшлі ў наша жыццё і засталіся ў ім ужо назаўсёды; людзі, з якімі мы сябравалі, якіх крыўдзілі, якія нас кахалі, і якіх кахалі мы, з якімі мы працавалі, і якіх мы хавалі.

У мяне ёсць адна нерэалізаваная пакуль на практыцы ідэя - паспрабаваць успомніць усіх людзей, якія сустракаліся на раздарожжах, скрыжаваннях, сцежках, аўтабанах і акольных шляхах майго жыцця і ўстанавіць паміж імі сувязі, якія прывялі мяне на гэты момант туды, дзе я зараз і знаходжуся: геаграфічна - у горадзе Лідзе, экзістэнцыяльна - дзесьці ў раёне Сатурна. Тое, што такая нябачная сувязь існуе, для мяне з'яўляецца бясспрэчным фактам. Пры гэтым зусім неабавязкова, што яна будзе ажыццяўляцца ў рамках звыклай картэзіянскай парадыгмы[20].

Адным з такіх людзей быў Валянцін Ляцецкі, з якім мы сустрэліся ў 1985 годзе. Да гэтага часу я ўжо трывала пасяліўся ў Лідзе. Нідзе не акрэдытаваны і не зарэгістраваны клуб аўтарскай песні "Дыез" ужо даваў свае першыя канцэрты. Зрэшты, клуб - гэта занадта гучная назва для невялікай групы людзей з гітарамі і без, якія перыядычна збіраліся ў чырвоным кутку інтэрната завода "Оптык", ці ў памяшканні дыскатэкі "Камертон", ці ў адным з класаў школы №10. Там былі турысты-воднікі, выкладчыкі, "афганцы", проста "вольныя муляры" без пэўнай прафесіі, і нават начальнік Лідскай КЭЧ, які пасля стаў вельмі вядомым аўтарам у армейскім асяроддзі, асабліва ў лётчыкаў. На адной з такіх сустрэч аднойчы і прагучала прозвішча "Ляцецкі". Потым яно ўзгадвалася ў размовах ўсё часцей і часцей. І тады я пайшоў да яго знаёміцца, таму што пры згадванні гэтага прозвішча ў людзей, якія ведалі яго, цяплелі вочы. Як быццам яны распавядалі пра старога і дасведчанага святара, які набыў за гады служэння ў сваёй пастввы бескарыслівую любоў і павагу.

Да моманту нашай сустрэчы я не ведаў, што Валянцін інвалід. Пра яго страшную хваробу ніхто не казаў. Ці да слова не прыйшлося, ці гэта здавалася неістотным. Уласна, і я потым таксама амаль не звяртаў увагі на яго фізічную немач, таму што Валянцін умеў рабіць яе незаўважнай. Ён і яго шматлікае атачэнне нагадвалі мне геліяцэнтрычную сістэму. Людзі круціліся вакол яго па сваіх уласных арбітах, а цэнтрам прыцягнення быў сам Валянцін. Працягваючы аналогію, можна нагадаць яшчэ пра адну з'яву. У любой планетарнай сістэме заўсёды знойдзецца месца касмічнаму смеццю. А вось у геліяцэнтрычнай сістэме Ляцецкага смецце адсутнічала. І нават, калі яно часам траплялася, дык рана ці позна выштурхоўвалася за яе межы (а можа, проста паглыналася з-за непатрэбнасці цёмнай матэрыяй).

Калі мы дамаўляліся па тэлефоне на першую сустрэчу, Валянцін мне сказаў: "Зойдзеш без званка, мой пакой - налева". У рэшце-рэшт аказалася, што дзверы ў кватэру Валянціна былі адчынены заўсёды.

[20] Аб'ектыўна-суб'ектыўны дуалізм. Сутнасць гэтай парадыгмы коратка можна растлумачыць наступнымі палажэннямі:

1. Цела і душа - гэта дзве розныя субстанцыі. У іх супрацьлеглыя ўласцівасці.

2. Цела - гэта машына, кіраваная рэфлексамі.

3. Свядомасць тоесная мысленню.

4. Усведамляючы суб'ект мае непасрэдны доступ да сваёй свядомасці. Ён можа свабодна кіраваць сваім мысленнем.

5. Ён таксама кіруе сваім целам. Для гэтага пастулюецца нейкае таямнічае месца, у якім адбываецца ўзаемадзеянне субстанцый.

6. Суб'ект адзіны, яго свядомасць суцэльная і непадзельная - *заўвага Л.Л.*

Гэта значыць, кватэра не замыкалася на замок наогул (можа, толькі на ноч?), і ў Валянціна заўсёды нехта знаходзіўся, ці кагосьці чакалі. Гэта было ўвасабленне пранізлівага акуджаўскага радка. "Не запирайте вашу дверь…".

Так я апынуўся ў зоне прыцягнення Валянціна.

Самы просты спосаб бліжэй пазнаць чалавека - гэта паглядзець на яго кніжныя паліцы. І на першай сустрэчы мы проста абменьваліся думкамі аб сваіх літаратурных прыхільнасцях. Гэта было нешта накшталт пошуку агульных поглядаў, і, як аказалася, іх было шмат. Габрыэль Гарсія Маркес у тым ліку. Памятаю, што мяне тады здзівілі заўвагі Валянціна, таму што яны тычыліся досыць вузкіх праблем філалогіі і праблем перакладу. Яго выказванні і спосабы перадачы думкі адразу паказвалі чалавека, які прачытаў не адну сотню кніг. З такімі людзьмі мецъ зносіны проста, таму што ты знаходзішся з імі на адной хвалі. Досыць усяго толькі паўнамёку, каб пазначыць тэму і адразу ж можна сыходзіць углыб, не дакранаючыся паверхневых дэталяў. Андрэй Таркоўскі неяк сказаў пра сябе: "Я - рыба глыбакаводная". Валянцін належаў да такіх жа глыбакаводных рыб. Планктонам ён не цікавіўся.

Падчас нашай размовы раз-пораз з'яўляліся і знікалі незнаёмыя пакуль мне людзі. Некаторыя забегалі проста так - пасядзець, адпачыць ці што. Яны прыслухоўваліся да размовы, часам кідалі рэплікі, але ў цэлым паводзілі сябе ціха. Толькі Тузін Валера затрымаўся надоўга і, седзячы на крэсле, часам хмыкаў і круціў галавой. Сыходзіў я ад Валянціна з невялікай кніжачкай Д. Карнегі, аддрукаванай на ратапрынце. Па сённяшніх мерках гэты папулярызатар ад псіхалогіі можа і не здаецца такім ужо майстрам і знаўцам законаў і прыёмаў камунікацыі. Але па тых часах гэта быў погляд на рэчаіснасць пад іншым вуглом гледжання, і гэты погляд ахоўнікам ідэалогіі, а таксама іншым дзейным у сістэме органам вельмі не падабаўся. Ці мала хто мог скарыстацца парадамі і рэкамендацыямі, як аказваць уплыў на іншых людзей.

У 1987 годзе мяне прызвалі ў армію. Улічваючы атрыманую адукацыю перакладчыка і наяўнасць ваеннай кафедры ў інстытуце, служба была экзатычнай - у чорта за морам, у Мазамбіку. Ваеннае ведамства, 10-е ўпраўленне Міністэрства абароны СССР, мала цікавіла, што іспанская і партугальская мовы ўсё-такі маюць істотныя адрозненні. Вядома, не такія, як паміж рускай і кітайскім, але ўсё ж ... Такія-сякія дапаможнікі і падручнікі са слоўнікамі я знайшоў, але ж трэба было яшчэ, як кажуць, "набіць вуха" - слухаць партугальскую гаворку, каб яна стала звыклай фанетычна. Радыё было самым простым спосабам. І калі я агучыў праблему - "не магу дастаць "ВЭФ" або "Акіян"" (а гэтыя гады былі перыядам усеагульнага дэфіцыту) - Валянцін прапанаваў мне на нейкі час лямпавы прыёмнік. Даволі масіўны і, мяркуючы па дызайне і вазе, відавочна народжаны ў нетрах ваенна-прамысловага комплексу. Так што месяцы тры, пакуль не прыйшоў выклік з ваенкамата, я па вечарах рэгулярна слухаў на кароткіх хвалях перадачы з Масквы, якая вяшчала на партугальскай мове на афрыканскі кантынент. Вядома, моўныя рэаліі Мазамбіка аказаліся некалькі іншымі, але, ва ўсякім разе, мне спатрэбіўся мінімум часу, каб набыць адпаведны статус вайсковага перакладчыка з веданнем партугальскай мовы. А прыёмнік я вярнуў праз год, калі прыехаў у адпачынак. Памятаю, што ў падарунак прывёз Валянціну вялікі какос і белы карал, знойдзены на беразе Індыйскага акіяна.

Некалькі разоў мы збіраліся за партыяй прэферансу. Трэцім гульцом быў Тузін Валера. Я ўсяляк агітаваў за "класіку", больш азартны від прэферансу, у якім гулец можа ўнесці ў ход гульні вядомую долю авантурызму і разлік на чыстую фартуну. Падчас гульні ўсе палажэнні кодэксу прэферансістаў намі строга выконваліся, уключаючы добра навостраныя алоўкі для запісу вістоў. Ну і сыграны "мізэр" адзначаўся чаркай спіртнога. Праўда, Валянцін толькі злёгку прыгубліваў, сэрца ўжо не дазваляла. Ён быў знешне неазартны, гуляў з матэматычнай дакладнасцю і віставаў толькі пэўна, і, наколькі я памятаю, ні разу не сыграў "наўгад". Пазіраючы з-пад акуляраў, ён цярпліва выслухоўваў жарты прэферансу "Ходу няма - хадзі з бубей", "Няма аповесці сумней у свеце, чым козыры чатыры на чатыры", "Дама б'ецца свая і чужая", "Карты бліжэй да ордэнаў" і аб'яўляў у чарговы раз: "Пас". Яго асцярожнасць толькі надавала асаблівы шарм гульні, нягледзячы на нашыя падначкі. Ведаю, што Валянцін быў вельмі нядрэнным шахматыстам, але паколькі мае веды ў шахматах былі вельмі сціплымі і ўваход у знакаміты клуб "Чатырох коней" быў мне забаронены, то ніводнага каралеўскага эндшпілю мы з ім так і не разыгралі.

Як ні дзіўна, нягледзячы на вялікую колькасць музыкаў, якія з'яўляліся ў Валянціна, гітару я чуў не так часта. Але добра памятаю, як усё той жа Тузін, грузна ўладкаваўшыся на крэсле, старанна браў акорды і напяваў на сваю музыку вершы А. Сыса "У гэтай краіне не маю я дому ...". Валянцін лагодна слухаў, ківаў галавой, не выказваючы пры гэтым залішніх эмоцый. Наогул, любыя праявы экзальтацыі былі брыдкія ягонай натуры. А вось іроніі і сарказму, як ува ўсякага сапраўднага мужчыны, хапала. І зусім не магу ўзгадаць Валянціна раздражнёным або ў маркоце. Калі я сёння бачу разгубленых асобін XXI стагоддзя, якія распускаюць раз-пораз смаркачы, якіх мужчынамі і язык не паварочваецца назваць - так, прамежкавы від нейкі, гендэрная памылка, - мне хочацца распавесці ім пра Валянціна. Шкада, што не пазнаёміць.

90-я гады мінулага стагоддзя мне нагадваюць велізарную цёмную залу з мноствам дрэнна асветленых дзвярэй, арачных праёмаў, вузкіх і наглуха зачыненых люкаў з крэмальерамі, выхадаў, разбоўтаных брамак, лазаў і проста змрочных доўгіх тунэляў. На большасці дзвярэй таблічкі-паказальнікі адсутнічаюць, і вядуць яны невядома куды і навошта. А на некаторых сяк-так прыбітыя фанерныя дошчачкі з няроўнымі ацёкшымі надпісамі: "Сумленны бартэр", "Талоны на гарэлку і бялізну", "Куплю Расею", "Відэасалон", "Дэпутат", "Зайцы і іншыя сысуны", "БНФ", "Белавежская пушча", "Лёня Галубкоў". І грамадзяне ў гэтыя разнастайныя дзверы і праёмы ўваходзяць шэрагамі і



***У сябе ў пакоі, 1980-я гг.***

па адным, б'юцца, стукаюцца, пнуцца, адчыняюць нагой ці ўвогуле запаўзаюць. А дзесьці высока пад скляпеннямі залы нягучна гучыць хрыплы голас Высоцкага: "Ищу я выход из ворот. Но нет его, есть только вход, и то - не тот".

Такі вось быў раздзяўбайскі час, якому будучыя гісторыкі хутчэй за ўсё дадуць нейтральнае і пазбаўленае ўсякай эмацыйнай нагрузкі вызначэнне "пераходны перыяд". Да яго мы худа-бедна жылі ў адміністрацыйна-партыйна-планавай эканоміцы, якая з вялікім ці меншым поспехам рэгулявала колькасць прадукаваных на канвееры шкарпэтак і гаспадарчы разлік для лазні. А пасля яго (калі выказаць здагадку, што перыяд ўсё ж такі скончыўся) - у эканоміцы, якая не мае ніякага выразнага вызначэння. Ні філасофскага, ні эканамічнага. Але джын з бутэлькі ў выглядзе дазволенага прадпрымальніцтва ў 1990-я быў выпушчаны, і пачалося дзейства, якому Адам Сміт даў вызначэнне першаснага назапашвання капіталу.

Унутрана Валянцін быў гатовы да гэтых пераменаў даўно. Нездарма ж яго дыскатэка ў старым гарадскім Доме культуры была адной з самых папулярных у горадзе. Сама па сабе дыскатэка ў савецкай рэчаіснасці была цікавай тым, што яна выходзіла за жорсткія рамкі ўстаноўленых сістэмай норм і правілаў "культурнага правядзення часу моладзі" (калі ўспамінаць гэтую жабрацкую партыйна-камсамольскую лексіку, якая запар складаецца з плоскага набору штампаў і наскрозь прасякнутай коснаязыкасцю, характэрнай для людзей, у якіх знаёмства з "вялікім і магутным" скончылася недзе на ўзроўні кніжкі-размалёўкі або на першай старонцы часопіса "Мурзілка"). Дыскатэкі разам з будаўнічымі "шабашкамі" і сталі першай легальнай формай свабоднага прадпрымальніцтва ў краіне Саветаў. Зразумела, што танцпляцоўка не дазваляла яе арганізатарам зарабляць, як на будаўніцтве якой-небудзь сіласнай вежы ў аддаленым калгасе або на карэльскім лесапавале. Але яна давала большае - новую музыку часу. Колькі з нас пачулі ўпершыню на дыскатэцы і адразу ачмурэлі ад "Smoke on the Water", "Hotel California", якімі прыцягальнымі былі незямныя кампазіцыі Pink Floyd і голас Фрэдзі Мэрк'юры ў "Killer Queen". Нешта падобнае адбывалася ў менскай кавярні "Сузор'е", куды ў тыя часы нельга было дастаць білетаў, і дзе акрамя музычнай часткі вечара, праводзіліся лекцыі з паказам слайдаў напаўзабароненых Далі і Босха.

У 1992 годзе Валянцін разам з невялікай групай аднадумцаў пачаў справу, звязанаю з дрэваапрацоўкай, а менавіта - выраб акультуранага ДСП. Матэрыял ішоў на абліцоўванне сцен ўнутры памяшканняў і на фоне паўсюдна прысутнай маркотнай аднатоннай керамічнай або пластмасавай пліткі, выглядаў проста архітэктурным дызайнерскім шэдэўрам. А большасць народанасельніцтва рынулася ў звычайны перапродаж - ад лідскай смятаны і "доктарскай" каўбасы на перонах Беларускага вакзала ў Маскве да графінаў шклозавода "Нёман" на Неўскім праспекце ў Піцеры. Заняцца рэальнай вытворчасцю ахвотных у тыя часы было не так шмат (зрэшты, гэтак жа, як і сёння).

Ці быў Валянцін сапраўдным прадпрымальнікам? Думаю, што ім больш рухала цікаўнасць, чым меркантыльныя інтарэсы. Аднак можна адзначыць яго падыходы - максімальная сур'ёзнасць і скрупулёзнасць. Аднойчы я застаў яго за праглядам дагавору. Усе лісты дагавору былі ў алоўкавых паметках і знаках пытання. Гэта зараз юрысты з'яўляюцца самай шматлікай (пасля бухгалтараў) прафесійнай дыяспарай, якая абслугоўвае шматпакутную беларускую эканоміку. А тады напісанне любога дагавору падраду і хоць бы знешняе выкананне гаспадарча-прававой тэрміналогіі для тых, хто ўступіў на ніву бізнесу, было сапраўднай праблемай. Да таго ж, яшчэ нават не былі адмененыя загады і адмысловыя інструкцыі аб выкарыстанні размнажальнай тэхнікі і друкарскіх машынак з прычыны паранаідальнай боязі савецкай улады любога друкаванага тэксту. Так што трэба было вельмі пастарацца, каб проста атрымаць на рукі за шакаладку ад знаёмай сакратаркі аддрукаваны пад капірку на "Ятрані" або "Украіне" тыповы дагавор у двух асобніках. Азіраючыся назад, неяк зусім не верыцца, што з таго часу прайшло крыху больш за дваццаць гадоў, і сёння ўжо мала каго здзівіш сублімацыйнымі друкаркамі або шасціядзернымі працэсарамі, над якімі лунае астральная ўсмешка Сноўдана. І цяперашнія форс-мажоры адрозніваюцца ад ўзору дзевяностых, як дрэдноўт ад дракара вікінга.

Звычайна гады сціраюць твары. Вобраз чалавека паступова знікае, размываецца і нібыта хаваецца за шырмай часу. Аберацыі часу ператвараюць калісьці блізкага чалавека ў прывід. Навука пра гэта можа пакуль сказаць вельмі няшмат. Выглядае гэта прыкладна так жа, як калі б індзеец-татанак стаў апісваць запуск касмічнага карабля. А пакуль мы ведаем, што ёсць нейкі метабалізм нейронаў мозгу і сінаптычныя кантакты, якія адказваюць за захоўванне інфармацыі. Яны

паслужліва і падсоўваюць замест цэласнага малюнка асобныя фрагменты: колер валасоў ці вачэй, рост, ўсмешку, тэмбр голасу, форму носа і любімае прыслоўе. Аднак цэлае - заўсёды большае за часткі, якія яго складаюць.

Дзіўна, але я і цяпер магу выклікаць у памяці выразны вобраз Валянціна, хоць пасля яго смерці прайшло ўжо амаль 20 гадоў. Можа быць, уся справа ў тым, што наша памяць мае здольнасць запамінаць душу чалавека. Чым мацней душа, тым ярчэй выява. Калі гэта так, дык становіцца зразумелым, чаму я памятаю Валянціна да гэтага часу.

*19.09.2015.*

***Дадаткі***

**Бацькі**



***Ляцецкі Іван Лукіч (01.05.1909 - 13.11.1984)***




***Ляцецкая Вера Рыгораўна (18.03.1918 - 25.08.2004)***

Ляцецкі Іван Лукіч (01.05.1909 - 13.11.1984).

Ляцецкая Вера Рыгораўна (18.03.1918 - 25.08.2004).

1 верасня 1939 г. пачалася 2-я Сусветная вайна. 17-га верасня Чырвоная Армія перайшла мяжу Польшчы і заняла тэрыторыю Заходняй Беларусі. Прычым, прасунуліся значна заходней сучаснай мяжы, і Беласток апынуўся на гэтай тэрыторыі.

Маці, пасля заканчэння педагагічнага інстытута, накіравалі ў Беласток выкладаць польскую мову.

Бацьку адправілі ў Беласток служыць.

Там яны сустрэліся: Сянкевіч Вера Рыгораўна і Ляцецкі Іван Лукіч. Палюбілі адзін аднаго і пажаніліся. Але нядоўга доўжылася іх адносна спакойнае жыццё. Калі 22 чэрвеня 1941 г. грымнула вайна, Вера Рыгораўна насіла пад сэрцам першынца. Тое, што адбылося вакол Беластока, потым атрымала назву "Беластоцкі кацёл". Кінуўшы ўсё і ўзяўшы толькі дакументы, пад покрывам ночы яны сыходзілі з горада. У плынях бежанцаў рухаліся на ўсход. Іх абагнала калона аўтобусаў. Бежанцы прасілі, каб іх падвезлі, некаму ўдалося патрапіць у гэтыя аўтобусы. Жах заключаўся ў тым, што ў гэтых аўтобусах ехалі пераапранутыя дыверсанты. Калону абстралялі нямецкія самалёты. Вера Рыгораўна атрымала асколачнае раненне, і Іван Лукіч нёс цяжарную жонку на руках.

Урэшце ім удалося дабрацца да вёскі Язвіна Уздзенскага раёна Менскай вобласці - радзімы Веры Рыгораўны. Іван Лукіч пакінуў параненую цяжарную жонку родным і на наступную раніцу сышоў ваяваць.

У гады акупацыі Ляцецкая была сябрам падпольнай арганізацыі, якая займалася зборам выведдадзеных. Часам яна брала на рукі маленькага сына, хавала ў пялёнкі сабраную інфармацыю і так, праз кардоны, пранасіла інфармацыю да партызанаў.

Да 1944 гг. Ляцецкі служыў тэхнікам у легендарнай эскадрыллі "Нармандыя-Нёман". Пра тое што ў яго нарадзіўся сын, ён даведаўся толькі пасля вызвалення Беларусі.

Пасля заканчэння вайны, Іван Лукіч забраў жонку і сына і з'ехаў да месца прызначэння, у Гародню. Прайшоў шлях ад следчага да пракурора міжраённай пракуратуры.

Вера Рыгораўна працавала ў школе выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. Яна была прыроджаным педагогам, урокі яе заўсёды былі вельмі цікавымі і змястоўнымі, яна заслужыла сапраўдную павагу як прафесіянал. Акрамя таго яна была аўтарам цудоўных вершаў.

**Былі мы сведкамі, сябравалі, нам Колас душу адкрываў**

Сёлета спаўняецца 120 год з дня нараджэння волатаў беларускай літаратуры, чые творы перакладзены на многія мовы свету, Янкі Купалы і Якуба Коласа. На дзяржаўным узроўні ідзе падрыхтоўка да гэтых двух юбілеяў, якія ў ліпені і верасні пройдуць не толькі ў Менску, але і на радзіме вялікіх класікаў у вёсцы Вязынка Маладзечанскага і Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёнаў.

Дарэчы, у нашым горадзе пражывае зямлячка Коласа Вера Ляцецкая, якая сама ўсё жыццё піша вершы, яны неаднойчы друкаваліся ў газеце "Уперад" (цяпер "Лідская газета"). Але самае цікавае, што ў гады далёкай маладосці яна не раз сустракалася з Якубам Коласам, які стаў яе "хрышчоным бацькам" не толькі на паэтычнай ніве. Але паслухаем, што ўспамінае аб

тых сустрэчах са сваім знакамітым земляком сама Вера Рыгораўна:

*“Якуб Колас не проста мой зямляк, але і настаўнік, дарадца, - не без гонару ўдакладняе мая суразмоўніца. Дзякуючы яму, яго творам я, перш за ўсё, стала выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры і з вялікім захапленнем працавала сорак гадоў на ніве роднай адукацыі. Я і сёння часта перакідваюся ў тыя далёкія трыццатыя гады, калі вучылася ў Менскім педагагічным інстытуце*[21]*, што знаходзіўся па вуліцы Савецкай, 144. Мы, студэнты, часта запрашалі Канстанціна Міхайлавіча да нас на заняткі літаратурнага гуртка, дзе ён дэкламаваў нам свае вершы. Ды як дэкламаваў! Усёй сваёй істотай, сэрцам. Але больш ён любіў слухаць нас, чым выступаць самому. Мы чыталі яму свае першыя літаратурныя творы. Ён уважліва слухаў нашы вершы, даваў мудрыя парады. Асабліва запомніліся яго словы адносна літгурткоўцаў: "Вядома, што не ўсе вы станеце паэтамі, празаікамі, але я веру, што на ўсё жыццё палюбіце свой край, народ, яго мову, літаратуру".*

*Я нарадзілася за тры кіламетры ад радзімы Якуба Коласа - вёскі Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. Я часта бываю ў родных мясцінах, часам сяджу на беразе Нёмана, слухаю гамонку векавых дубоў, шэпт нёманскіх хваляў, хаджу па тых лугавых, баравых сцежках, дзе калісьці хадзіў мой вялікі зямляк, і натхненне зноў прыходзіць да мяне:*

*Вітаю Коласа мясціны,*
*Туман над Нёманам, лясы,*
*І вас, грыбныя баравіны,*
*Дзе зацвітаюць верасы.*

*Вітаю гнёзды буславыя,*
*Над Нёманам у вышняку.*
*Дубы сівыя, векавыя*
*І гэту родную раку.*

*Вітаю белыя бярозы,*
*Што шэпчуць з яварам, вярбой,*
*І вас, наднёманскія лозы,*
*Якімі захапляўся Ён.*

*Вітаю сцежкі баравыя,*
*Што Юзік з Костусем таптаў,*
*І вас, дарогі лугавыя,*
*Якімі статак з поля гнаў.*

*Вітаю, ганаруся вамі,*
*Зайздрошчу нават моцна вам:*
*Былі вы сведкамі, сябрамі,*
*Вам Колас душу адкрываў.*

*Пакінуць вас не маю сілы.*
*І чую ціхі шэпат хваль:*
*"Мой родны кут, як ты мне мілы,*
*Як ты мне любы, родны край!"*

Нягледзячы на тое, што паэтцы Веры Ляцецкай у мінулым месяцы пайшоў 85 год, голас яе па-ранейшаму шчыры і ўзнёслы. Больш як сорак дзесяцігоддзяў, а дакладней, з таго часу, як мужа, пракурора, перавялі ў Ліду, пражывае яна ў нашым горадзе, дзе да самага выхаду на пенсію выкладала беларускую мову і літаратуру ў восьмай, а найбольш - у дзесятай школе. І не проста выкладала, а, як сцвярджаюць яе многія былыя вучні, на творах класікаў беларускай літаратуры Якуба Коласа і Янкі Купалы вучыла іх любіць сваю Радзіму, родны край, той куток, дзе яны нарадзіліся і выраслі.

***Т. ЧАРНАВУС.***

*(Лідская газета № 66-67(10490-10491), 4 мая 2002.)*

***Дыскатэка: улік перамен***

**НАШ ВОЛЬНЫ ЧАС**

Тры гады з жыцця дыскатэкі. Гэта многа ці мала? Мала, калі ўлічыць, што дыскатэчны рух толькі расце і развіваецца, многае ў ім да гэтага часу застаецца старым, праблематычным. Настойліва паўстае пытанне аб пошуках новых форм і метадаў работы маладзёжнага клуба. Многа, калі прыняць над увагу, што час станаўлення дыскатэкі Дома культуры прайшоў і назапашаны вялікі досвед у гэтым напрамку.

Дыскатэка сёння гэта не даніна модзе, гэта не толькі музыка і гутаркі аб ёй. Гэта перш за ўсё асаблівая атмасфера. Тут павінны быць і адпаведнае памяшканне, і афармленне, і святло. Але аснова ўсё ж такі - музыка.

Дыскатэка - гэта клуб, дзе могуць збірацца аднадумцы, якім добра быць разам, а свабода ад таго, што ўсе добра разумеюць адзін аднаго.

Ужо першыя пасяджэнні дыскатэкі прыцягнулі ўвагу моладзі, Сумненне, што жывая музыка лепш, бліжэй чалавеку, чым любы запіс нават вясёлых музыкантаў, што дыскатэка адводзіць ад жывой музыкі да механічнай і з'яўляецца працягам звычайнай танцавальнай пляцоўкі, не апраўдалася. Цяпер многія пераканаліся, што дыскатэка можа стаць тым самым месцам адпачынку, дзе кожны знаходзіць нешта для душы. Сёння, скажам, ідзе размова аб новым папулярным ансамблі, а заўтра - аб спеваку мінулых гадоў, паслязаўтра - аб праблемах развіцця музыкі і г. д.

Але якія б ні былі супрацьлеглыя думкі, зараз купіць білет на дыскатэку зусім не проста.

- Нас літаральна рвуць на часткі, - з усмешкай расказвае Валянцін Сідар. - Прыемна, што дыскатэка карыстаецца поспехам. Але, з другога боку, гэта да многага абавязвае: прыходзіцца працаваць без скідак, дасканала прадумваючы кожную праграму, шукаць і знаходзіць цікавыя рашэнні тэм, каб не ўдарыць тварам у гразь. Не сакрэт, што інфармацыйны голад у галіне сучаснай музыкі прымушае літаральна "лётаць"" па вобласці ў пошуках крытычных артыкулаў, перакладаў, публікацый замежнага друку. Другая праблема-

[21] Менскі педагагічны інстытут нацыянальных меншасцяў - *заўвага Ляцецкай Л.І.*

дыскі: пласцінкі замежных фірм у гандлі не з'яўляюцца, амаль не бывае на прылаўках і ліцэнзійных запісаў. Усе гэтыя праблемы прымушаюць шукаць кантакты з аматарамі музыкі, уладальнікамі ўласных фанатэк.

Тым не менш за тры гады кіраўнікі дыскатэкі пазнаёмілі слухачоў больш, чым з 2 тысячамі вядомых выканаўцаў, прадставілі на суд наведвальнікаў амаль 400 запісаў калекцыянераў замежнай эстрады. З вялікім поспехам, напрыклад, прайшлі тэматычныя вечары, прысвечаныя памяці французскага спевака Джо Дасэна, папулярнага англійскага кампазітара і выканаўцы, аднаго з удзельнікаў шырока вядомага ў мінулым, ансамбля "Бітлз" Джона Ленана. Добра прайшлі вечары, прысвечаныя Уладзіміру Высоцкаму, англійскай групе Пінк Флойд і іншым.

- Атмасфера на дыскатэцы самая таварыская, амаль хатняя: утульнае мігценне светамузыкі, маляўнічыя слайды. З такіх вечароў немагчыма выходзіць у дрэнным настроі, - расказвае Ганна Медушэўская, прадавец магазіна № 54. - Я вельмі люблю музыку і ўвесь тыдзень жыву чаканнем новага вечара.

А вось думка з гэтай нагоды Валерыя Харытоненкі, мастака-афарміцеля будаўнічага ўпраўлення № 103:

- Дыскатэка - гэта добрая разрадка пасля працоўнага тыдня, добры адпачынак, а галоўнае - карысны.

Тут не толькі можна адпачыць за столікам з таварышамі, абмеркаваць з імі тыя ці іншыя пытанні, паслухаць дыск-жакея, але і адзначыць урачыстыя даты, адсвяткаваць з сябрамі дзень нараджэння.

Вялікую дапамогу ў падрыхтоўцы і вядзенні праграм аказваюць вядучаму аператар Валянцін Ляцецкі, які многа займаецца, у прыватнасці, перакладам тэкстаў, загадчык музычнага фонду Яфім Палякоў,

Гаворачы пра дыскатэку, нельга абмінуць і тыя праблемы, якія застаюцца пакуль нявырашаныя. Так, не задавальняе нас у поўнай ступені памяшканне, і, у першую чаргу, з пункту гледжання акустыкі. Не на належным узроўні бывае чысціня сталоў, адсутнічаюць сурвэткі, не вызначаецца асартыментам буфет. Ёсць і яшчэ адзін важны бок пытання: размеркаванне білетаў. Здаралася, што на дыскатэку траплялі маладыя людзі, якія яўна не падрыхтаваныя да ўспрыняцця музыкі, з прабелам у маральна-эстэтычным выхаванні. Цікавасць такіх зводзіцца да аднаго: напіцца і "паказаць сябе". Цяпер мы вырашылі размяркоўваць білеты праз гарком камсамолу па прадпрыемствах.

І вось яшчэ што. Дыскатэка не можа далей заставацца на энтузіязме кіраўнікоў. Патрэбны добраахвотныя памочнікі, савет клуба. Сёння дыскатэка не магчыма без сувязі яе з творчымі работнікамі горада. Гэтага пакуль няма. Настаў час разнастаіць формы вечароў. Гэта могуць быць размова, гутарка, лекцыя, тэматычныя вечары з чытаннем вершаў, роздумам і спрэчкамі. Акрамя сучаснай савецкай і замежнай музыкі, абавязкова павінна гучаць і класіка. Бо, не сакрэт, што ўзровень прапаганды класічнай музыкі сярод насельніцтва застаецца нізкім.

Можна, безумоўна, спрачацца аб тым, якой быць дыскатэцы. Бясспрэчна ж адно: моладзь ахвотна ідзе сюды - значыць, ёсць у гэтым неабходнасць.

***У. МЕЛЯХАВЕЦ,***
*дырэктар гарадскога Дома культуры.*
*Уперад, № 3 (7015), 6 студзеня 1981.*

***У клубе "Мара"***

**ПА МЕСЦЫ ПРАЖЫВАННЯ**

Пры дзіцячым клубе "Мара", што размешчаны па вуліцы Перамогі, 13, працуюць гурткі фотасправы і радыёэлектронікі. Заняткі наведваюць 46 вучняў.

Ужо некалькі гадоў частку свайго вольнага часу аддае рабоце з дзецьмі галоўны механік хлебазавода Іосіф Станіслававіч Чарняк. За гэты час ён навучыў многіх падлеткаў асновам фотасправы. Вынікі іх плённай працы добра бачны на фотавыстаўках работ гуртκоўцаў. У мінулым месяцы быў праведзены фотаконкурс "Так мы жывём". Пераможцамі аказаліся Жэня Кумпяк, Саша Клачко, Андрэй Клачко, Сяргей Паноў.

Добра наведваюць заняткі Андрэй Аўсейчык. Аляксей Папоў, Слава Герасімовіч і іншыя. Шэфы з хлебазавода клапоцяцца аб забеспячэнні неабходнымі матэрыяламі для работы гуртка.

Першы год працуе гурток радыёэлектронікі, кіруе якім Валянцін Іванавіч Ляцецкі. Ён сам добра ведае радыёсправу і сваё майстэрства перадае дзецям. Падлеткі, якія займаюцца ў гуртку, вучацца збіраць прыёмнікі, светламузычныя канструкцыі, гукавыя генератары, імітатары галасоў птушак і жывёлін. Асабліва захапляюцца гэтай справай Віктар Міцкевіч, Слава Гузоўскі, Сяргей Паноў, Сяргей Урублеўскі.

Дзеці малодшага ўзросту вучацца іграць у шашкі (кіраўнік Р. Краўцова), а таксама наведваюць гурток "Юны натураліст", арганізаваны пры станцыі юнатаў. ...

У мікраараёне працуе школа юнага прававеда. Заняткі наведваюць у асноўным вучні СШ № 3. Наладжваюцца сустрэчы з членамі інспекцыі па справах непаўналетніх, работнікамі міліцыі і суда, прагляд і абмеркаванне кіначасопісаў на прававую тэматыку. Вядзецца індывідуальная работа з падлеткамі, дзейнічаюць бацькоўскі патруль, музычны лекторый "У свеце цудоўнага". Такая сумесная работа школы, пазашкольнай установы і грамадскасці дае плённы вынік. У мікраараёне СШ № 3 з тых вучняў, што займаюцца ў школе, толькі адзін, знаходзіцца на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх.

Не затухае і спартыўная работа. Зімой кожны год абсталёўваецца хакейная пляцоўка. Дзеці ўдзельнічаюць у гарадскіх спаборніцтвах на прыз клуба "Залатая шайба", а таксама ў абласных. У лютым падлеткі старэйшага ўзросту сустракаліся з хакеістамі г. Слоніма ды Гарадзенскага раёна і занялі другія месцы. На базе спартзалы СШ № 4 трэніруюцца юныя баскетбалісты. Любяць дзеці секцыю настольнага тэнісу, што ў дзіцячым клубе "Мара".

Але ў спартыўнай рабоце ёсць і недахопы. Ні адна жыллёва-эксплуатацыйная служба не мае ў якасці

памочнікаў спартыўных спецыялістаў, спартыўная работа праводзіцца разрознена.

За працяглы час работы з дзецьмі і падлеткамі па месцы жыхарства я зразумела, што толькі ў саюзе з настаўнікамі школ, грамадскімі арганізацыямі і ўстановамі, жыхарамі мікраараёна можна дабіцца поспеху ў выхаванні падрастаючага пакалення.

***Г. СУХОЦКАЯ,***
*педагог-арганізатар ЖЭС-1.*
*Уперад, № 48 (7882), аўторак, 25 сакавіка 1986.*

***Чытач працягвае размову***

**ЧАМУ МАРКОТНА МОЛАДЗІ?**

Я - не "металіст". Мне ўжо за трыццаць. Але мяне даўно трывожыць пытанне: чаму ў нашым горадзе так сумна моладзі? І калі пэўная частка яе сама знайшла сабе захапленне - "метал", дык, чаму такія адносіны да яго?

На мой погляд, многія напрамкі сучаснай масавай культуры, у тым ліку і "метал", самі па сабе не маюць пэўнай палітычнай афарбоўкі. ... Дык чаму мы не можам выкарыстаць тую яе частку, якая не пагражае нашай маралі, нашаму ладу жыцця?

Моладзь заўжды шукала і шукае сугучную яе настрою і тэмпу жыцця музыку, яна жадае быць арыгінальнай у адзенні, у манерах паводзін. І калі дарослым што-небудзь не падабаецца, дык не трэба заўсёды кідаць камяні ў агарод маладых, ставіць ім усё ў віну. Ім, малавопытным у жыцці, проста не хапае агульнай культуры і добрага густу. Маладыя яшчэ не выпрацавалі крытэрыяў у ацэнцы той ці іншай з'явы масавай культуры.

Дзе і як фарміруецца сфера культурных густаў у асноўнай частцы лідскай моладзі? Дома? Далёка не ва ўсіх ёсць такая магчымасць. У школе? Вельмі спрэчна. На дыскатэках горада гучыць музыка "для ног". У кінатэатрах горада ідуць пераважна "касавыя" фільмы - ці то айчынныя, ці знятыя за мяжой. У бібліятэках вельмі цяжка знайсці якасны і абгрунтаваны матэрыял у неабходным памеры.

Што датычыць музычнага густу, то раней ролю інфарматара і выхаваценя часткова выконваў рок-клуб. Яго наведвальнікі мелі магчымасць паслухаць музыку любога стылю, паспрачацца. Як гэта ні сумна, усяго некалькі гадоў прайшло, як клуб перастаў існаваць толькі з той прычыны, што некаму (не з ліку стваральнікаў) было вельмі турботна за яго адказваць. Але ці не пара зноў адкрыць у горадзе што-небудзь накшталт таго аматарскага аб'яднання? Магчыма, тады не будзе так востра стаяць праблема "металістаў", "хвалевікоў", "рокераў" і г.д.

Канешне, адным рок-клубам усе дзіркі ў рабоце з моладдзю не закрыеш. Міжволі напрошваюцца думкі, што гэта праблема не столькі "металістаў" і "рокераў", колькі тых асоб, у чые абавязкі ўваходзіць ідэалагічнае выхаванне моладзі, хто адказвае за культурныя ўстановы горада.

Бо ў жыцці так атрымліваецца, што гэтыя дарослыя часта звяртаюць увагу на моладзь толькі ў пэўных сітуацыях. Пачуюць шум бойкі на вуліцы ці ўбачаць на юнаку скуранку з заклёпкамі і тады з абурэннем кажуць: "А няхай бы ім спрахнуць, гэтым металістам! І куды глядзіць міліцыя?"

***В. ЛЯЦЕЦКІ,***
*жыхар г. Ліды.*
*Уперад, № 193 (8231), 5 снежня 1987.*

**Некралог**

**Памяці сябра**

11 верасня 1996 года на 45-м годзе жыцця пасля доўгай хваробы **памёр ЛЯЦЕЦКІ Валянцін Іванавіч.**

Пайшоў з жыцця прыгожы, паважаны ўсімі чалавек.

Нарадзіўся Ляцецкі Валянцін Іванавіч 8 чэрвеня 1952 года ў г. Шчучыне. У 1963 годзе разам з бацькамі пераехаў у г. Ліду. Скончыў сярэднюю школу № 8. Цяжкая хвароба, якая з дзяцінства перашкаджала Валянціну свабодна рухацца, не спыніла яго актыўнае, напружанае жыццё. Скончыўшы курсы тэлерадыёмайстроў, ён выдатна разбіраўся ў радыёапаратуры. Вучыўся ў інстытуце культуры, быў удзельнікам рок-гурта, дыскжэем, рэжысёрам відэакафэ, узначальваў кааператыў. Актыўнае стаўленне да жыцця заўсёды вызначала Валянціна, вабіла да яго самых розных людзей, якія прыходзілі да яго па параду і падтрымку. Нечаканая смерць забрала ад нас моцнага, разумнага, сардэчнага чалавека. Светлая памяць аб Ляцецкім Валянціне Іванавічы назаўсёды застанецца ў памяці і сэрцах усіх, хто ведаў яго.

**Сябры, знаёмыя, аднакласнікі.**

***Некралог у "Лідскай газеце", № 77 (9573), 25 верасня***

**Памяці сябра**

11 верасня 1996 года на 45-м годзе жыцця пасля доўгай хваробы памёр ЛЯЦЕЦКІ Валянцін Іванавіч.

Пайшоў з жыцця прыгожы, паважаны ўсімі чалавек.

Нарадзіўся Ляцецкі Валянцін Іванавіч 8 чэрвеня 1952 года ў г. Шчучыне. У 1963 годзе разам з бацькамі пераехаў у г. Ліду. Скончыў сярэднюю школу № 8. Цяжкая хвароба, якая з дзяцінства перашкаджала Валянціну свабодна рухацца, не спыніла яго актыўнае, напружанае жыццё. Скончыўшы курсы тэлерадыёмайстроў, ён выдатна разбіраўся ў радыёапаратуры. Вучыўся ў інстытуце культуры, быў удзельнікам рок-гурта, дыск-жакеем, рэжысёрам відэакафэ, узначальваў кааператыў. Актыўнае стаўленне да жыцця заўсёды вызначала Валянціна, вабіла да яго самых розных людзей, якія прыходзілі да яго па параду і падтрымку. Нечаканая смерць забрала ад нас моцнага, разумнага, сардэчнага чалавека.

Светлая памяць аб Ляцецкім Валянціне Іванавічы назаўсёды застанецца ў памяці і сэрцах усіх, хто ведаў яго.

***Сябры, знаёмыя, аднакласнікі.***
*"Лідская газета", 77 (9573), 25 верасня.*

**Ежы Путрамант**

# ПАЎВЕКУ

## Вайна*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Дарога ў Уфу**

Ранак. Зноў Фастаў. Едзем акольнай дарогай, цераз Крамянчуг. Пэўна, масты на Дняпры забітыя. Вайсковыя цягнікі. Кабеты неспакойна пазіраюць у неба. Доўгая стаянка.

Нарэшце рушым на паўднёвы ўсход. Цягнік ідзе павольна, часта спыняецца ў полі. Частыя вайсковыя цягнікі: вагон, трыццаць платформ з грузавікамі, гарматамі, танкамі, пару "цяплушак" з салдатамі, зенітныя кулямёты.

Паварочваем на ўсход - адтуль што хвілю нас мінаюць. Салдаты маладыя, усмешліва махаюць нам рукамі. Стаю каля акна: палі амаль даспелай пшаніцы, вёскі з садамі, рэчкі ў абдымках вольхаў. Прыгожы край, Украіна. Зразумеў гэта цалкам ужо праз пару дзён.

Вечарам мінаем Днепр. Палтава ноччу. У поўдзень даязджаем да Харкава. Вялікі фабрычны горад. Вакол велізарныя плантацыі яблынь, канца ім не відаць.

Рушым далей. У Капянску хоча выйсці адна мілая, хоць брыдкая дзяўчына, студэнтка фізкультуры. Але цягнік не спыняецца. Мінаем горад на хуткасці. Дзяўчына скача, падае, кідаем за ёй яе клункі. Нічога, устае...

Наступны дзень. Уязджаем у задонскія стэпы. Вялікая станцыя Паворына. Бягу ў горад, каб што здабыць паесці.

Шырокая небрукаваная вуліца. Старыя, драўляныя, пакрыўленыя дамкі. Пыл, гарачыня, пустэча. Ані дрэўца! Які кантраст з Украінай.

Стэпы і стэпы. Вечар, блакітна-зялёныя агні семафораў, цягнік імчыць, адразу выскаквае чырвонае. Рцішчава, велізарная станцыя - ужо асветленая! Дабраліся да краю, дзе няма зацямнення. Глыбокі тыл.

Кепска з ядою. На станцыях трэба доўга чакаць, каб што дастаць. Пачынаем купляць крабаў у кансервах - адзінае, чаго поўна ўсюды. Пенза, пыл. За ёй зноў тут і там лясы. Падарожжа працягваецца, і няма яму канца. Падобна, што едзем у Куйбышаў.

Набліжаемся да Волгі. Пад Сызранню доўга чакалі на ўезд. Поле, месяц. Вылажу з цягніка, кладуся на траве, гляджу на зоркі. Санлівасць. Ноч цёплая. Пачынаю драмаць. Крык, зрываюся, імчуся да цягніка.

Доўга стаім на кожным паўстанку - столькі вайсковых цягнікоў імчыць нам насустрач. Чакаем Волгі. Не вытрымліваю, нарэшце засынаю. Хутка будзяць: "Волга!" Падымаю галаву, разагрэтая да белізны вада, сонца, вочы баляць, засынаю.

Усе пачынаюць упакоўвацца - аж тут вестка: Куйбышаў нас не прымае. Мінаем на хуткасці вялікі горад. Станцыя Кінель - адгэтуль шмат назваў, вядомых мне з "Чапаева".

Лясы і вёскі, без адзінага дрэўца. Шэрыя кучкі дамоў. З'явіліся першыя пагоркі. Нейкая рэчка прыблыталася да чыгункі і доўга круціцца пад нагамі, уся ў вербах і лазе.

З раніцы Уфа. З'явілася новая, большая рака - Белая. Горад на абрывістым беразе маляўніча размешчаны, хоць перш за ўсё домікі драўляныя.

Абходжу горад. Уціснуты ў вузкую паўвыспу з трох з паловай бакоў аточаны рэкамі. Цудоўныя віды: абрыў, унізе рака, а далей, як вокам сягнуць, цёмна-гранатовыя лясы.

Вуліцы, як на шахматнай дошцы, прамыя і доўгія. Драўляныя дамкі на прадмесці такія старыя і малыя, што трамваі пры іх здаюцца дзікім анахранізмам. Потым то адзін, то другі мураваны дом. Потым цэнтр - вялікі гмах "Башсаюзу", "Саўнаркаму", тэатр, сквер.

Шмат розных паркаў, выдатна размешчаных, на жаль, псуюць іх пачварныя статуі з гіпсу, велізарныя партрэты членаў Палітбюро і стэнды з фатаграфіямі герояў працы.

Ідуць перамовы: мясцовыя ўлады хочуць нас пхаць далей. Прыбыў сюды ўжо першы транспарт украінскіх пісьменнікаў, лічаць, што мы можам хутчэй быць у нейкім іншым месцы. Нарэшце пакідаюць і нас. Размясціліся ў клубе чыгуначнікаў, спім на падлозе.

У будцы прадае квас нейкая старaватая яўрэйка. Пачула нас і загаварыла ламанай жудаснай пальшчызнай. Аказваецца, толькі ў 39 годзе прыехала сюды з Вільні і ўжо амаль забыла мову..

У нядзелю забава ў гарадскім парку. Вялікая алея, асветленая ліхтарамі. Ходзяць тут хлопцы і дзяўчаты, займаюцца вельмі нявінным фліртам. Недзе танчаць, але там вялікая цесната. Яшчэ недзе гушканка. У цёмных алеях спацыруюць пары ўжо падабраныя. Асобна веранда: тут паважна і сур'ёзна змагаюцца мясцовыя шахматысты.

На рынку вазы з нечым у выглядзе сечкі. Аказваецца, што гэта "самасад", дамашняя махорка. Праз пару месяцаў як будзе мне яе бракаваць! Цяпер праходжу міма не без пагарды.

Гразь тут нязвыклая. Слабы дождж змяняе зямлю ў ліпкую, глiністую мазь. "Палац культуры", у якім мы жывём, вельмі прыгожы, толькі што туалеты

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. "POL WIEKU. Wojna."** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

не працуюць. Арганізавалі буфет. Я нават ложка дастаў, хоць бе сянніка.

А так усю нашую энергію занялі дзве справы, якія былі паміж сабой у стане ідэальнага дыялектычнага ўзаемавыключэння: застацца ў Уфе ці “прапісацца” (зарэгістравацца) і выезд з Уфы.

Справа ў тым, што нас хочуць выслаць у раёны. Не скажу, меў бы нават ахвоту пабачыць нейкую тутэйшую Ліду і ў ёй пажыць. Але ўсе навокал лічаць гэта за найбольшае з няшчасцяў. Таму перажываю разам з іншымі штодзённыя мукі: высылаюць далей, ці не.

Мясцовы Саюз пісьменнікаў выразна нас ігнаруе. Мы не здзіўляемся: наехала сюды столькі кіеўскіх “ардэнаносцаў”, што няма часу на нейкіх там са звычайнага абласнога горада. Таму нічым нам не дапамагае ў справе “прапіскі”. Звальвае гэта на саўнаркам, які таксама не хоча займацца.

Я ўжо пагадзіўся з выездам у раён, калі Галан зрабіў уражвальнае адкрыццё. Знайшоў нейкую халупку, дамовіўся з гаспадыняй - і ўжо яго зарэгістравалі! Аказваецца, не трэба ніякага дазволу, дастаткова знайсці пакой.

Іду ў Саюз пісьменнікаў. Сядзіць там стараватая жанчына, худая, даўганосая, з бляклымі вачыма. Аказваецца полька і нават завецца Ванда. Ідзём з ёй у “жылкіраванне”, атрымоўваю ордэр і ўсяляюся.

Жыла яна ў драўляным доміку недалёка ад абрывістага берага Белай. З дому называлася Ясінскай. Недзе ў 1915 годзе выехала з Варшавы падчас першай вайны, выйшла тут замуж, аўдавела. Радая, што напаткала земляка, цэлы час гаварыла. Дэкламавала вершыкі, спявала песенькі. Балбес, не запісаў нічога, а гэта ж былі скарбы варшаўскага фальклору.

Што хвілю выгуквала: “Святы Яцак з пірагамі”, - і клалася ад смеху. Не ведаю, што ў тым поклічы выклікала ў яе ўраганны смех.

Адразу ўзрушаны, я досыць хутка страціў цярпенне. Пра ніякую працу не магло тут быць і мовы. З раніцы выбягаў з дому як найраней. Блытаўся па горадзе, пастаянна думаючы: што далей?

Вайна ішла, тут яшчэ амаль нячутная. Трэба было нешта рабіць. Вывучыў адно: трэба самому ведаць, што рабіць. У той момант не было ў вялікай Краіне Саветаў ні адной інстанцыі, якая магла б паклапаціцца пра як мага больш карыснае выкарыстанне польскага пісьменніка ў жудаснай вайне, якая якраз разгаралася.

Што далей - вырашыў тое выпадак. На другі дзень пасля прыезду мы паслалі Усіевіч дэпешу, просячы ганарары з бягучых нумароў “Новых гарызонтаў”. Грошы прыйшлі бліскавічна. Разахвочаны дэпешаваў паўторна, скардзячыся, што башкіры хочуць выслаць нас у раёны. І зноў прыйшла дэпеша ў Саюз пісьменнікаў Башкірыі, каб нас пакінулі ў Уфе. Але гэта якраз моцна раззлавала башкіраў: што Масква ўмешваецца ў іхнія справы. За малым нас не выслалі менавіта за гэта.

Не моцна верачы, каб нешта з таго выйшла, даў трэцюю дэпешу: каб нас выклікаць у Маскву, на працу. Якраз закончыў рэгістрацыю ў ваенкамаце, як убег Галан:

- Ідзі хутчэй у Саюз, маеш дэпешу!

Была ад Усіевіч. Гучала няясна: “У вашай справе робяцца старанні. Чакайце на выклік абкама”. Я быў блізкі да шчасця, калі аказалася, што Слабоднік і Пастарнак атрымалі таксама дэпешы - і ад самога Фадзеева, які папросту выклікае іх у Маскву.

Страшна ўражаны, чаму тых так, а мяне гэтак, праявіў дзікую актыўнасць. У абкаме ведалі пра дэпешы і звярнулі ўвагу на розніцу зместу, але адзін сакратар перадае тую справу іншаму, якога ўдаецца пераканаць. Ідзём у палітаддзел чыгункі. Тут прынялі нас вельмі добра, бліскавічна залатвілі білеты, далі паёк на цягнік - толькі ехаць.

Не вядома чаго, зайшлі аднак яшчэ раз у Саюз пісьменнікаў. Тут спрабавалі ўсё сапсаваць, уталкоўваючы мне, што я не маю фармальнага выкліку, што не маю права... Панч таксама адгаворвае - што высадзяць на якой-небудзь маленькай станцыі, бо ў Маскву нікога не пускаюць... Словам надалі мне на ўсю дарогу моцнага страху, дрыжаў на від кожнага мундзіра.

Дадам, што абодва бакі мелі рацыю. Фактычна я, бо аж да Масквы ніхто мяне нідзе пра выклік не запытаў. Фармальна - яны, бо сапраўды ніхто мяне ў Маскву не выклікаў...

Здаецца справа была так: Усіевіч накруціла Фадзеева, каб тых палякаў адправіць. Але аж трох за шмат. Фадзееў праглядае прозвішчы. Вядома, што ў палякаў з тымі пісьменнікамі... Пастарнак, Слабоднік - гучыць гэта па-польску, славянску і па-народнаму. Путрамант жа... нейкая ў тым чужаніца, ці не што нямецкае?

Словам, паехаў у Маскву на дурніцу.

**Дарога ў Маскву**

Ехалі ўпяцярых: абедзве пані таксама ўперліся.

Першыя суткі правялі ў дасканалых настроях: у Маскву, нарэшце да работы! Пра вайну нічога пэўнага. Фронт недзе пад Смаленскам.

Выехалі 21 ліпеня. 22 былі ў Куйбышаве. Тут першыя весткі: на Маскву быў налёт! Не скажу, падзейнічала гэта на некаторых выключна ахаладжвальна.

Адтуль, што станцыя, то новыя дэталі. “Праўда” з камюніке пра налёт. Уязджаем назад у зацямненне. Зрэшты, за дзесяць дзён цемната, здаецца, зрабіла дальшы крок на ўсход.

Пачынаем сустракаць транспарты бежанцаў з Масквы. Акадэмія навук, нейкія павозкі, звыклыя бабы. Распавядаюць. У наступную ноч зноў бамбілі Маскву, яшчэ мацней. ”Тут разбіта, там згарэла...” Падобна, асабліва пацярпеў Арбат.

Слабоднік аж схуднеў ад тых чутак. Жанчыны трымаліся лепей. А я быў пэўны, што Маскву даўно бамбілі, але пра гэта не пісалі ў газетах. Можа таму тыя весткі на мяне не дзейнічалі. Быў да гэтага падрыхтаваны выязджаючы.

За Куйбышавым паварочваем на паўночны ўсход. Інза, Рузаеўская, Мардоўская АССР. Лясы. Да цягніка ходзяць жанчыны і дзеці з ягадамі. Але з ядою горш. На паўстанку хлопец з трыма яйкамі. Не прадае, мяняе - і то толькі на хлеб. Я здзіўлены, у маўчанні разбіраю розныя гіпотэзы - адкуль тая адсутнасць

хлеба на вёсцы.

Камары, лясы, падмоклыя, невялікія лугі, зноў лясы. Едзем досыць хутка. “Праўда” спазняецца ўжо толькі на тры, на два дні. Апошнія суткі найхутчэйшыя. Рака Ака, палі і сады. Вёскі ў яблынях, як на Украіне. Вечар. У Разані пусты вакзал. Выбягаю на прывакзальную плошчу. Абадраныя камянічкі, вытаптаныя скверы, мноства жаўнераў, і “нічога няма”.

Ноч прыходзіць пад Каломнай. Вагон грукоча на стрэлках - тут ужо вялікі маскоўскі вузел. Падобна, на Маскву налёт.

Выглядваю праз акно ў тамбуры. Далёкія бляскі. Танюткія рэфлектары павольна лазяць па небе. Вячэрняя зара вандруе цераз поўнач на ўсход. У зяніце распырскваюцца знаёмыя чырвоныя іскаркі. Рэйкі цёмныя, толькі сям-там нізка над зямлёю блакітныя, зацененыя агенчыкі.

**Масква, першая раніца**

Цягнік імчыць. Але прыязджаем толькі на світанні. Трывога працягваецца. Нас выpraваджваюць на перон. Яшчэ там і сям рэфлектары на фоне яснеўшага неба. Нейкая цёмная кучка ў тым небе. Загароджвальны аэрастат. У Кіеве я таксама бачыў адзін такі.

Сыходзім у метро. Вузкая сцежка ў прасторным, шырокім тунелі: па абодва бакі ляжаць людзі. Спяць адзін пры адным, душна, тыя раскінутыя рукі, падкурчаныя ногі, адкрытыя раты і шкляныя вочы... Уражвае гэты натоўп спячых людзей, столькі ў ім нежывога. Доўга ідзём, выходзім на перон станцыі метро, усюды тое самае. Знайходзім кавалак вольнай падлогі, кладзёмся. Жудасна горача.

Толькі па пятай гадзіне адбой трывогі. Выходзім.

Захапляльна прыгожы, свежы ранак. Сонца яшчэ не ўзышло. Камсамольская плошча вялікая і чыстая. Высокія дамы. Уражанне вялікага горада.

Штурмуем першы трамвай. Слабоднік уцягвае за сабой жудасна цяжкі чамадан. Едзем да Усіевіч. Трохі баімся. Пятая раніцы, з такім натоўпам...

Адразу за плошчай заканчваецца Масква вялікагарадская. Уязджаем у вузкія вулачкі двухпавярховых камянічак і аднапавярховых драўляных домікаў. Трамвай у тым атачэнні падаецца перабольшваннем, як у Уфе. Але потым ізноў выплываем на “шырокія воды”. Вялікія дамы, нейкі тэатр. Плошча. Праз хвілю бачым у праёме папярочнай вуліцы нешта, што ўзрушвае, што ведаем з тысяч малюнкаў: чырвоная цагляная вежа, Крэмль.

Нідзе не паварочваем. Вялікі, прыгожы мост цераз невялікую, але ўрэгуляваную раку. Адразу за ім шэрая, вуглаватая глыба “Дома Ураду”. Тут жыве Усіевіч.

Некалькі брам. Трынаццаць паверхаў. Ідзём на разведку, пакінуўшы Слабодніка з рэчамі і жанчынамі.

Усіевіч жыве на першым паверсе. Але хворая, толькі што легла пасля трывогі. Не ўтрымліваюся ад дурнога жарту і кажу Слабодніку, што Усіевіч жыве на адзінаццатым паверсе, а ліфт не працуе. Слабоднік з глухім енкам тарабаніць свой чамадан на плячах. Рушым. Заводжу ўсіх у дом. Калі Слабоднік арыентуецца, што не мусіць лезці на адзінаццаты паверх, чамадан у яго сам падае на падлогу. Роспач: меліся быць ціхімі, каб не будзіць Усіевіч...

Адчыняюцца дзверы, уваходзіць жанчына, старэйшая за Усіевіч са Львова на дзесяць гадоў. Бачыць нас цэлаю грамадою, заломвае рукі:

- Ну і што нам з вамі рабіць?

**Два каментары**

Тут заканчваюцца нататкі, робленыя “на гарача” ў 1941 годзе. З іх дасканала відаць, што тыя гістарычныя часы я аглядаў з пазіцыі вельмі асаблівай: чалавека, які ўцякае. У Львове разам з выбухам вайны я перажыў моцны стрэс: нікому не быў патрэбны. Не адразу зразумеў, што збегліся там прычыны, сказаў бы, нетыповыя: слабае мясцовае кіраўніцтва плюс адсутнасць Дзесняка і раптоўная смерць Тудора і Гаўрылюка. Ведаў адно: у немцаў не застануся ні за якія скарбы. Таму, калі пачуў, што на фронце нешта трашчыць, не аглядваўся ўжо ні на кога, разлічваў на ўласныя ногі.

Дзіўная была дваістасць маіх уражанняў ад перамеранага амаль Савецкага Саюза. Сам факт, што я ўцякаў, акрэсліваў асяроддзе, з якім я меў дачыненне. Жудасныя бабы, з клункамі і посудам, чыноўнікі, людзі, як я, з уражаннямі першых дзён вайны. Асяроддзе нецікавае, якое часам нават адпіхвала.

Вельмі лёгка было абагуліць тое, што бачыў падчас уцёкаў, на ўвесь Савецкі Саюз. Людзі незычлівыя звычайна так і рабілі - напр. усялякага роду андарсаўцы. Таму такой нечаканасцю для іх была параза немцаў пад Масквой і ўвесь далейшы ход вайны. На падставе ўласнага досведу перш за ўсё набраліся перакананння, што “гэта ўсё” павінна разваліцца за пару тыдняў.

Часта так было і з людзьмі аж занадта зычлівымі. Круцячыся толькі ў такім эвакуацыйна-чыноўніцкім асяроддзі і яны надзвычай хутка абагульнялі свой нерадасны досвед. Некаторыя ламаліся. Іншыя набіраліся крыўды або цынізму адносна ўласных перакананняў і працы, якую яны рабілі.

Мушу прызнацца, са мной бывала падобнае. Першыя ўцёкі паказалі мне Савецкі Саюз з боку перш за ўсё кухонных сходаў.

Але хвілямі сутыкаўся таксама з іншым светам. Той высакародны дзяжурны лейтэнант у Жмерынцы. Салдаты з транспартаў, якія ішлі на фронт: светлыя і дабразычлівыя, маладыя, нейкія чыстыя і простыя. Дзяўчаты, з якімі ехаў да Кіева. Няцяжка падагуліць: тое прыкрае - гэта былі праявы (скажам афіцыйна “перажыткі”) найжудаснага мяшчанства. Найжудаснага, бо спароджанага на фоне недахопу розных тагачасных даброт, што ў адпаведных умовах спарадзіла ў душах людзей слабых і заражаных тымі “дэфіцытнымі” дабротамі непераможнае (у слабых і паскудных людзей) жаданне пакарыстацца з тых даброт у першых шэрагах. Паўставала з’ява “блату”. Як грозна навучыў нас прыклад Адамовіча. Каб з ім змагацца, трэба было мець моцную апору, галоўнае на версе. Іначай, ба... .

Але адначасова бачыў высакародны народ, просты, цярплівы, вытрыманы, у натуры сваёй добры і зычлівы. Бачыў там і сям дасканалых кіраўнікоў. Пазней сустракаўся з імі часцей. Дастаткова часта, каб пазбегнуць абагульнення: масы добрыя, правадыры нікчэмныя.

Праблема “культу асобы” і ўсіх параджэнняў, з яго выніклых, з прыроды рэчаў яшчэ больш абцяжарыла правільную ацэнку рэчаіснасці, асабліва той ценевай. Перш за ўсё патрабавалася ў той час ад чалавека ў маім становішчы глабальнай, цэльнай ацэнкі таго ўсяго, што савецкае, разам з 37 годам. Былі такія, якія вымагалі нават не разам з 37 годам, а з тым годам “на чале”. Калі сёння нехта кажа, што не прымаў тых страшных “чыстак”, то альбо лжэ, альбо хаваў тое сваё пярэчанне, хаваў вельмі глыбока, на самым дне сваёй душы, нікому не давяраючы, нават найбліжэйшым.

Няпраўдай было б таксама адмаўленне велізарнай ролі, якую Сталін адыгрываў тады ў свядомасці людзей. Той ранак у Кіеве, яго прамова, рэакцыя на яе ўсіх слухачоў надзвычай яскрава стаяць мне ў вачах, каб не мець у тым найменшага сумненння.

Сталін выступаў рэдка, гаварыў коратка. У кожнай прамове стараўся даць адну-дзве фразы, лёгкія для запамінання. Людзі іх хапалі, паўтаралі, стараліся на іх абаперці сваю надзею. Думаю, што гэтую складаную і дваістую ролю Сталіна ў гэты час досыць добра апісаў Твардоўскі.

Ідучы з хваляй адступлення, я вельмі мала меў дачынення з тым, што ў Савецкім Саюзе было найлепшае, што мела вырашальнае значэнне для яго перамогі. Таму перш за ўсё, што нідзе не працаваў, не ўваходзіў - акрамя пары дзён у Цярнопалі - у ніякі калектыў, не меў ніякай работы.

Як сабе прыпамінаю, я правёў той першы месяц вайны ў дзіўным настроі. Усё вакол падавалася мне нейкім нерэальным. Я быў вясёлым, спяваў, удаваліся мне жарты. Страшная вайна выкінула мяне з усталяванага жыццёвага ўкладу. Я адказваў толькі за сябе. напэўна гэта парадзіла ўва мне сваеасаблівую бестурботнасць, вельмі, зрэшты, няўмесную ў тых акалічнасцях.

Гэта адзін каментар. Другі вельмі канкрэтны. Вяртаюся ў часы амаль гістарычныя, большасць герояў сучаснасці часта жыве ў дасканалых умовах. Я да таго часу ўсіх называў па прозвішчах. Адсюль некаторыя пяройдуць на псеўданімы: хачу прамаўчаць прозвішчы герояў, але не іх учынкі. Стараюся сапраўды апавядаць пра сябе з максімальнай шчырасцю, пазбягаючы галоўным чынам пахвальбы ў свой уласны адрас, але не маю права вымагаць гэтага ад іншых, хоць бы таму, што адносна сябе самога заўсёды чалавеку лягчэй быць паблажлівым, асабліва ў крытычныя хвілі.

Не дзівіцеся таму, калі знянацку з’явіцца нейкая постаць з незнаёмым прозвішчам, перадгісторыі якой падаваць ужо не буду; значыць гэта, што на сцэну выйшаў нейкі мой даўні знаёмы, пра якога перад тым гаварыў па імені, аднак чыю далейшую дзейнасць трэба было б узгадняць з гісторыяй або, прынамсі, з яе лепшымі знаўцамі.

**Першае ўражанне**

Роспачлівая рэакцыя Усіевіч на наш выгляд выцяла мяне, як абухам. Ехалі сюды, перакананыя, што мы патрэбныя, што нарэшце ў той завірусе на нешта прыдамося. А тут ...

Затым аднак высветлілася, што Усіевіч да рэшты вычарпана. Адтуль яе першая ацэнка нашай прыдатнасці хутчэй смутная. Потым настрой трохі папраўляецца, лічы, што ва ўсіх.

Усіевіч пачынае тэлефанаваць. Пасля паўгадзіны выкрыквання ў слухаўку: “Прыехалі палякі... колькі? Трое. Што за многа? Але, каб вы ўбачылі, што гэта за хлопцы!” - усё, здаецца, праяснілася. Ідзём у Саюз пісьменнікаў.

Ідзём цераз Маскву. Цяпер бачу яе зблізку. Уражвальная мешаніна трох элементаў.

Найперш - бо з такога выходзім - гіганты амаль у кубічным стылі, у родзе “Дома Ураду”. Шэрая, цёмная маса карпусоў. Кінатэатр - таксама такі шасціцсен. Мост цераз раку Маскву. Дакладна на другім беразе, насупраць “урадоўца” - рыштаванні. Тут мае паўстаць Палац саветаў з гіганцкай статуяй Леніна на вяршыні.

Дадамо адразу: не паўстаў, раздумаліся. Атачэнне вельмі звычайнае: цагляныя, некалькіпавярховыя камянічкі, памаляваныя на жоўта.

Гэтага “амаль кубізму” ў Маскве не шмат. Дзенідзе два дамы паводле Ле Карбус’е. Брыдкія. Ці з ранняй яго эпохі, ці атачэнне не дапасавана, досыць, што ўсе гэтыя помнікі (бо яшчэ не артэфакты) кубізму ці канструктывізму дзіўна не пераконваюць. Амаль разумею, чаму пакінулі тыя старыя квадраты і ўзяліся за наступнае перабольшванне: псеўдаампір вуліцы Горкага. Чаму псеўдаампір? Бо шмат сапраўднага. Гэта найпрыгажэйшая частка сучаснай Масквы. Блукаеш завулкамі, поўнымі старых драўляных дамкоў і вельмі старых правінцыйных камянічак, як раптам краты і праз трыццаць метраў у глыбіні ампіравы палацык, двухпавярховы пасярэдзіне, з дзвюма аднапавярховымі афіцынамі, якія выцягваюцца аж да вуліцы.

Якраз у такім палацыку ці хутчэй дворыку размяшчаўся Саюз савецкіх пісьменнікаў, яго даўнія ўладальнікі называліся графы Салагубавы. Гэта гэты дом стаўся першаўзорам палаца Растовых з “Вайны і міру”. Побач другі графскі будынак, але без стылю: даўні дом Алсуф’евых, у якім размяшчалася масонская ложа. Цяпер тут Клуб пісьменнікаў, зала збораў, бібліятэка, сталоўка.

Некаторыя з тых маскоўскіх “юрыдык”, будаваных дваранамі пасля маскоўскага пажару, досыць запушчаныя. Гэты літарацкі будынак утрымоўваецца добра. Толькі пасярод велізарнай клумбы, поўнай пахучага тытуню і матыёлі, жаўцее насып супрацьбомбавага рова.

Залагоджваем уступныя фармальнасці. Дамаўляемся на прыём да Фадзеева. У клубе ямо дасканалы абед. Дзённы налёт. Некаторыя яшчэ мацней змрачнеюць. Але налёт не грозны.

Размяшчаюць нас у гатэлі “Масква”. Самы цэнтр горада. І тут сутыкаюцца два стылі: ампір блізкага Манежа з аздобамі, але яшчэ без перабольш-

ванняў “Масквы” ці гмаха Савета народных камісараў насупраць.

Тыя два шматпавярховыя гмахі ствараюць ансамбль, які мне падаецца прыналежным да вельмі вялікага горада. Але і ўсё атачэнне, такое рознае, бо і ампір Манежа ці Вялікага тэатра, і страшная дэкадэнцыя гатэля “Метраполь”, і псеўдастарарускі стыль Музея рэвалюцыі і нарэшце цудоўны комплекс Крамля - неяк вельмі між сабой дапасаваныя. У цэлым пачуваюся тут добра, па-свойску, як дома.

Атрымоўваю пакой, цалкам прыстойны, без ванны, але з душам. Гатэль добра дагледжаны і някепска функцыянуе. Велізарны рэстаран. Наверсе - кавярня, унізе - кафетэрый, ці бар з самаабслугоўваннем. Цэны зносныя. Зрэшты, грошы я маю. Гэта не толькі гатэль. Цэлы горад поўны прадуктаў. Ніякіх чэргаў. У кіёсках папяросы, якіх выкурыў нечуваную колькасць. Марозіва. На пачатку Горкага “Кактэйль - бар”. Зайшлі туды аднаго дня. Падаюць розныя смачныя напоі. Людзей няшмат.

Да Усіевіч адсюль два крокі, абодва каля Крамля. Хаджу па некалькі разоў на дзень, гляджу на муры. Не скажу, каб дзівіўся. Выдаецца ён мне старым знаёмым, да якога па-просту вярнуўся. Ёсць зрэшты вельмі свойскі: бедны скверык перад мурамі. Вежы дзіўныя, кожная інакшая, але цэльнасць іх прымаю да сваёй свядомасці без здзіўлення, якое стварае чужасць. Васіль Блажэнны, пра які столькі апавядала маці. Яна была ў Маскве трыццаць гадоў таму назад. Пасля дакладнага апісання Крамля пераходзіла на МХАТ. Была тады на “Сіняй птушцы” Метарлінка. Дзясяткі разоў па маёй просьбе распавядала мне пра тое прадстаўленне.

Пэўна гэта яе вачыма гляджу я цяпер на гэты горад, такі іншы ад таго, які бачыла яна, і такі мне знаёмы...

Спякотны паполудзень. Рух на вуліцах. Міліцыянты махаюць рукамі на скрыжаваннях. Падумаў бы, што ніякай вайны няма. Не падумаеш - бо ўвесь цэнтр перамаляваны. На Манежнай плошчы выраслі велізарныя квадраты і трохкутнікі, якія маюць імітаваць дамы. Мнеж, гатэль “Масква”, Крэмль - усё ў абстрактных геаметрычных фігурах і плямах. На Чырвонай плошчы аглядаем маўзалей Леніна. Закрыты.

Хадзім па вулачках цэнтра. Уражвае велізарная колькасць вітрын, за якімі цесна адно пры другім павырасталі бюро. Увесь гмах (зрэшты вельмі брыдкі) даўняга ГУМ-а ці цэдэгу* на Чырвонай плошчы свеціцца такімі амаль згаслымі вокнамі. Гэта заміж купецкіх крамаў пароблены ўстановы. Адтуль пасля паўдня вывальваюцца натоўпы, запаўняюць вуліцы, усмоктваюцца ў падзямелле метро.

Канешне, метро тое мы адразу агледзелі. Канешне, выдатна. Ездзілі ім туды і назад па ўсіх трох лініях, якія тады функцыявалі. Адна са станцый (ці не Чырвоныя вароты?) не працавала. Шапталі, што на выпадак налёту хаваюцца там тыя, з Крамля. Метро, зрэшты, выдатна падходзіла пад схованку. Некаторыя станцыі на некалькі дзесяткаў метраў пад зямлёй.

**“Новыя гарызонты”**

Усіх нас, улучна з жонкай Слабодніка, заангажавалі нарэшце да рэдакцыі “Новых гарызонтаў”. Была яна ў той час вельмі пустая. Уся львоўская суполка засталася ў Львове, за выключэннем Ванды, якая была ў Кіеве, цяпер ужо на лініі фронту.

Акрамя Усіевіч на месцы аказалася толькі “загрэд”, ці кіраўнік сакратарыяту, нейкая Карастылёва, зрусіфікаваная полька, ужо аўдавелая, з сынам падлеткам.

Рэдакцыя размяшчалася пры “Гослитиздате” на Вялікім Чаркаскім завулку, блізка ад плошчы Дзяржынскага. Увесь завулак - даўней гэта былі крамы і гандлёвыя дамы, цяпер установы.

Мы размяшчаліся ў некалькіх старых пакойчыках. Я стаў кіраўніком, здаецца, аддзела прозы. Паняцця не меў, што трэба рабіць. Выбух вайны запазніў выхад і так ужо спозненага травеньскага нумара. Спешна далучылі пару адозваў і выдалі як нумар 5-6.

Якраз выйшлі першыя асобнікі. З прыемнасцю знайшоў там першыя тры раздзелы “Рэчаіснасці”.

Але ў грунце рэчаў уся канцэпцыя выдання была перавернута вайной. Яно было разлічана на польскую інтэлегенцыю Львова, Вільні, Беластока. Усё гэта ўжо было пад немцамі.

Спачатку, у сілу безуладдзя, спрабавалі толькі переставіць выданне на ваенныя рэйкі. Я шукаў прозу. Увесь запас аказаўся састарэлым, улучна з “Рэчаіснасцю”. Звыш усеарганізаванасці была рэчаіснасць ваенная. Здавалася амаль блюзнерствам пісаць пра студэнцкія гісторыі, хоць бы і трагічныя, на фоне вялікага пажару, які пачынаў ужо заглядваць у вокны Масквы.

Хто з польскіх пісьменнікаў аказаўся па гэты бок лініі фронту? Важык быў у Крыме ці ў Гаграх. Мы не мелі з ім кантакту. Шамплінская ўцякла з мужам і дзіцем на матацыкле. Была цяпер недзе пад Растовам. Але і пра тое мы не ведалі. З Вільні ўцёк Мікулка. Быў над Волгай. Але па-першая не займаўся прозай, па-другое, і пра яго ніякіх вестак яшчэ не было.

Я застаўся адзін. Цяжкая рада, пачаў шукаць чаго-небудзь з прозы расейскай. Але і гэта мусіла быць пра вайну, а тыя ваенныя пачаткі проза праходзіла больш цяжка і павольна, чым паэзія.

У роспачы сабраўся сам за апавяданне. Меў вераснёвую навэлу “Гэты і той бераг моста”. Я не бачыў верасня, навэла была злепкам дзвюх пачутых аповесцяў, але трымалася разам. Цяпер трохі бачыў гэтай вайны. А ішло ў мяне значна горш. Па-просту таму, што нельга было ўчапіцца за нейкую аптымістычную хоць бы дэтальку, не ўпадаючы адразу ў яскравы канфлікт з уласнымі перажываннямі месяц назад. А іначай, што за сэнс было б тады пісаць!

У выніку вымучыў жудаснае апавяданне, якое не толькі нідзе не змясціў, але і не прачытаў паўторна.

*(Працяг у наступным нумары.)*

* Цэдэг (па-руску, цэдэт), ад ЦДГ (ЦДТ) - Цэнтральны дом гандлю (Цэнтральный дом торговли).

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




**У Познаньскім выдавецтве выйшла кніга Ежы Стрэльчыка “Забытыя народы Еўропы”, 396 ст.**




**У Рызе ў выдавецтве “Інстытут беларускай гісторыі і культуры” выйшла кніга Іллі Копыла “Нябышына. Акупацыя вачыма падлетка”, 288 ст. Наклад 500 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Медысонт” выйшла кніга Стэфана К. Роўэла “Уздым Літвы. Паганская імперыя ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, 1295 - 1345”, 424 ст. Наклад 750 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Харвест” выйшла кніга Кастуся Цвіркі “На скрыжалях вякоў”, 560 ст. Наклад 1000 асобнікаў.**




**У Варшаве ў выдавецтве “Bellona” выйшла кніга Генрыка Віснера “Кірхгольм, 1605. Трыумф польскай кавалерыі”, 200 ст.**




**У Гародні ініцыятыва “Гарадзенская бібліятэка” выдала кнігу “Гародня, X - XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам”, 514 ст.**



**Помнік Незалежнасці на плошчы Славы ў г. Лідзе.** *Граніт. Адкрыты 12 лістапада 1930 г.*
*Праект студэнта-архітэктара Браніслава Кліцкага. Скульптар Трапіла-Бароўскі з Наваградка.*